# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (90) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2020 г.

## Ліда - культурная сталіца Беларусі 2020 года



**Стадуб Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч),**

**беларускі паэт, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў**

**(24.04. 1938 г. в. Юшавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобл. - 8.06.2020, г. Ліда)**

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 90 ) КРАСАВІК- ЧЭРВЕНЬ 2020 г.

## У НУМАРЫ:






**На першай старонцы вокладкі: Лідскі раённы палац культуры. Здымак С. Судніка. 2020 г.**



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**10 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2720.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2020 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.09.2020 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 3,11 руб.**
**індывід. 6 мес. - 6,22 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218 - 1792




# Кроніка Ліды

У красавіку на Лідчыну прыйшла пандэмія Covid-19.
Сістэма аховы здароўя ўключылася ў бітву за здароўе лідзян.
У Лідзе навучэнцы політэхнічнага ліцэя пачалі пашыў ахоўных масак для твару.





У пачатку красавіка ў раёне індывідуальнай засбудовы ля в. Чэхаўцы па вул. Акруговай пачалося будаўніцтва новай дарогі ў пяшчана-гравійным выкананні. Даўжыня палатна - каля 700 метраў.

17 красавіка ў рамках традыцыйных выязных мерапрыемстваў Аляксандр Лукашэнка наведаў шклозавод "Нёман" у Бярозаўцы. Ён пабываў на вытворчасці шкловаты, а таксама ў цэху па вырабе крышталю. Пасля гэтага адбылася запланаваная сустрэча з супрацоўнікамі шклозавода.





8 чэрвеня памёр лідскі паэт, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Стадуб.



У пачатку чэрвеня міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі прызначаны ўраджэнец Ліды Андрэй Хмель. Да гэтага часу ён працаваў на пасадзе намесніка міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а яшчэ раней - на пасадзе гендырэктара Гарадзенскай гарадской ЖКГ.




13 чэрвеня "Лідскае піва" правяло "Агульную дыктоўку - 2020".

# Лідскія юбіляры 2020 года

## Старшаму навуковаму супрацоўніку Лідскага гістарычна-мастацкага музея Сліўкіну Валерыю Васільевічу - 75 гадоў

8 чэрвеня 2020 года старшаму навуковаму супрацоўніку Лідскага гістарычна-мастацкага музея кандыдату геаграфічных навук **Сліўкіну Валерыю Васільевічу** споўнілася 75 гадоў.

Публікаваўся ў "Лідскім летапісцы", "Лідскай газеце". Апошнія 10 гадоў актыўна супрацоўнічаў з сайтам lida.info. Першая его работа на сайце lida.info была апублікавана ў снежні 2010 года. За мінулыя 10 гадоў ён апублікаваў на сайце каля 100 артыкулаў.

Па матэрыалах публікацый былі выданы кнігі:

"История лидского бровара.1876-2012". Vilnius. 2013.

"Аэродром Лида. Сто лет полетов". 2013.

"Intelektualisci Ziemi Lidzkiej".Warszawa. 2018.

Прыводзім спісак публікацый Валерыя Сліўкіна ў "Лідскім летапісцы" і на сайце lida.info па гадах, пачынаючы з 2010 года.



**2010 год**

1. Князі Палубенскія. Лідскі летапісец № 1 (49), 2010.
2. Забыты. Лідскі летапісец № 2 (50), 2010.
3. Да пытання аб лакалізацыі Дайнаўскага княства. Лідскі летапісец № 2 (50), 2010.
4. Лідскія ветракі. Лідскі летапісец № 2 (50), 2010.
5. Мужчынская гімназія ў Лідзе. Лідскі летапісец № 3 (51), 2010.
6. Немцы ў Лідзе. 1941-1944. Лідскі летапісец № 3 (51), 2010.
7. Кароль Падчашынскі. Лідскі летапісец № 4 (52), 2010.
8. Генерал-лейтэнант Юзаф Зарэцкі (Іосіф Заржэцкі) (19.12.1800 - 29.01.1869). Лідскі летапісец № 4 (52), 2010.
9. Да стагоддзя Данііла Маркавіча Шапіры. Лідскі летапісец № 4 (52), 2010.
10. Будзевіч Іван Іванавіч. Лідскі летапісец № 4 (52), 2010.
11. Генерал-лейтенант Иосиф Заржецкий. lida.info.

**2011 год**

1. Исторические хроники Лиды (по месяцам в 12 частях). lida.info.
2. Лидский замок в наши дни. lida.info.
3. Аналитическое исследование о Лидском замке (в 6 частях). lida.info.
4. Освобождение Лиды по воспоминаниям солдат и офицеров (в 9 частях). lida.info.
5. Основание города Лида. lida.info.
6. Белицкие христианские храмы. lida.info.
7. Освобождение Лиды было 8 июля 1944 г. lida.info.
8. Лидский пивоваренный завод (в 30 частях). lida.info.
9. Лидский Крестовоздвиженский (p.w. Podwyzszenia Krzyza Swietego) Фарный костел (в 6 частях). lida.info.
10. Фотовыставка "Археологические находки Лидского замка". lida.info.
11. Девять причин, по которым нельзя строить в Лидском замке два здания универсального назначения. lida.info.
12. Астрынскія, Беліцкія, Васілішскія, Жалудоцкія, Конеўскія, Лідскія, Радунскія і Эйшышскія баяры ў 1528 г. Лідскі летапісец № 1 (53), 2011.
13. Гісторыя лідскага перыядычнага друку Частка I (да 1990 г.). Лідскі летапісец № 2 (54), 2011.
14. Радзюк Трафім Сямёнавіч. Лідскі летапісец № 3 (55), 2011.
15. Наскоў Іван Міхайлавіч. Лідскі летапісец № 3 (55), 2011.
16. 50 гадоў назад футбольная каманда Ліды ўпершыню стала чэмпіёнам Гарадзенскай вобласці.

Лідскі летапісец № 3 (55), 2011.

17. Панчанкаў Віктар Ільіч. Лідскі летапісец № 4 (56), 2011.

18. Кудлу Віктару Іванавічу - 70. Лідскі летапісец № 4 (56), 2011.

**2012 год**

1. Интеллектуалы Лидской земли (в 9 частях). lida.info.

2. Улицы Лиды или лидские годонимы (в 4 частях). lida.info.

3. Воздухоплавательные части в 1914-18 гг. lida.info.

4. Судьба механика 26 корпусного воздухоплавательного отряда В.М. Астрожникова. lida.info.

5. 140 лет со дня рождения Петра Семеновича Когана. lida.info.

6. К 100-летию Лидского аэродрома (в трех частях). lida.info.

7. Лидский замок. Вымыслы и мифы (в 2 частях). lida.info.

8. К 140-летию академика Владислава Людвиговича Котвича. lida.info.

9. Водяные мельницы Лидской земли (в 2 частях). lida.info.

10. Лидская коллекция кирпичей. lida.info.

11. Улица Виленская. 1908-1917гг. (в 3 частях). lida.info.

12. Акадэмік Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч. Лідскі летапісец № 1 (57), 2012.

13. Прэзідэнт Расійскай дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук з Ліды. Лідскі летапісец № 2 (58), 2012.

**2013 год**

1. Имения Лидского уезда. Имение Малое Можейково или Малый Можейков (ныне Можейково). lida.info.

2. Возвращение В.С. Новицкой на книжные прилавки. lida.info.

3. Лидский аэродром. 31 ИАП. Октябрь 1939 - июнь 1940 года. lida.info.

4. Лидский район и город Лида. Самые знаменитые и широко известные (в 3 частях). lida.info.

5. Лидский аэродром. 5- я летная база. 24 августа - 17 сентября 1939 г. lida.info.

6. Лидская земля. Самое древнее, самое большое и самое первое. lida.info.

7. Лидский аэродром. Состав эскадр 5 полка. lida.info.

8. Лидский аэродром. 5 летный полк. 1928 - август 1939 гг. lida.info.

9. Лидский аэродром. "Мекка польских истребителей". lida.info.

10. Имения Лидского уезда. Имение Тарново (Тарновщизна). lida.info.

11. Имения Лидского уезда. Большое Ольжево (Ольжев Великий). lida.info.

12. Имения Лидского уезда. Имение Жирмуны. lida.info.

13. Имения Лидского уезда. Имение Малюзин. lida.info.

14. Лидский аэродром. 1919-1922 гг. lida.info.

15. Лидский аэродром 1915-1918 гг. lida.info.

16. Эскадра тяжелой авиации и легендарный конструктор И.И. Сикорский на Лидском аэродроме (в 2 частях). lida.info.

17. Дайновское княжество: местоположение и расселение (в 2 частях). lida.info.

18. Корпусные отряды 4-й роты в первые месяцы войны. lida.info.

19. Лидская кирпичная коллекция увеличивается. lida.info.

20. Лидский аэродром. 4-ая авиационная рота (в трех частях). lida.info.

21. Интеллектуалы Лидской земли (в 5 частях). lida.info.

22. Рамонты і рэстаўрацыйныя работы ў Лідскім замку ў пачатку XX стагоддзя. Лідскі летапісец № 1 (61), 2013.

23. Вяртанне Веры Навіцкай. Лідскі летапісец № 4 (64), 2013.

24. Выбітны шахматны кампазітар. Лідскі летапісец № 4 (64), 2013.

25. Гісторыя, напісаная ў небе. Лідскі летапісец № 4 (64), 2013.

**2014 год**

1. О книге рекордов Лидчины. lida.info.

2. Самый богатый предприниматель родом из Лиды. lida.info.

3. Лидский уезд. 1915 год. Органы власти и самоуправления. lida.info.

4. Лидские воинские подразделения в военных событиях первого года войны. 172-й пехотный полк. lida.info.

5. 307-я Лидская Краснознаменная ордена Суворова штурмовая авиационная дивизия. lida.info.

6. Лидский уезд. 1914-1918 гг. Первая Мировая война. Мобилизация. lida.info.

7. Лидский уезд. 1914-1918 гг. Первая Мировая война. lida.info.

8. Имения Лидского уезда. Имение Бердовка (Бердовля). lida.info.

9. Имения Лидского уезда. Имение Дикушки (Биикушки). lida.info.

10. Имения Лидского уезда. Имение Лебеда (Тризнянская Лебеда, Большая Лебеда). lida.info.

11. Ліда і Лідскі павет. 1913 - першая палова 1914 г. Лідскі летапісец № 3 (67), 2014.

**2015 год**

1. Имения Лидского уезда. Имение Заполье. lida.info.

2. Имения Лидского уезда. Имение Ловчиловичи (Рыловцы). lida.info.

3. Лида - город с Магдебургским правом (1590-1795). lida.info.

4. Имения Лидского уезда. Имение Сукурчи. lida.info.

5. Радивонишская Свято Анненская церковь по клировым ведомостям за 1847-1864 годы. lida.info.

6. Имения Лидского уезда. Имение Радивонишки. lida.info.

7. Имения Лидского уезда. Имение Кульбаки. lida.info.

8. Партизанский отряд "Искра". Списочный состав. lida.info.

9. Лидский аэроузел. 19 июля - 9 августа 1944 г. lida.info.

10. Ответ сотрудника Лидского музея Сливкина Валерия Васильевича на возникшие вопросы по опубликованному ранее материалу о гибели Анатолия Ермолова. lida.info.

11. Трагическая смерть Анатолия Ермолова. lida.info.

12. Лидский аэродром. 19 июля - 6 октября 1944 г. 6-я гвардейская Таганрогская Краснознаменная бомбардировочная авиационная дивизия. lida.info.

13. Аэродром Чеховцы. 13-16 июля 1944 г. 3-я гвардейская Брянская истребительная авиационная дивизия. lida.info.

14. Лидский аэродром. 13-16 июля 1944 г. lida.info.

15. 51 беглец. lida.info.

16. Железнодорожная станция Лида в трех частях. 1883-1945 гг. lida.info.

17. Гісторыя, напісаная ў небе. Лідскі летапісец № 1 (69), 2015.

18. Гісторыя, напісаная ў небе. Лідскі летапісец № 4 (72), 2015.

**2016 год**

1. Дореволюционные фотоателье в Лиде. lida.info.

2. Гедимин и Лида. К 700-летию избрания Гедимина великим князем литовским. lida.info.

3. Учебные заведения Лидского уезда. Лидское уездное дворянское училище. lida.info.

4. Учебные заведения Лидского уезда. lida.info.

5. Учебные заведения Лидского повета. lida.info.

**2017 год**

1. Лидский помещик - основатель Польского Национального Союза США. lida.info.

2. Лидский пивоваренный завод наследников Я.Л. Папирмейстера (1901-1939). lida.info.

3. Лидский пивзавод Янкеля Папирмейстера (1883-1900). lida.info.

4. Домейки в Лидском уезде. lida.info.

5. Имения Лидского уезда. Имение Вашкевичи. lida.info.

6. Имения Лидского уезда. Имение Острово (Остров). lida.info.

7. Северный городок. 3-й Седлецкий полк Западной дивизии РККА. lida.info.

8. Северный городок. 1915-1918 годы. lida.info.

9. Северный городок. I-ый Невский Его Величества Короля Эллинов пехотный полк. lida.info.

10. Северный городок. 172-й Лидский пехотный полк. lida.info.

11. Первая телефонная сеть в Лиде и места расположения подразделений 172-го Лидского пехотного полка в 1909-12 гг. lida.info.

12. Первые кинотеатры в городе Лида. lida.info.

**2018 год**

1. Ветераны Лидского пивоваренного завода. lida.info.

2. Лидская табачная фабрика Шпильковского и Даршона. lida.info.

3. Стекольный завод Ленского (1885-1901). lida.info.

4. Большая лидская синагога (1896-1941). lida.info.

5. Народные училища Лидского уезда (1863-1915). lida.info.

6. Лидская синагога 1893 года. lida.info.

7. "Память - главный свидетель". lida.info.

8. Лида и Лидский замок в анналах Яна Длугоша. lida.info.

9. Зарождение промышленного пивоварения на территории современной Беларуси. Первый лидский пивзавод. lida.info.

10. Лида и Лидский замок в хронике Мацея Стрыйковского. lida.info.

11. Лида в западнорусских (литовско-белорусских) летописях. lida.info.

12. Лідская сінагога 1893 года. Лідскі летапісец № 2 (82), 2018.

13. Вялікая Лідская сінагога (1896 - 1941). Лідскі летапісец № 3 (83), 2018.

14. Гута Ленскага (1883-1901). Лідскі летапісец № 4 (84), 2018.

**2019 год**

1. Улица Каменская. lida.info.

2. Справа пани Андреевое Завишыча. lida.info.

3. Лида. Сентябрь 1939. lida.info.

4. Лида и Лидский замок в составе ВКЛ. lida.info.

5. 8 мая 1942 года. Пятница. lida.info.

6. Улица Кривая. lida.info.

7. Мытская (Мытлянская) Свято-Покровская церковь. lida.info.

8. Мыто. Городище, деревня-местечко, имение. lida.info.

9. Лида 1919 год. Борьба наций за Белую Русь. lida.info.

10. Ліда - 1919 год. Барацьба нацый за Беларусь. Лідскі летапісец № 2 (86), 2019.

11. Ліда. Верасень 1939. Лідскі летапісец № 3 (87), 2019.

12. Выхадцы з Лідскай зямлі - героі Вэстарплята. Лідскі летапісец № 3 (87), 2019.

**2020 год**

1. Школьный двор в Лиде. 1775-1941гг. lida.info.

2. Улица Садовая и прилегающие переулки. 1898-1941гг. lida.info.

3. Дворище и окрестные деревни. 1944-1948 гг. lida.info.

4. Уроженцы Лидской земли - герои Вестерплятте. lida.info.

5. Имение Дворище (в 4 частях). 1520-1944 гг. lida.info.

*Паводле lida.info.*

***Валерый Сліўкін***

# Школьны двор у Лідзе. 1775-1941 гг.

Габрэі пасяліліся ў Лідзе ў другой палове XVI стагоддзя. У 1579 г. Кароль Стэфан Баторый дазволіў лідскім габрэям пабудаваць сінагогу. Кароль Уладзіслаў Ваза 28 лютага 1633 г. дазволіў пабудаваць другую сінагогу. У сярэдзіне XVII стагоддзя Лідская габрэйская грамада налічвала 160 чалавек.

Пасля руска-польскай вайны 1654-1667 гг. грамада прыйшла ў заняпад - не магла плаціць у скарб нават самыя нязначныя плацяжы. Кароль Ян-Казімір дараваў лідскім габрэям некаторыя палёгкі і адтэрміноўку ад выплаты падаткаў. Кароль Міхаіл Карыбут Вішнявецкі 19 красавіка 1670 г. абавязаў габрэяў выплачваць падаткі на агульных падставах і перанёс гарадскі гандаль на суботу. Да канца XVII стагоддзя беднасць лідскіх габрэяў прыняла хранічны характар. У красавіку 1701 г. справа дайшла да суда з-за доўгу ў 2100 злотых лідскага кагалу спадчыннікам шляхціца Іоўця. Пасля таго, як шведскія войскі падчас Паўночнай вайны тройчы абрабавалі горад - у 1702, 1706 і 1708 гадах - беднасць лідскіх габрэяў стала трагічнай. 15 траўня 1709 г. Літоўскі Трыбунал прыняў дэкрэт, па якім старшыны Лідскай сінагогі Ісак, Іцка і Моўша Якубовічы, Якуб Іанасовіч, Азік, Іцка Кушалевіч, Рубін Несановіч і Хаім Іаўсялевіч былі прысуджаны да інфаміне - пазбаўленню гонару і смяротнага пакарання.



***Фрагмент падымнага тарыфу Лідскага павета 1775 г. (2. Л.3).***




***На гарадскіх планах 1798г і 1842г на тэрыторыі Школьнага двара пазначана габрэйская школа***

У XVI- XVIII стагоддзях лідскія габрэі займаліся дробным гандлем, вытворчасцю спіртных напояў, сельскай гаспадаркай і рамяством. У сярэдзіне XVIII стагоддзя горад стаў па большасці габрэйскім, у 1766 г. у Лідскім кагале налічвалася 1167 душ, у 1797 у Лідскім павеце жыў 4361 габрэй. У самыя цяжкія часы, пры любой ступені беднасці, у горадзе Лідзе заўсёды дзейнічалі сінагогі і габрэйскія школы (1).

Тэрыторыя, дзе габрэйская грамада размяшчала свае сакральныя збудаванні і навучальныя ўстановы, звалася Школьны двор. Гэты двор у Лідзе прылягаў з паўночнага захаду да Рынкавага пляца. Даўжыня двара 100-110 м, шырыня ад 25 да 75 м, агульная плошча 0,5 гектара.

Упэўнена гаварыць пра існаванне ў Лідзе Школьнага двара можна пачынальна з 1775 г.

У той год на Школьным двары па адным дыме мелі лідскі рабін Янкель Ясяловіч, Авадыя Сраловіч, удава суддзі, Борух, Юрша Давыдовіч, Вольф Іршовіч, Яцка Маўшовіч (2).

У ноч з 6 на 7 кастрычніка 1891г у Лідзе здарыўся велізарны пажар - згарэла практычна ўся цэнтральная частка горада: 444 жылыя дамы і 283 пабудовы на суму 679 408 руб., у тым ліку ўсе пабудовы Школьнага двара. Лідскія габрэі звярнуліся да габрэяў Заходняга краю з просьбай пра фінансавую дапамогу. Дапамога была аказана.

За 12 гадоў (1892-1904)былі збудаваны пяць мураваных будынкаў:

**Сінагога 1893 г.** - цагляны двухпавярховы прастакутны будынак 21,3х10,7м, аб'ёмам 1035 м[3], зала плошчай 140 м[2] і тры ўваходы; дзве паўкалоны каля ўваходу, 24 акны, двухсхільны дах, падмуркі глыбінёй 1,7 м. Будавалася з 30 сакавіка 1892 г. па 20 снежня 1893 г. Будаўніцтва вялі ўпаўнаважаныя лідскай малітоўнай грамады Зелік Іцкавіч Пупко і Берка Нахманавіч Камянецкі. Архітэктар Аляксей Уладзіміравіч Полазаў (3).



*Сінагога 1893 г.*

**Вялікая сінагога** - двухпавярховы цагляны прастакутны будынак (23х28 м) вышынёй у 30 метраў. Сцены мятровай таўшчыні, чатыры ўнутраныя апорныя квадратныя слупы. Двух'ярусная структура з павялічаным другім ярусам. Цэнтральны партал, упрыгожаны падковападобнай аркай, акном-ружай, двухстворкавыя дзверы. 43 акны, 8 з іх на фасадзе з вітражнымі шыбамі. Фігурны мур двухколернай цэглы. Міжпавярховы пояс парэбрыка. Пілястры. Паўкалоны з базамі і капітэлямі ў міжаконных праёмах на другім



*Лідская Вялікая Сінагога. 1911 г.*

паверсе. Шырокі карніз з зубчыкамі. Фігурны атык, статуі на кутах. Чатырохсхільны дах. Шасцігранны светлавы барабан з круглымі вокнамі з мазаічнымі рознакаляровымі зоркамі Давыда, завершаны купалам са спічаком. Дзіўнай прыгажосці будынак. Будавалася вялікая сінагога з 24 жніўня 1892 г. па 22 снежня 1896 г. Упаўнаважаны Лазар Ісакавіч Пупко. Архітэктар Аляксей Уладзіміравіч Полазаў (4).

**Габрэйская Школа хасідаў № 2** - двухпавярховы цагляны будынак з двума аддзяленнямі: мужчынскім на першым паверсе і жаночым на другім, з двума асобнымі ўваходамі, 14 вокнамі.

9 лютага 1893 г. 2-е аддзяленне Губернскага кіравання падало ў Будаўнічае аддзяленне праект на пабудову ў Лідзе малітоўнай школы наўзамен згарэлай. 17 сакавіка праект быў зацверджаны.

29 лістапада 1893г Упаўнаважаны Борух Шмуйлавіч Рубінштэйн паведаміў Губернскаму кіраванню: *"Гэтым маю гонар заявіць, што мураваная габрэйская школа хасідаў № 2 у гор. Лідзе, дазволеная да пабудовы па праекце, зацверджаным Будаўнічым Аддзяленнем 17 сакавіка 1893 г. пабудоваю скончана. Чым маю гонар прасіць Губернскае Кіраванне пра агляд будынка школы тэхнікаў Будаўнічага аддзялення"* (5. Л. 4).





*Габрэйская Школа хасідаў*

14 снежня 1893 г. Віленскі губернскі інжынер Л.Д. Вінер і лідскі павятовы спраўнік С.М. Ляўданскі склалі акт: *"Сведчачы азначаную школу, пабудаваную наўзамен згарэлай, знайшлі што работы па пабудове яе праведзены са значнымі адступленнямі ад праекта, зацверджанага пратаколам Будаўнічага Аддзялення 17 сакавіка 1893 г., з якіх істотнае, гэта тое, што замест унутраных незгаральных усходаў такія ўладкованы драўляныя, у драўлянай жа знадворку будынка прыбудове. Прымаючы да ўвагі, што падобныя ўсходы вядуць у памяшканне для жанчын -*

*малітоўніц, і ўяўляюць у выпадку пажару вялікую небяспеку, мы, са свайго боку, не знаходзім магчымым дапусціць уваход у жаночае аддзяленне да ўладкавання ўсходаў, паводле праекта, г.зн., каб былі зроблены з незгаральных матэрыялаў і знаходзіліся б у такім жа памяшканні"* (5. Л. 5-5 аб.).

У ліпені 1896 г. незгаральныя ўсходы яшчэ не былі ўладкаваны. Упаўнаважаны малітоўнай грамады Борух Рубінштэйн і распарадчыкі школы Хаім Камянецкі і Іцка Эдальштэйн пра ўладкаванне патрабаваных усходаў і пра недапушчэнне ўваходу ў жаночае аддзяленне паліцэйскім наглядчыкам абавязаны падпіскаю: *"1896 года, ліпеня, 17 дня мы ніжэйпадпісаныя ўпаўнаважаны і распарадчыкі малітоўнай грамады габрэйскай малітоўнай школы хасідаў № 2 гэтым абавязваемся: замест існых у азначанай школе ў жаночым аддзяленні драўляных усходаў уладкаваць мураваныя і да ўладкавання такіх, уваход у жаночае аддзяленне не дапускаць.*

*Борух Рубінштэйн, Хаім Камянецкі, Іцка Эдальштэйн.*

*Подпісы адбіраў паліцэйскі наглядчык г. Ліда подпіс"* (5. Л.12).

У студзені 1897 г. усходы па-ранейшаму не ўладкаваны. У лютым Б.Ш. Рубінштэйн растлумачыў, што *"работы па пабудове незгаральных сходаў у жаночым аддзяленні школы па цяперашні час яшчэ не пачыналіся і абавязваюся да ўладкавання незгаральных сходаў прыступіць з пачаткам сезону для мулярных работ, а да таго часу не дапусціць, каб па цяпер існых усходах хадзілі тыя, малітоўніцы"* (5. Л.15).

У траўні 1897 г. паліцэйскі наглядчык г. Ліды С.М. Кузьмінскі пры наведванні школы выявіў, *"што да работ па замене цяпер існых усходаў незгаральнымі ... яшчэ нават не прыступалі"*. Склаў пратакол, а для спынення хаджэння жанчын-малітоўніц, па цяпер існых усходах загадаў *"зрабіць на дзверы ля ўваходу на ўсходы службовыя пячаткі аж да пачатку работ"* (5. Л.16-16 аб.).

І толькі 23 кастрычніка 1897 г. паліцэйскі спраўнік Лідскага павятовага паліцэйскага кіравання Я.А. Сабалеўскі рапартаваў у Будаўнічае аддзяленне, што *"работы па пабудове незгаральных сходаў у гэты час ужо скончаны"*.

Прыёмны акт быў падпісаны 11 траўня 1899 г. *"пасля агляду пабудаванай малітоўнай габрэйскай школы, якая ўжо была агледжана ў 1893 г., але пры аглядзе было знойдзена, што на другі паверх школы ўладкаваны супрацьзаконна драўляныя ўсходы наўзамен мураваных. У гэты час аказалася, што ўсходы перабудаваны і зроблены незгаральнымі. На падставе вышэйпададзенага, мы мяркуем, што маленне ў другім паверсе можа быць дапушчана беспярэшкодна.*

*Губернскі інжынер Л.Д. Вінер і паліцэйскі наглядчык г. Ліды С.М. Кузьмінскі"* (5. Л. 20).



12

1896 года Июля 17 дня мы нижеподписавшиеся уполномоченный и распорядители молитвенного общества еврейской молитвенной школы хасидов № 2 сим обязуемся: вместо существующей в означенной школе в женском отделении деревянной лестницы устроить каменную и до устройства таковой, вход в женское отделение не допускать.

Борух Рубинштейн
Хаим Каменецкий
Ицка Эдельштейн

Подписку отбирал
Полицейский Надзиратель
г. Лиды [signature]

**Заключэнне па малітоўнай школе хасідаў № 2**

На падставе акта Будаўнічае аддзяленне прыняло рашэнне: *"Дазволіць здзяйсненне малітваў у габрэйскай школе"*.

16 ліпеня чальцы малітоўнага кіравання Школы хасідаў № 2 Хаім Камянецкі і Іцка Эдальштэйн атрымалі прадпісанне Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання ад 8 ліпеня пра дазвол малітвы на другім паверсе школы.

Лідская Школа хасідаў - цагляны прастакутны будынак 19,2x12,8 м была пабудавана за 10 месяцаў, з лютага па снежань 1893 г., але з адступленнем ад праекта. 3,5 гады дзейнічалі абодва аддзяленні, мужчынскае і жаночае. У траўні

1897 г. жаночае аддзяленне было зачынена. У ліпені 1899 г. пасля ўладкавання мураваных сходаў набажэнства было дазволена і ў жаночым аддзяленні. Колькі гадоў будавалася школа?

**Малітоўная школа Бейс-Тфіло (Дом Малітвы).** 24 жніўня 1901 г. Хацкель Іцкавіч Пупко, Хаім Гіршавіч Прускі і Абрам Гірш Душман падалі прашэнне ў Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання: *"Хочам пабудаваць мураваны будынак для малітоўнага дома на зямлі, якая належыць нашаму малітоўнаму дому, размешчанаму ў г. Лідзе на Школьным двары з прадстаўленнем пры гэтым праекта з копіяй гэтага. Маем гонар пакорна прасіць Будаўнічае аддзяленне вышэйсказаную пабудову малітоўнага дома пад назвай Бейс-Тфіло нам дазволіць і прыкладзены пры гэтым праект зацвердзіць"* (6. Л.1).

На запыт Будаўнічага аддзялення 2-е аддзяленне Віленскага губернскага кіравання 17 верасня паведаміла: *"У горадзе Лідзе ў драўлянай хаце Зеліка Пупко дазволена да існавання габрэйская малітоўная школа "Бейсъ-Тфіло" па пастанове гэтага кіравання, якая адбылася 10 сакавіка 1897 г. ... да задавальнення хадайніцтва старшынаў азначанай школы адносна пабудовы новага мураванага дома для гэтай школы з выкананнем існых на гэты прадмет законапалажэнняў з боку гэтага кіравання перашкод не сустракаецца. В.п. дараднікa, подпіс"* (6. Л. 4-5).

Лідскае Гарадское спрошчанае грамадскае кіраванне 18 верасня 1901 г. на запыт выказалася, што *"не знаходзіць магчымым даць згоду на азначаную пабудову па наступных меркаваннях: па-1-ае са справы Гарадскога кіравання не відаць, каб малітоўная грамада "Бейс-тфіло" прысудам сваім пастанавіла б вызначэнне пра пабудову новага мураванага будынка для школы і пра ўпаўнаважанне сваіх старшынаў на хадайніцтва па гэтым прадмеце; па- 2-ое, што малітоўная грамада не паказала прысудам сваім крыніц, з якіх будуць пакрыты выдаткі на пабудову школы; па-3-яе, што пляц, на якім мяркуецца пабудова малітоўнай школы, зусім не ёсць уласнасцю малітоўнай грамады "Бейс-тфіло", а такі пляц, абнесены вакол плотам, належыць малітоўнай сінагозе, пры чым частка гэтага пляца абсаджана дрэвамі накшталт скверыка, і на частцы маецца пісуар сінагогі, пры чым звестак пра пераход ці пераўступку пляца сінагогі да малітоўнай грамады "Бейс-тфіло" не маецца; па-4-ае, што меркаваная пабудова мае быць зраблена фасадам не да Школьнай вуліцы, а да праходнога завулка, які на гарадскім плане зусім не значыцца. Гарадскі стараста С.С. Масленнікаў"* (6. Л. 6-6 аб).



***Малітоўная школа Бейс-Тфіло***

Лідскі павятовы спраўнік 19 верасня адказаў, што *"меркаваны да*



***Малітоўная школа Бейс-Тфіло***



***Фрагмент Школьнага двара:***
***А. Меркаваны малітоўны дом хасідаў "Бейс-Тфіло".***
***В. Мураваная малітоўная хата -школа хасідаў № 2.***
***С. Мураваная багадзельня.***
***Д. Драўляная хата пры багадзельні.***

*пабудовы мураваны будынак для габрэйскай малітоўнай грамады ў Школьным двары г. Ліды не супярэчыць патрабаванням артыкулаў 149-152 Будаўнічага Статута, а таму законных перашкод для дазволу гэтай пабудовы не сустракаецца"* (6.Л.7).

Для растлумачэння пытанняў, якія ўзніклі пасля адмовы Лідскага гарадскога грамадскага кіравання, праект пабудовы школы быў перададзены Губернскаму архітэктару, і ён рапартам ад 28 снежня 1901 г. растлумачыў, што *"будынак, у якім цяпер змяшчаецца азначаная школа - трухлявы, драўляны і па памерах сваіх не адпавядае ліку тых, што моляцца, падчас правядзення малітвы задуха ў памяшканні невыносная, тым больш, што вышыня яго ўсяго 3 аршыны ... у дазволе пабудовы новага мураванага будынка школы ўяўляецца крайняя неабходнасць. Месца, пазначанае на прадстаўленым праекце, зусім вольнае і пры пабудове школы будуць выкананы законныя парывы, так што ў тэхнічных адносінах ніякай перашкоды не сустракаецца. Акрамя таго, пры мясцовым аглядзе старшыны гэтай школы паказалі набыты ўчастак зямлі, таксама вольны, прылеглы да месца меркаванай пабудовы школы, які будзе служыць павелічэннем Школьнага двара. Разведзены невялікі садок, абнесены плотам, застанецца некранутым, ... пісуар грамадскі для сінагогі знаходзіцца ўбаку, і новая пабудова ніколькі не будзе служыць перашкодай да карыстання гэтым пісуарам, пра што з вяртаннем заправоджанай справы школы Бейс-Тфіло маю гонар Будаўнічаму Аддзяленню паведаміць.*

*Губернскі архітэктар Полазаў"* (6. Л. 9-9 аб.).

Губернскае кіраванне вызначыла: *"Хадайніцтва Лідскага гарадскога спрошчанага грамадскага кіравання адхіліць і дазволіць старшынам малітоўнай школы "Бейс-Тфіло" пабудаваць замест існай трухлявай драўлянай школы новую мураваную школу…"* (6. Л. 11 аб.).

18 лютага 1902 г. рашэнне Губернскага Кіравання было даведзена да Лідскага гарадскога старасты і старшынаў габрэйскага малітоўнага дома.

24 траўня 1903 г. Будаўнічае аддзяленне пацікавілася ці не пабудавана малельная школа, на што старшыны 7 чэрвеня растлумачылі: *"Школа не зусім гатовая, бо ўсярэдзіне ніякага аздаблення яшчэ няма, пры гэтым абавязваемся, калі школа будзе зусім аздоблена, без усякага прымусу з чыйго-небудзь боку, зрабіць належную заяву Будаўнічаму Аддзяленню. У чым падпісваемся. Хацкель Пупко. Гірш Зяльвянскі"* (6. Л. 19 аб.).

На наступны запыт Будаўнічага аддзялення ад 20 верасня 1903 г. памочнік спраўніка Лідскага павятовага Паліцэйскага Кіравання Р.Ф. Зубрыцкі данёс, што, у зноў выбудаванай школе "Бейс-Тфіло" *"набажэнства ўжо здзяйсняецца, унутранае ўладкаванне гэтай школы не скончана"* (6. Л. 22).

Будаўнічае аддзяленне абурылася і прапанавала Лідскаму Паліцэйскаму Кіраванню высвятліць і дакласці, чаму *"дапушчана здзяйсненне малітваў у выбудаванай школе да падачы заявы пра агляд такой, і запатрабаваць, ад каго належыць, пісьмовай заявы, пра гатоўнасць школы для агляду тэхнікам"* (6. Л. 24-24 аб.).

17 студзеня 1904 г. Р.Ф. Зубрыцкі на прапанову адказаў: *"Чальцамі малітоўнага кіравання школы Бейс-Тфіло ўжо пададзена Будаўнічаму Аддзяленню заява пра заканчэнне работ, напісаны ж паліцэйскім наглядчыкам пратакол пра дапушчэнне чальцамі малітоўнага кіравання здзяйснення малітваў у пабудаваным доме да агляду яго тэхнікам, накіраваны 14 студзеня Лідскаму гарадскому суддзі для прыцягнення вінаватых да адказнасці за невыкананне дадзенай падпіскі"* (6. Л. 26).

30 ліпеня 1904 г. малодшы архітэктар Будаўнічага аддзялення Камароў і в.а. Лідскага павятовага спраўніка А.Н. Вякшынскі зрабілі агляд габрэйскага малітоўнага дома пры Школьным завулку. *"Пры аглядзе аказалася, што работы праведзены з невялікімі зменамі, трывала і правільна, паводле выдадзенага дазволу і адступленняў ад Будаўнічага Статута не знойдзена. Змены ж аказаліся наступныя: 1) паказанага на плане склепа не зроблена; 2) уваходы ў жаночае аддзяленне высунуты наперад да фасада і зроблены крытымі, з каменнымі сходамі на жалезных*



***Фрагмент аэрафотаздымка 1941г. Руіны Вялікай сінагогі ў верхнім правым куце, ніжэй сцены сінагогі 1893г, лявей - малітоўныя школы 1899 і 1904 гг.***

*бэльках, а не са сходамі, як паказана, пры ўваходзе ў жаночае аддзяленне ўладкавана пашыраная пляцоўка; 3) у першым паверсе паміж сенцамі і малельняй няма мураванай сцяны, а пастаўлена драўляная перагародка, сенцы ж разгароджаны папярок на дзве часткі, аддзяляючы адну частку для вартаўніка; 4) паказаныя печы ў папярочнай мураванай сцяне, якая аддзяляе мужчынскае аддзяленне ад сенцаў і малельні пастаўлены не пасярэдзіне, як паказана, а па баках; 5) з фасада двухпавярховая частка мае на другім паверсе тры акны, а на першым - адно акно і адны дзверы. Усе змены паказаны чырвоным чарнілам на чарцяжы. Пра што і пастанавілі запісаць у гэты акт"* (6. л. 29).

26 жніўня 1904 г. чальцы малітоўнай школы "Бейс-Тфіло" ў г. Лідзе звярнуліся ў Віленскае Губернскае Кіраванне па будаўнічым аддзяленні з прашэннем: *"Прадстаўляючы пры гэтым новы план з копіяй плана па работах падчас пабудовы малітоўнай школы "Бейс-Тфіло" пакорна маем гонар прасіць Будаўнічае аддзяленне па зацвярджэнні плана, копію плана з дазволам на адкрыццё школы выслаць праз Лідскае Павятовае Паліцэйскае Кіраванне, бо ўладкаванне школы агледжана і ўхвалена было інжынерам Будаўнічага Аддзялення Віленскага Губернскага Кіравання.*

*Хацкель Іцкавіч Пупко. В. пасады скарбніка Эльяа Маносаў Далінскі. Абрам Гірш Душман"* (6. Л.30).

6 верасня 1904 г. губернскі інжынер звярнуўся да малодшага архітэктара Камарова з просьбай *"пераканацца на месцы ці супадае азначаны чарцёж з натураю і пра накіраваны са зваротам дадатак апавясціць аддзяленне"*. Камароў у той жа дзень адказаў, што *"зноў прадстаўлены план ва ўсім супадае з натураю і цалкам супадае з папраўкамі, зробленымі чырвоным чарнілам на старым плане, зацверджаным 5 лютага 1902 г."* (6. Л. 32).

На паседжанні Будаўнічага Аддзялення 15 кастрычніка 1904 г. *"пастаноўлена: Зацвердзіць чарцёж зняты з натуры зноў пабудаванай мураванай габрэйскай малітоўнай школы пад назвай "Бейс-Тфіло" ў г. Лідзе і дазволіць адпраўленне ў ёй набажэнстваў, пра што зрабіць надпіс на чарцяжы і копіі для ўручэння пад распіску аднаму са стараст школы"* (6. Л. 35 аб.).

29 кастрычніка староста малітоўнага дома Хацкель Іцкавіч Пупко даў распіску паліцэйскаму наглядчыку г. Ліды М.М. Рудзевічу ў тым, што даручэнне Будаўнічага аддзялення ад 15 кастрычніка яму абвешчана і ён атрымаў копію чарцяжа (6. Л. 37).

У 1913 г. габрэйская грамада Ліды дасягнула 7 тысяч юдэяў і склала абсалютную ( 65%) большасць гараджан. Габрэям належалі амаль усе заводы, фабрыкі, гандлёвыя прадпрыемствы, майстэрні, рэстараны, кафэ, гасцініцы. Першая Сусветная вайна, рэвалюцыі і Савецка-польская вайна расцягнулі нажытае, фашызм знішчыў усё пабудаванае.

23 чэрвеня 1941 г. Школьны двор і ўся цэнтральная частка горада былі знішчаны нямецкімі бамбавікамі.

**Першакрыніцы:**

1. Габрэйская электронная энцыклапедыя.
2. Taryfa podymnego powiatu lidzkego z 1775 roku.
3. http://www.lida.info/lidskaya-sinagoga-1893-goda.
4. http://www.lida.info/bolshaya-lidskaya-sinagoga-1896-1941.
5. LVIA. Ф.382. Оп.1. Д. 1511. Дѣло Виленскаго губернскаго Правленія объ утвержденіи проекта на постройку въ г. Лидѣ еврейской молитвенной школы. 19.02.1893 -12.07.1899.
6. LVIA. Ф.382. Оп.1. Д. 2192. Дѣло Виленскаго губернскаго Правленія о постройке еврейской молитвенной школы под названием Бейс - Тфило в г. Лиде. 24.08.1901 - 16.10.1904.

*Паводле lida.info.*

*Леанід Лаўрэш*

# Маршалкі Лідскага павета

Першапачаткова павятовы маршалак узначальваў шляхту падчас вайсковага рушэння. Ён браў пад сваю каманду шляхту ад павятовага харунжага і прыводзіў яе да ваяводы свайго ваяводства. Калі шляхта злучалася з войскам ваяводы, павятовыя маршалак і харунжы перадавалі сваё войска ваяводзе.

У мірны час павятовы маршалак злучаў павет з каралём. Да Люблінскай уніі павятовыя маршалкі нават былі чальцамі рады ВКЛ, але Люблінская унія злучыла сенаты Польшчы і Літвы ў адзін агульны сенат і пакінула павятовых маршалкаў па-за гэтым сенатам - яны перасталі быць панамі-радай.

Акрамя сваіх вайсковых абавязкаў, павятовыя маршалкі яшчэ займаліся разбіральніцтвам судовых спраў, якія падлягалі каралеўскаму суду. Па сваім стане ў шэрагу іншых службовых асоб яны стаялі вельмі высока. У спісе ўрадоўцаў у 9-й кнізе публічных спраў Літоўскай метрыкі, маршалкі названыя пасля паноў-рады, але вышэй стараст, дзяржаўцаў і цівуноў. У спісе павятовых урадоўцаў маршалкі стаялі на першым месцы: вышэй за падкаморыя, харунжага, земскага суддзі, падсудка і пісара. Пры гэтым дазвалялася сумяшчаць маршалкоўства з іншымі пасадамі[1].

З канца XIV ст. з'явілася пасада гаспадарскага маршалка, ці маршалка ЯКМ (Яго каралеўскай мосці). Асобы на гэтай пасадзе выконвалі адмысловыя даручэнні вялікага князя і караля, кіравалі прыдворнымі службамі[2].

На працягу XV - 1-й паловы XVI ст. колькасць гаспадарскіх маршалкаў значна павялічылася і кожны з іх меў роўныя паўнамоцтвы. Гэта пасада не абмяжоўвала атрыманне асобай іншых урадаў, што спрыяла адносінам яе, як да добрага пачатку кар'еры. Па меры пераняцця польскіх традыцый гаспадарскі маршалак атрымаў некаторыя паўнамоцтвы намесніка ваяводы або кашталяна ў рэгіёнах, дзе іх не было. На час заключэння Люблінскай уніі (1569 г.) было 18 гаспадарскіх маршалкаў. Урэшце гаспадарскі маршалак быў пертвораны ў павятовага маршалка - асобу, адказную за арганізацыю павятовага сойміка[3].

Гэтак узнікала пасада "маршалак ЯКМ павета". Такі павятовы маршалак кіраваў шляхтай павета, склікаў і вёў павятовы соймік[4].

**Пачну пералік усіх вядомых нам маршалкаў Лідскага павета:**

**Ян Юр'евіч Ваўчок (Ваўчковіч)**, маршалак гаспадаркі, канюшы і падканюшы віленскі, дзяржаўца васілішскі. 20.04.1566 г. ён - ужо лідскі маршалак, на пасадзе быў да сваёй смерці 23.05.1582 г.

**Ян Нелюбовіч**, маршалак гаспадаркі, як лідскі фігуруе ў дакуменце ад 17.05.1589 г., займаў пасаду да смерці ў 1612 г.

**Філон Васільевіч Копець**, намінаваны 03.12.1612 г. пасля Нелюбовіча, займаў пасаду да сваёй смерці, 20.09.1623 г., быў жанаты з Альжбетай Адамаўнай з Храбтовічаў, памерла ў 1628 г.

**Аляксандр Халецкі**, падскарбі ВКЛ, сакратар ЯКМ, былы віленскі войт. Намінаваны на пасаду 07.12.1623 г., пасля Копця, займаў яе да смерці, 27.09.1651 г. Меў трох жонак: першая, з 1638 г. Альжбета Ізабела з Дуніных-Раецкіх, кальвіністка, дачка менскага ваяводы; другая, з 1652 г. удава падскарбія ВКЛ Гедэона Трызны; трэцяя, Крыштофа з Патоцкіх, дачка падскарбія ВКЛ.

**Тэафіл Дунін-Раецкі**, сын менскага ваяводы, з кальвінізму перайшоў у каталікі. Намінаваны на лідскага маршалка 12.10.1651 г. пасля Халецкага і займаў пасаду да смерці, 1.06.1680 г. Меў дзвюх жонак: першая кальвіністка Альжбета з Даўмонтаў, памерла ў чэрвені 1660 г.; другая, Альжбета з Друцкіх-Сакалінскіх, шлюб адбыўся ў 1665 г., памерла 22.03.1686 г.[5]

Сярод уплывовай шляхты ВКЛ, якія падпісалі Кейданскаю унію са Швецыяй, абсалютнай большасцю былі пратэстанты. Сярод іншых асоб, разам з віленскім ваяводам і вялікім гетманам Янушам Радзівілам, падпісаў унію і лідскі маршалак Тэафіл Дунін-Раецкі[6].

Маршалак Тэафіл Дунін-Раецкі пражыў бурнае і доўгае жыццё, яго тастамант датуецца 1680 г. Мяркуючы па гэтым дакуменце, лідскі маршалак быў тонкай, ўзнёслай і нават трошкі арыгінальнай натурай. Свой тастамант ён пачаў з таго, што канстатаваў відавочную, як яму здавалася, ісціну: смерць валодае чалавекам незалежна ад узросту, і таму абавязак кожнага - быць гатовым да яе. Пасля разважанняў пра тленнасць чалавечага быцця маршалак адзначыў прыярытэт Радзімы.

Звычайна ў тастамантах заўсёды агаворваліся месца і абрад пахавання. Месца залежала ад канфесійнай прыналежнасці аўтара: хавалі звычайна ў храме або каля яго, гэта давала храму шчодрыя ахвяраванні. Але Дунін-Раецкі пакінуў досыць сціплую суму святарам на малітвы, а пахаваць сябе загадаў не зусім звычайна - у полі за маёнткам, прычым магільны склеп пабудаваць наступным чынам: квадратны роў у вы-

[1] Лаппо И. И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569 - 1586). Т. 1. С. Петербург, 1901. С. 313-321.
[2] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 20-21.
[3]Энц. ВКЛ, Т. 2. Мінск, 2005. С. 273.
[4] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 21.
[5] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 337 - 338.
[6] Ateneum Wilenskie. R.10. Wilno, S. 173-224.

шыню чалавечага росту і шырынёй у чатыры "польскія локці" па перыметры магілы, само пахаванне - склеп, над якім насыпны, нічым не адзначаны ўзгорак без усялякага упрыгожвання. Такі від пахаванняў быў папулярны ў асяроддзі арыян (сацыніянян ці антытрынітарыяў)[7]. Гэты незвычайны спосаб пахавання не быў хвілінным капрызам маршалка. У тастаманце ён інфармаваў жонку, што ўсе матэрыялы ўжо падрыхтаваны і наняты муляры для будаўніцтва склепа.

Вядома, што большую частку свайго жыцця Раецкі быў пратэстантам і тастамант стаўся нагодай паказаць усім, што хоць ён і не мае ніякага дачынення да выгнаных з Рэчы Паспалітай арыянаў і перайшоў у каталіцтва, але захаваў сімпатыю да іх. Але тое, што ён католік, бачна ў некалькіх месцах тастаманту, тут ён піша пра тое, што ў гэтай магіле яго цела будзе чакаць уваскрэсення - арыяне прызнавалі толькі ўваскрэсенне душы.

Тастамант Дуніна-Раецкага адрасаваны тагачаснаму грамадству, але ўсё ж у першую чаргу яго другой жонцы, народжанай князёўне Друцкай-Сакалінскай. Мяркуючы па тастаманце сужэнцы жылі цалкам шчасліва. Нават пакідаючы другой жонцы канкрэтныя інструкцыі пра гаспадарку, Раецкі не саромеецца выказваць свае пачуцці да яе. Нават нерамантычны загад зрабіць выплаты старым слугам, пад пяром маршалка ператвараецца ў цудоўны панегірык жонцы. Само слова "жонка" ўжываецца выключна з такімі эпітэтамі як "любімая", "дарагая", "маё апошняе каханне", "сардэчная".

Асобнай клопатам Тэафіла быў лёс дзесяцігадовага сына. Сваю радню маршалак ведаў добра, і таму апекунамі сына сталі людзі хоць знатныя і багатыя, але не родныя. Апекуны з'яўляліся вядомымі асобамі, што павінна было адбіць жаданне радні пажывіцца за кошт малагадовага спадчынніка. Апекунамі былі прызначаны віленскі ваявода Міхаіл Пац (памёр у 1682 г.), мечнік ВКЛ Тызенгаўз, крайчы ВКЛ Уладзіслаў Тышкевіч (памёр ў 1684 г.).

Аднак сваёй дачцэ ад першага шлюбу Дунін-Раецкі не пакінуў нічога. Аплаціўшы даўгі зяця і раней выдзелены значны пасаг, ён лічыў, што сума гэтая цалкам для яе дастатковая. І нават папярэджваў дачку і зяця ад неабдуманых учынкаў у дачыненні да яго сына.

Іншыя сваякі (брат і пляменнік) таксама былі папярэджаны. Калі б не змякчальныя фармулёўкі, такое папярэджанне можна было б палічыць за прамыя пагрозы. Тэафіл Дунін-Раецкі звяртаўся да пляменніка вельмі высакароднымі словамі. Сутнасць звароту можна было звесці да наступнага: адны вы маладыя, як надзея, з нашага роду застаяцеся, таму будзьце сябрамі і дапамагайце адзін аднаму, у адваротным выпадку ёсць грозныя апекуны, якія дакладна не дадуць сірату ў крыўду. Дарэчы, пляменніку ад дзядзечкі таксама нічога не дасталося, хоць вельмі скнарлівым Дуніна-Раецкага назваць было нельга: ён, напрыклад, пакінуў пяцьсот злотых чалавеку, які некалі (15 - 17 гадоў таму) выходжваў яго ад ран. Акрамя таго, некалькі разоў у тастаманце напісана аб узнагародзе слугам і чэлядзі, якім дасталіся дастаткова значныя сумы.

Асобна ў тастаманце гучыць тэма дружбы. Рэдка калі ў такіх дакументах сустракаюцца такія тэмы, але наш маршалак быў асобай неардынарнай. Пералічваючы лепшых сваіх сяброў, ён выказваў падзяку кожнаму і прасіў аб апошняй паслузе: прыехаць на яго пахаванне для апошняга развітання[8].

Нейкім чынам пры жывым Раецкім, 29.11.1657 г. на лідскага маршалка быў намінаваны **Уладзіслаў Леан Францкевіч-Радзімінскі**, войскі троцкі. Але, зразумела, што пасаду ён не атрымаў.

**Ян Станіслаў Курч**, харунжы. Пасаду займаў з 08.01.1683 г. па дзень сваёй смерці 10.02.1684 г.

**Аляксандр Ян Масевіч**, харунжы. Намінаваны на пасаду 11.02.1684 г. (але, чамусьці, ужо 20.06.1683 г. распісаўся ў гродскай кнізе як лідскі маршалак), пасаду займаў да 12.04.1688 г., у дакуменце ад 09.04.1689 г. ён - ужо мсціслаўскі ваявода[9].

**Ян Аляксандр Масевіч** (? - каля 1696) - цікавая асоба ў нашай гісторыі. Паходзіў з незаможнага шляхецкага роду герба Копач (альбо Топач). Маладосць Яна Аляксандра Масевіча прайшла на ваеннай службе ў Сапегаў, ён ваяваў супраць украінскіх казакоў, а ў 1656 г. супраць шведаў пад Варшавай. У 1658 г. у якасці камісара гетмана Паўла Яна Сапегі ўдзельнічаў у складанні інвентара Ляхавіцкага замка. У 1659-1661 гг. з'яўляўся падстарастам Рэтаўскага цівунства, якое належала Сапегу[10].

У 1660-х гг. Ян Аляксандр Масевіч займаў пасаду лідскага гродскага пісара, з 1671 г. - пасаду лідскага земскага пісара. З 1680 г. - лідскага харунжага, з 1684 г. - лідскага маршалка. З 1690 г. мсціслаўскі ваявода[11]. З 1674 г. - шадаўскі цівун. На пачатку 1670-х гг. Ян Аляксандр Масевіч - маршалак двара Казіміра Яна Сапегі. Удзельнічаў у Хацінскай бітве 1673 г. На сойме 1683 г. абраны ў склад камісіі па перагаворах з Расіяй (пасяджэнні праходзілі ў Кадзіне).

У 1667 г. Ян Аляксандр Масевіч - дэпутат Трыбунала ВКЛ, пасол на соймах 1668, 1677, 1683, 1685 гг. (на трох апошніх абіраўся ў склад Скарбовага Трыбунала ВКЛ), а таксама у 1688, 1689 г. У 1691 г. ён - маршалак Трыбунала ВКЛ. У 1669 г. удзельнічаў у выбарах польскага караля і вялікага князя літоўскага Міхала Вішнявецкага, у 1674 г. - Яна III Сабескага. З пераходам Сапегаў у 1680-х гг. у апазіцыю да каралеўскага двара, Масевіч стаў адным з лідараў сапе-

[7] Частка кальвіністаў Рэчы Паспалітай, якая прызнала традыцыйную інтэрпрэтацыю дагмата пра Тройцу за няпраўдзівую, утварыла ў 1562-1565 гг. уласны Збор, які яны называлі "меншым". Самі кальвінісцкія дысідэнты не называлі сябе арыянамі або антытрынітарыямі, называліся проста хрысціянамі або "братамі". Пэўная ідэалагічная і арганізацыйная ўнармаванасць у арыянства з'явілася ў кан. XVI - пач. XVII ст., гэта ўніфікацыя звязана з дзейнасцю Фаўста Соцына.

[8] http://pawet.net/library/history/city_district/data_people/policies/raecki/Философское_завещание_маршалка_Теофила_Раецкого.html

[9] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 338.

[10] Масевіч Аляксандр Ян // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мінск, 2010. Т. 3. С. 342.

[11] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 317; 339; 347.

гаўскага лагера на соймах Рэчы Паспалітай[12].

Мсціслаўскі ваявода ЯВп Ян Аляксандр Масевіч у 1692 г. ўзяў у арэнду Бердаўку Шункоўскіх і Гародна "застаўным правам за суму 55 тысяч" [13]. У Бердаўцы ён валодаў карчмой і акрамя гэтых маёнткаў, на Лідчыне Масевіч меў яшчэ Канюхі, агулам - 70 дымоў[14].

**Эльяш Міхал Рымвід**, падкаморы. Лідскім маршалкам быў з 17.08.1690 па дзень сваёй смерці, 06.05.1696 г.[15]

Жыццёвы шлях наверх Эліяша Міхала Рымвіда быў наступны: суддзя гродскі лідскі (1668-1671 г.), падстараста лідскі (1671-1682 г.), падстолі лідскі (1678-1683 г.), сурагатар гродскі віленскі (1682 г.), падкаморы лідскі (1683-1690 г.) і, нарэшце, маршалак лідскі (1690-1696 г.).

У 1669 г. сярод іншых паслоў ад Лідскага павета Эліяш Міхал Рымвід засведчыў абранне польскага караля і вялікага князя літоўскага Міхала Карыбута. З падымнага рэестра Віленскага ваяводства 1690 г. даведваемся, што Эліяш Міхал Рымвід, маршалак лідскі меў 100 дымоў, таксама валодаў Навадворскім староствам - 114 дымоў у 1667 г., 92 дымы ў 1690 г.

Эліяш Міхал Рымвід фігуруе і тастаманце Францкевіча-Радзімінскага. Гэты тастамант ад 22 жніўня 1694 г. сведчыць, што лідскую павятовую эліту звязвалі не толькі сваяцкія але і сяброўскія адносіны. Казімір Ян Францкевіч-Радзімінскі (лідскі староста ў 1682-1694 гг.) не меў нашчадкаў і ў якасці апекуноў сваёй жонкі Аляксандры з Нарушэвічаў прызначыў Эліяша Міхала Рымвіда, маршалка лідскага і Аляксандра Нарушэвіча, старасту ўшпольскага[16].

Нясецкі піша пра Эліяша Рымвіда: *"Эліяш Міхал, найперш падстараста гродскі лідскі, потым падкаморы, стараста Наваградскі* (памылка, насамрэч Навадворскі - *Л. Л.*) *і лаздзейскі* (Лаздзіяй - *Л. Л.*), *быў паслом на розныя соймы, куды яго шматкроць Айчына кідала, таксама дэпутатам на трыбунал скарбовы літоўскі, але ўжо камісарам, Constit. 1678 fol. 15, калі місія для нашых (гэта значыць езуітаў) пры касцёле дэмбраўскім, ад яго і ад ягонай жонкі функцыянавала, быў потым маршалкам лідскім"*. Ён быў жанаты з Крысцінай Гружэўскай, падкамаранкай жмудскай[17].

Гэтую інфармацыю пра Эліяша Міхала Рымвіда дапоўніў лідскі гісторык Міхал Шымялевіч. Ён пісаў, што Ян Гружэўскі, падкаморы жмудскі меў двух сыноў і ажно дванаццаць дачок: з іх Крыстына, была жонкай Эліяша-Міхала Рымвіда і Яна-Паўла Стрыеўскага, войскага гарадзенскага, чашніка саноцкага. Эліяш Міхал Рымвід разам з жонкай валодаў у былым Лідскім павеце Дэмбравам і меў пляц у Лідзе *"ідучы з Рынка па вуліцы Каменка, па правай руцэ, праву шляхецкаму падлеглы"*, гэта пляц раней належаў Крыштафу Багдзевічу, потым ягонаму сыну Мальхеру. Сыны гэтага апошняга, Людвік і Казімір Багдзевічы прадалі пляц Эліяшу Міхалу Рымвіду, падстарасту лідскаму за 80 коп грошаў, а Ян Васілевіч, генерал Яго Каралеўскай Мосці Лідскага павета 4 лютага 1678 г. зацвердзіў гэтае набыццё. Пасля смерці Эліяша Міхала Рымвіда яго сын Ян Рымвід, маршалковіч лідскі і старасціч навадворскі і лаздзейскі 22 снежня 1702 г. спадкаваў пасля бацькі *"двор у горадзе Лідзе на вуліцы, якая з Рынка на Каменку ідзе, з агароднікамі*[18] *там жа жывучымі"* і прадаў яго Францішку Масевічу, маршалку лідскаму. Потым усе звесткі пра гэты род знікаюць[19].

**Міхал Ян Александровіч**, пісар земскі. Пасаду займаў пасля Рымвіда, з 01.12.1703 г. па 18.02.1712 г.

**Францішак Юзаф Масевіч**, харунжы. Намінаваны 28.09.1714 г. быў на пасадзе да смерці, 12.08.1716 г.

**Казімір Сцыпіён дэ Кампа**, падкаморы, пасаду заняў 03.07.1721 г. і быў маршалкам да смерці 10.05.1733 г.[20] Сваю першую сціплую пасаду лідскага мечніка Казімір Сцыпіён атрымаў у 1701 г. У 1711 г. ён ужо заняў месца свайго старэйшага брата Яна - стаў гродскім лідскім пісарам, а ў 1713 г. - лідскім падстоліем. У гісторыкаў стварылася ўражанне, што Казімір проста займаў пасады пасля свайго старэйшага брата, што, безумоўна, садзейнічала палітычнаму ўплыву Сцыпіёнаў у Лідскім павеце. Тры разы Казіміра Сцыпіёна абіралі ад Лідскага павета дэпутатам Трыбунала ВКЛ. У 1714 г. ён стаў лідскім падкаморыем, а ў 1716-1717 г. маршалкам лідскім. Нягледзячы на два шлюба з Ганнай Гутоўскай і Зоф'яй Юдыцкай (памерла ў 1752 г., дачка рэжыцкага маршалка Антонія Юдыцкага), Казімір Сцыпіён не пакінуў нашчадкаў. Можа таму яго маёмасны стан застаўся невядомым[21].

**Казімір Юзаф Нарбут**, стольнік[22]. На пасаду маршалка намінаваны 09.09.1752 г., займаў пасаду да 9.02.1767 г. (па іншай інфармацыі па 1768 г.). Яго ўнучка Аляксандра Цясельская з Нарбутаў у XVIII ст.

[12] Масевіч Аляксандр Ян // Вялікае княства Літоўскае. Т. 3. С. 342.

[13] LNB. Арк. 308 - 313.

[14] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiastwa Litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 209.

[15] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 338.

[16] Амелька С. Да пытання аб складзе палітычнай эліты шляхты Лідскага павета ВКЛ у другой палове // Герольд Litherland 2006. № 17. С. 87-89.

[17] Herbarz polski Kaspra Niesieckiego. Lipsk, 1841. T. 8. S. 210.

[18] Па "Уставе на валокі" 1557 г., участак зямлі ў 3 морга, лічыўся агародам і гэту катэгорыю сялян пачалі называць агароднікі.

[19] Szymielewicz Michal. Skad pochodzi rod Adama Mickiewicza // Ziemia Lidzka 1938. № 9. S. 113-116.

[20] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 338 - 339.

[21] Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С.57 - 68.

[22] Urzadnicy Wielkiego Ksiystwa Litewskiego. T. 1. S. 339.

была членам Берлінскай акадэміі навук[23].

**Ежы Антон ~дка**, падкаморы. Намінаваны 08.03.1768 г. і займаў пасаду да смерці 21.11.1783 г.

**Францішак Антон Александровіч**, намінаваны 21.02.1783 г.[24]

## У складзе Расійскай імперыі да першай паловы XIX ст.

**Ян Антон Нарбут**, сын Казіміра і Мар'яны з Навіцкіх. Быў братам Дамініка і Казіміра Нарбутаў (піяра). У 1778 г. стаў паслом у сойм і там быў абраны у Скарбовую Камісію ВКЛ. У 1785 г. стаў стольнікам Лідскага павета і займаў гэтую пасаду да 1794 г. У траўні 1797 г. абраны на пасаду маршалка шляхты Лідскага павета і займай пасаду да 1798 г. Быў жанаты з Кларай Плятэр, меў дачку Казіміру, жонку вядомага капітана польскіх войскаў Юзафа Гружэўскага[25].

**Аляксандр Остык-Нарбут**, маршалак у 1798 - 1816 г.

**Ігнацы Скіндар**, маршалак у 1816 - 1819 г г. Уладальнік маёнтка Лядцк, вывучаў права ў судовых установах, 1809 г. - падкаморы Лідскага павета, у 1816 г. - лідскі маршалак. У 1812 г. быў падпрэфектам Лідскага павета і ладзіў святкаванне дня нараджэння Напалеона ў Лідзе[26].

**Антоні Скіндар,** маршалак у 1819 - 1824 гг.

**Ігнацы Скіндар**, маршалак у 1824 - 1827 гг.

**Рамуальд Кастравіцкі**, маршалак у 1827 - 1830 і 1839 - 1844 гг. З усіх маршалкаў гэтага часу толькі Рамуальд Кастравіцкі меў вышэйшую адукацыю - у 1807 г. ён закончыў Віленскі ўніверсітэт[27].

**Антон Скарбак-Важынскі**, маршалак у 1831-1834 г.

Уладальнік Голдава Антон Скарбак-Важынскі жаніўся з Францішкай з Лясковічаў і праз яе атрымаў у пасаг вялікі маёнтак Ішчалну. Францішка ўдзедзічыла гэтую маёмасць ад бацькі. На партрэтах, якія віселі да 1939 г. у сталовай палаца ў Ішчалне, Францішка выглядае звычайнай жанчынай, першая маладосць якой ўжо прайшла. А яе муж Антон быў намаляваны высокім і прыстойным мужчынам у латах. Антон Скарбак-Важынскі меў тыпова славянскі твар - румяны бландзін з блакітнымі вачамі, з якіх біла энергія. Верагодна ён любіў уцехі, якія давала жыццё землеўладальніка: браў чынны ўдзел у публічным жыцці і цешыўся сімпатыяй паважаных суседзяў, таму хутка стаў маршалкам Лідскага павета. Францішка была жонкай ціхай і ўтульнай, замуж выйшла позна, ва ўзросце каля 30 гадоў. Вядома толькі, што яна добра грала на арфе і брала ўдзел у публічных канцэртах даход з якіх ішоў на філантрапічныя мэты. Скарбак-Важынскія мелі аднаго сына Баляслава[28].

Лідскі маршалак шляхты Антон Скарбак-Важынскі - 30 траўня 1831 г. у Лідзе пачаставаў сытым сняданкам шматтысячнае войска паўстанцаў. Як гаспадар маёнткаў, Антон Скарбак-Важынскі парадкаваў вёскі, ачышчаў палі ад камення, палепшыў гадоўлю быдла і значна ўзняў як матэрыяльны стан, гэтак і культурныя набыткі сваёй сям'і[29].

**Граф Ваўжынец Путкамер**, маршалак у 1847 - 1849. Пра гэтага чалавека я напісаў вялікі тэкст і таму дзеля эканоміі паперы, не буду паўтарацца. Цікаўныя, могуць пачытаць артыкул які ёсць і ў інтэрнэце[30].

**Юзаф Марачэўскі**, маршалак у 1850 - 1855.

## Другая палова XIX ст. - пачатак XX ст.

Традыцыйна павятовых і губернскіх маршалкаў шляхты ("предводителей дворянства") выбірала дваранства. Рэгулярна, кожныя тры гады, скліталіся павятовыя і губернскія дваранскія сходы, якія выбіралі саслоўных прадстаўнікоў у дваранскі дэпутацкі сход. Акрамя таго, на дваранскіх сходах абіраліся суддзі ў павятовыя і губернскія суды і прадстаўнікі дваран ў розныя часовыя камісіі.

Пасля паўстання 1863-1864 гг. дваранскія сходы былі зачынены, а маршалкі пачалі прызначацца генерал-губернатарам. Цікава, што шляхта страціла права на саслоўнае самакіраванне тады, калі іншыя класы грамадства, наадварот, атрымалі такое права - пасля адмены прыгоннага права былі створаны інстытуты сялянскага самакіравання, а ў 1870-80 гг. пашыраны правы гарадскіх саслоўяў.

Адразу пасля паўстання маршалкі шляхты, якія падазраваліся ў сувязях з паўстанцамі, былі знятыя з пасадаў. У 1864 г. было вырашана ўсе пасады ў Заходніх губернях даваць чыноўнікам рускага паходжання.

Аднак знайсці новых маршалкаў было не так проста. Абавязковай умовай была прыналежнасць да мясцовага дваранства і наяўнасць зямельнай уласнасці, пажадана ў тым жа павеце, які ўзначальваў маршалак, да таго ж маршалак шляхты не атрымліваў заробак і павінен быў жыць на свае сродкі. А рускіх абшарнікаў у краі было не шмат.

Маршалак шляхты меў вялікія паўнамоцтвы. Ён старшынстваваў у Дваранскай апецы, павятовым рэкруцкім "присутствии", рэвізійнай камісіі, павятовым камітэце грамадскага здароўя. Таксама працаваў у камітэтах: царкоўна-будаўнічым і дарожным; у па-

[23] Гл: Лаўрэш Леанід. Аляксандра Нарбут - акадэмік Берлінскай акадэміі навук // АСОБА і ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 4. 2011. Мінск. С. 6 - 16.

[24] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 339.

[25] Polski Slownik Biograficzny. T. XXII. Wroclaw-Warszawa- Krakow, 1977. 529-530.

[26] Гл.: Лаўрэш Леанід. Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне. Гродна, 2016. С. 45.

[27] Токць Сяргей. Шляхецкае самакіраванне ў Гродзенскай губерні (пачатак XIX ст. - 60-ыя гады XIX ст.) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. №7. С. 15.

[28] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 11 - 12.; 153.

[29] Там жа. S. 174 - 180.

[30] Гл: Лаўрэш Леанід. Род Путкамераў // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 5. 2013. С. 302-313.

пячыцельстве аб дзіцячых прытулках, у камісіях: для вызначэння ўзнагароджання ўладальнікам за маёмасць, якая адыходзяць паводле судовага прысуду ў казну; для ацэнкі нерухомай маёмасці, якая адыходзіла з прыватнага валодання; у губернскай управе пры продажы нерухомай маёмасці дваран і г.д. Маршалкі узначальвалі турэмныя камітэты, былі членамі-карэспандэнтамі губернскага статыстычнага камітэта. Акрамя таго, яны выконвалі мноства канкрэтных абавязкаў па справах свайго саслоўя.

Праз нейкі час пасля паўстання, імперскія ўлады зноў пачалі абмяркоўваць розныя варыянты законаў пра маршалкаў. Адны генерал-губернатары прапаноўвалі вяртацца да выбараў, іншыя, наадварот, жадалі ўзмацніць на іх ціск і ўрадавы кантроль. Справа пайшла па лініі ўзмацнення кантролю, і з 1888 г. у Віленскай, Ковенскай і Гарадзенскай губернях маршалкамі шляхты не была прызначана ні адна асоба "польскага паходжання" [31].

Пры канцы 1890-х гадоў павятовы прадвадзіцель дваранства ў Заходніх губернях ператварыўся ў звычайнага бюракрата, стаў дзяржаўным чыноўнікам. Таму ў Віленскім генерал-губернатарстве не было недахопу ахвочых атрымаць месца павятовага маршалка, а па сумяшчальніцтву - старшыні з'езда міравых пасярэднікаў. Дарэчы, маршалкі пачалі атрымліваць заробак як міравыя пасярэднікі.

У 1903 г. у Заходніх губернях былі ліквідаваны пасады міравых пасярэднікаў і ўведзены пасады земскіх начальнікаў. Павятовыя маршалкі шляхты сталі старшынямі павятовых з'ездаў земскіх начальнікаў, яны лічыліся ў 5 службовым класе і па гэтым разрадзе атрымалі правы на дзяржаўную пенсію.

Рэвалюцыя 1905-07 гг. прымусіла ўрад пачаць шукаць іншыя шляхі, перагледзець сваё стаўленне да выбарнасці маршалкаў шляхты, бо рускі памешчык або чыноўнік, ніяк не звязаны з мясцовымі землеўласнікамі, так і не атрымаў вотум даверу шляхты. Імператарскі ўказ ад 1 траўня 1905 г. павінен быў аднавіць выбары дваранскіх сходаў і маршалкаў шляхты ў заходніх губернях.

Але дваранскія выбары ў заходніх губернях адноўлены не былі. Напружаная палітычная абстаноўка прымусіла адкласці рашэнне гэтага пытання, і ўрад да яго больш не вяртаўся. Да канца імперскай Расіі маршалкамі шляхты былі асобы, прызначаныя ад урада, у асноўным памешчыкі і чыноўнікі рускага паходжання і праваслаўнага веравызнання. Адзіным выключэннем быў каталік, граф Людвіг Уладзіслававіч Грабоўскі, які ў 1905-1917 гг. па чарзе займаў пасады дзісенскага, лідскага і віленскага павятовых маршалкаў[32].

**Стэфан Буткевіч** (19.02.1815-30.03.1896). Пра гэтага чалавека, я дастаткова падрабязна пісаў у сваіх ранейшых артыкулах[33].

**Іван Ільіч Чапялеўскі** (1842-1904). Маршалак лідскай шляхты з 15.05.1875 па 1881 г. і з 1890 г. па 1895 г. З 5 ліпеня 1896 г. па 24 траўня 1899 г. - Віленскі губернатар. З 24 траўня 1899 г. па 25 кастрычніка 1904 г. - Віцебскі губернатар.

Паходзіў з дваран Калужскай губерні. Адукацыю атрымаў у першым Маскоўскім кадэцкім корпусе, уступіў у службу 30 чэрвеня 1862 г. падпаручнікам ў 8-ы стралковы батальён і неўзабаве быў пераведзены прапаршчыкам ў 6-ю артылерыйскую брыгаду. У 1863 г. пераведзены ў батарэю 11-й артылерыйскай брыгады. Ваенную службу з-за хваробы пакінуў у 1864 г. Праз 4 гады, у 1868 г. ён быў залічаны ў распараджэнне галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю з адкамандзіраваннем у часовую камісію па сялянскіх справах. У 1869 г. прызначаны міравым пасярэднікам 1-га ўчастка Віленскага павета, у 1873 г. прызначаны старшынём Лідскага павятовага міравога з'езда і залічаны ў штат міністэрства ўнутраных спраў.

У 1875 г. прызначаны Лідскім павятовым маршалкам шляхты, а ў 1878 г. - ганаровым міравым суддзём Лідскай судовай міравой акругі. У 1881 г. удзельнічаў у працах камісіі, заснаванай па загаду імператара, па высвятленні шкодных бакоў эканамічнай дзейнасці яўрэяў у Віленскай губерні. У тым жа годзе прызначаны членам ад урада ў Віленскае губернскае "присутствие" па сялянскіх справах. У 1882 г. прызначаны членам губернскіх "присутствий" па вайсковай павіннасці і па гарадскіх справах, а таксама вучэбнага савета Віленскай дырэкцыі народных вучылішч. У тым жа годзе запрошаны ў Пецярбург для ўдзелу камісіі па "устройству быта" чыноўнікаў паўночна-заходніх губерній. У 1886 г. прызначаны ганаровым міравым суддзём Віленскай судовай міравой акругі. У 1890 г. прызначаны Віленскім павятовым прадвадзіцелем дваранства і старшынём Лідскага з'езда міравых пасярэднікаў. У 1894 г. прызначаны Віленскім губернатарам[34].

**Кабылінскі Люцыян Людвігавіч**, маршалак лідскай шляхты з 17 лютага 1882 г. па 1890 г. Рымакатолік, закончыў Кіеўскі ўніверсітэт[35]. Відочна, сам пайшоў з пасады, бо ажно да 1915 г. займаў розныя невялікія выбарныя пасады ў павеце. У 1892 г. Францішак Багушэвіч пісаў пра Кабылінскага: *"Ужо год, як у адстаўцы, хоць ездзіць яшчэ на тройцы"* [36].

З 12 чэрвеня 1890 г. лідскім маршалкам ізноў стаў дзейны стацкі дарадца **Іван Ільіч Чапялеўскі**.

З 2 лютага 1895 г. тытулярны дарадца **Павел Міхайлавіч Дублінскі** - лідскі маршалак, праваслаўны, закончыў Маскоўскі ўніверсітэт[37].

---

[31] Байрашаўскайтэ Тамара. Институт предводителей дворянства в западных губерниях Российской империи во второй половине XIX в. - начале XX в. (Виленская и Ковенская губернии) // Беларускі гістарычны зборнік. 2014. №41. С. 67-69.

[32] Там сама. С. 75-84

[33] Гл: Лаўрэш Леанід. Лідскія могілкі // Наша слова, № 19 (1222), 13 траўня 2015.: Лаўрэш Леанід. Лідскія могілкі / / Лідскі летапісец. 2016. №2(74). С. 38-60.: Лаўрэш Леанід. Новае пра Лідскія гарадскія могілкі // Лідскі Летапісец. 2018. № 3 (83). С. 34-41.

[34] Альманах современных русских государственных деятелей. СПб., 1897. С. 761-762.

[35] Памятная книжка Виленской губернии на 1887 г. Вильна, 1886. С. 222.

[36] Содаль Уладзімір. Сем раз Ліду ён адведаў // Лідскі летапісец № 3 (31) - 2005. С. 10.

[37] Памятная книжка Виленской губернии на 1896 г. Вильна, 1895. С. 244.

**Іван-Міхаіл Робертавіч фон Віт**, маршалак ліскай шляхты з 30.07.1899 г. па 07.06.1906 г. З 07.06. 1906 па 1915 г. быў маршалкам шляхты Віленскага павета. Скончыў Паўлаўскае вайсковае вучылішча.

Каб атрымаць месца маршалка, прэтэндэнты звярталіся да рэкамендацый або пратэкцыі - гэта было звычайнай справай. Менавіта такім чынам, маршалкам спачатку Лідскага а потым Віленскага паветаў стаў зяць былога віленскага віца-губернатара, а потым Пермскага губернатара Пятра Рыгоравіча Пагодзіна. Іван-Міхаіл Робертавіч фон Віт праслужыў маршалкам розных паветаў каля 17 гадоў. Ён паходзіў з дваран Эстляндской губерні, належаў да лютаранскага веравызнання, уласнага маёнтка не меў, але ў жонкі быў маёнтак у Магілёўскай губерні. Цесць выпрасіў яму не толькі месца, але і дамагаўся для яго прыдворнага звання камер-юнкера ў абыход Віленскага губернскага маршалка шляхты Сымона Апалінар'евіча Красоўскага[38].

**Грабоўскі Людвік Уладзіслававіч**, маршалак Лідскага павета з 07.06.1906 па 25.07.1916 г., губернскі маршалак Віленскай губерні з 25 ліпеня 1916 г.

Як вядома, дваранскія выбары ў Заходніх губернях адноўлены не былі, і граф Людвік Грабоўскі на сваю пасаду быў прызначаны. У 1903-1917 гг. ён пабыў павятовым прадвадзіцелям дваранства Дзісенскага, Лідскага і Віленскага паветаў.

Людвік Грабоўскі быў мясцовым абшарнікам, валодаў маёнткамі ў Лідскім павеце Віленскай губерні і Навагрудскім павеце Менскай губерні. Ягоная жонка мела маёнткі ў Вілейскім і Свянцянскім паветах. Да 39 гадоў ён займаўся гаспадаркай у сваіх маёнтках, пакуль ў 1903 г. не быў прызначаны земскім начальнікам ў Свянцянскім павеце. Кар'ера Л. В. Грабоўскага складвалася дрэнна, але ён працягваў служыць, бо спадзяваўся, што губернскае кіраўніцтва выканае свае абяцанні і ён атрымае хуткае падвышэнне па службе, каб такім чынам вырашыць свае матэрыяльныя праблемы. Аднак пасада маршалка наадварот, каштавала яму двух маёнткаў, якія давялося прадаць для пакрыцця расходаў па службе, і страты даверу мясцовых абшарнікаў. Пра абяцанні службовай кар'еры давялося нагадваць гадамі, адзіным суцяшэннем было залічэнне ў спіс кандыдатаў на пасаду віца-губернатара Віленскай альбо ў адной з цэнтральных губерняў. Грабоўскі спрабаваў атрымаць пасаду старшыні Віленскага павятовага з'езда міравых суддзяў ці перавесціся ў Вільню ўчастковым міравым суддзём, але ягоныя просьбы былі пачутыя толькі ўлетку 1916 г., калі атрымаў жаданую пасаду Віленскага павятовага маршалка дваранства. Аднак губерня была ўжо акупавана немцамі[39].

Людвік Грабоўскі быў вядомым конназаводчыкам, пра ягоны ўдзел у Агульнарасійскай выставе 1883 г. пісаў Уладзімір Гіляроўскі ў кнізе "Сябры і сустрэчы": *"Палова чэрвеня, а ўжо пачыналі вызначацца кандыдаты на выйгрыш дэрбі, хоць уладальнікі на ранішніх галопах стараліся схаваць жвавасць сваіх крэкаў* (крэк - фаварыт, *Л. Л.*) *... Як журавель на балоце, у далёкім куце іпадрома нерухома стаяў польскі конназаводчык Людвік Грабоўскі. Свайго трохгодку, які, як ён верыў, павінен па-за канкурэнцыяй ўзяць дэрбі, Грабоўскі не пускаў сёння, таму што публікі сабралася зашмат. Гэты заўзяты паляўнічы любіў скакавую публіку толькі ў тыя моманты, калі ягонага каня, які ўзяў вялікі прыз, публіка заахвочвала апладысментамі. Тады Грабоўскі браў левай рукой яшчэ не астылага скакуна за лейцы і праводзіў яго перад трыбунамі пад апладысменты публікі ў адказ размахваючы цыліндрам, паднятым вышэй галавы каня"* [40].

Лідская шляхта запомніла эпізод, як Людвік Грабоўскі сабраў дэлегацыю для сустрэчы цара на вакзале г. Ліды. Уладальнік Малога Мажэйкава Андрэй Брахоцкі пісаў праз шмат гадоў: *"Толькі post factum мы даведваліся, што мой бацька браў удзел у дэлегацыі "дваран", якія на станцыі Ліда віталі цара Мікалая ІІ, калі той праязджаў чыгункай. Тады мы не ведалі, што маршалак шляхты Грабоўскі адмыслова мабілізаваў ваколічную заможную шляхту, байкот гэтага "вернападданніцкага чыну" мог прывесці да рэпрэсій, уключаючы канфіскацыю маёнтка"* [41].

Лепшы лідскі гісторык XX ст. Міхал Шымялевіч пісаў: *"Найвышэйшым чыноўнікам і прадстаўніком Лідскага павета быў павятовы маршалак шляхты граф Людвік Грабоўскі, прамы нашчадак апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага ад марганатычнага шлюбу з Альжбетай Грабоўскай"* [42]. Мае пошукі паказваюць, што Шымялевіч, як заўсёды, меў рацыю. Зробім невялікі экскурс у генеалогію Грабоўскіх гербаў Окша і Тапор.

Першы з вядомых Грабоўскіх, Ян Грабоўскі быў руплівым кальвіністам. Ён перасяліўся ў Літву, а ягоныя сыны Крыстыян (Крыштаф), берасцейскі гараднічы і Марцін, віцебскі стольнік, падпісалі элекцыю караля Яна III.

**Лінія Крыштафа Грабоўскага:**

Крыстыян (Крыштаф) памёр у 1711 г., меў сыноў Юзафа, берасцейскага гараднічага і Войцеха, берасцейскага земскага суддзю.

У Юзафа былі два сыны: Францішак Аляксандр і Крыштаф. Францішак Аляксандр - абозны берасцейскі (1749 г.), гродскі старадубскі суддзя (1762 г.), гродскі берасцейскі суддзя (1765 г.), пакінуў сына Феліцыяна, пружанскага маршалка. Ягоны сын Караль Рафал быў спярша пружанскім (1826 г.), а потым лідскім (1837 г.) апеляцыйным суддзём. З'яўляўся

[38] Байрашаускайте Тамара. Институт предводителей дворянства в западных губерниях Российской империи ... С. 76.

[39] Байрашаускайте Тамара. Институт предводителей дворянства в западных губерниях Российской империи. S. 84-85.

[40] Гиляровский В.А. Друзья и встречи. Сборник. Москва, 2010. С. 112-113.

[41] Brochocki Andrzej. Na przelomie dwoch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939) // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu., sygn. 15615/II. S. 19.

[42] Szymielewicz M. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1939. № 7-8. S. 187.

уладальнікам Плянтаў і Вялікага Мажэйкава, памёр у 1857 г. Разам з Касыльдай з Цяльшэўскіх меў сына Станіслава, уладальніка Вялікага Мажэйкава і дачок: Теадозію (жонка Станіслава Аскеркі), Францішку (жонка Стэфана Верашчакі), Марыю (жонка Баляслава Скарбак-Важынскага). У дадзеным артыкуле, гэтая лінія нас не цікавіць.

**Лінія Марціна Грабоўскага:**

Марцін, брат Крыштафа быў жанаты з Катажынай Аборскай, якая ў 1727 г. зрабіла запіс грошай на слуцкі евангелісцкі збор. Яны мелі сына Стэфана (жанатага з Тэадозіяй Стрыенскай). Сыны Стэфана і Тэадозіі: Ян Ежы, Тамаш, Павел і Міхал. Ян Ежы быў жанаты з Альжбетай Шыдлоўскай[43].

**Альжбета Грабоўская з Шыдлоўскіх** (1748-1810). Нарадзілася ў 1748 ці 1749 г. Мела 16 гадоў, калі будучы кароль Рэчы Паспалітай, а ў той час яшчэ літоўскі стольнік, патрапіў пад яе жаночыя чары і прапанаваў яе бацьку, харунжаму, абірацца паслом на канвакацыйны сойм[44]. Пасля ўступлення на трон Станіслаў Аўгуст даў бацьку Альжбеты асобнае Познанскае кашталянства, а потым пасадзіў у крэсла плоцкага ваяводы.

Некаторыя з гісторыкаў сцвярджаюць, што Альжбета Шыдлоўская была не прыгажуняй, а наадварот, нават і брыдкай[45]. Але іншыя, напрыклад Юліюш Фалькоўскі ("Obrazy z zycia kilku ostatnich pokolen w Polsce") пісаў, што *"яна была прыгожая, пульхная з гладка акругленымі формамі, за што яе і кахаў Ягамосць кароль, аднак акрамя жаночай прывабнасці, мела яна яшчэ добры розум і разуменне палацавага этыкету, пражыўшы дваццаць гадоў пры сапсаваным двары Станіслава Аўгуста, яна ўплывала на прызначэнне ўраднікаў, стараст, на узнагароджанне чыноўнікаў, была прызнана нават найвышэйшай арыстакратыяй і мела павагу да канца свайго жыцця"*. Ва ўзросце 20 ці 21 год Альжбета выйшла замуж за ўдаўца, генерала Яна Ежы Грабоўскага. Шлюб у варшаўскай катэдры св. Яна праводзіў ксёндзбіскуп куяўскі Астроўскі. Пасля шлюбу Грабоўскія выехалі ў свой маёнтак ў Літве. Калі генерал памёр, ад гэтага другога шлюбу засталося пяць дзяцей: Аляксандр, Павел, Міхал, Казімір, Ізабела і Станіслаў. Прычым натарыяльна было заверана, што Станіслаў - сын караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У кастрычніку 1784 г. кароль марганатычна жаніўся з удавой генерала Грабоўскага Альжбетай. У вялікай таямніцы гэты саюз дабраславіў ксёндз-біскуп Альбертрандзі. *"Дзеці яе адгэтуль выхоўваліся пры двары, кароль меў да іх вялікую ласку праз каханне да пані Грабоўскай, якую, аднак, публічна за жонку не прызнаваў не толькі таму, што гэта было дрэнна для каралеўскай годнасці, але і таму, што не жадаў пагаршаць і так дрэнныя адносіны з Грабоўскімі - лідарамі дысідэнцкіх канфедэрацый"* - пісаў гісторык Юльян Барташэвіч. Таемная жаніцьба таксама дрэнна ўздзейнічала на рэлігійныя пачуцці народа, які і да таго не любіў Грабоўскую і абвінавачваў яе ў спрыянні збліжэнню караля з Расіяй. Па-іншаму бачыў яе ролю драматург Дамінік Магнушэўскі ў п'есе "Posiedzenie Bacciarallego", тут яна - патрыётка сваёй дзяржавы. Кастамараў таксама лічыў яе патрыёткай, але гэта аспрэчвалі Крашэўскі і Барташэвіч. Тым не менш, Альжбета Грабоўская была руплівай каталічкай і выхавала сваіх дзяцей у рыма-каталіцкай веры.

Перад выбухам паўстання 1794 г., кароль адправіў сваю жонку ў Галіцыю, а потым у Вену. У гэты час сын караля Станіслаў, вучыўся ў Рыме, і кароль дасылаў сваёй жонцы 300 дукатаў у квартал, а сыну - 250.

Калі пазбаўлены кароны Станіслаў Аўгуст жыў у Пецярбургу, дзе па міласці цара Паўла І яму было дазволена мець свой двор, пані Грабоўская, пакінуўшы дзяцей у Варшаве, прыехала да свайго мужа і была з Панятоўскім да ягонай смерці ў сакавіку 1798 г. Было ёй ў той час каля 50 гадоў, мела яна лішнюю вагу, але любіла свет, бо мела вясёлы характар. Пасля смерці караля вярнулася ў Варшаву, і праз нейкі час яе салон пачаў лічыцца лепшым у горадзе.

Памерла Альжбета Грабоўская 28 траўня 1810 г.

Прызнаны сын караля Панятоўскага, Станіслаў, нарадзіўся 1780 г. і атрымаў прозвішча Грабоўскі - кароль ніколі не жадаў публічна прызнавацца ў сваім марганатычным шлюбе. Таму ў 1792 г. кароль загадаў скласці свайму сыну радавод "па мячы" да 16-калена па лініі генерала Яна Ежы Грабоўскага[46].

Станіслаў Грабоўскі - з 1793 г. камандор мальтыйскага ордэна, з 1812 г. - сакратар Рады Міністраў герцагства Варшаўскага, з 1819 г. - кашталян, з 1825 г. - міністр асветы і рэлігійных вызнанняў Польскага каралеўства, у 1836 г. - генеральны кантралёр у чыне расійскага тайнага дарадцы.

Станіслаў Грабоўскі меў дзве жонкі: Цацылію з Дамбоўскіх і Юлію з Забелаў. З першай жонкай меў дачку Меланню і сыноў Леана і Людвіка. З другой жонкай меў дачок Марыю і Міхаліну.

Граф Людвіг (другі сын Станіслава і Цацыліі з Дамбоўскіх) нарадзіўся ў 1809 г. Меў дзве жонкі: Лаўру з Бычэўскіх і Камілу з Астрогаў. Ад першай жонкі меў сына Уладзіслава, які ў сваю чаргу жаніўся з Марыяй Мілачэўскай і меў сына Людвіка, які і займаў пасаду маршалка Лідскага павета.

Маршалак лідскай шляхты Людвік Грабоўскі быў жанаты з Марыяй Свентажэцкай, меў сына Уладзіслава (1890 г.н.) і дачку Зоф'ю[47].

Трэба яшчэ раз заўважыць, што Людвік Грабоўскі быў вельмі далёкім сваяком уладальніка велічэзнага маёнтка Вялікае Мажэйкава Станіслава Грабоўскага.

[43] Boniecki Adam. Herbarz Polski Cz.1. T. VII. Warszawa, S. 9.

[44] Канвакацыйны сейм збіраўся падчас безкаралеўя. Павінен быў вызначыць тэрмін, месца і ўмовы элекцыі будучага караля.

[45] Гл: Kraszewski J. Polska w czasie trzech rozbiorow 1772-1799: studya do historyi ducha i obyczaju. Tom III. 1791-1799. Warszawa - Krakow, 1903. S. 648.

[46] Zychlinski Teodor. Zlota ksiega szlachty polskiej. Poznan, 1881. Rocznik III. S. 79 - 80, 85.

[47] Uruski Seweryn. Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. 4. Warszawa. 1907. S. 346.

***Леанід Лаўрэш***

# Бердаўка

Некалькі гадоў таму я атрымаў вялікі збор (900 старонак) сканаваных дакументаў датычных маёнтак Бердаўка, якія, верагодна, належалі ўладальнікам гэтага маёнтка. Зараз гэты вялізны сшытак бердаўскіх дакументаў захоўваецца ў Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стэфаныка (як я разумею, гэта тое, што засталося ў Львове пасля пераезду Асаленіюма ў Уроцлаў). Расшыфроўкай гэтых дакументаў я займаўся каля 5 гадоў, і вынікам гэтай працы з'яўляецца наступны артыкул.

Заўважу, што ўсе дакументы XVI - першай паловы XVII ст., на якія я буду спасылацца і цытаваць, напісаны на старабеларускай мове. У больш позні час яны былі перапісаны лацінкай, але не перакладаліся на польскую мову і такім чынам з'яўляюцца цудоўнымі ўзорамі старабеларускай лацінкі. Я пераводжу гэтыя тэксты з лацінкі ў кірыліцу, проста змяняючы літары, таму ў ніжэй прыведзеных тэкстах не будзе звычайных для старабеларускай мовы літар, якія зараз ужо не ўжываюцца.

Трэба яшчэ сказаць некалькі слоў пра формы напісання жаночых прозвішчаў і іменаў у той час. Звычайна ў жаночым прозвішчы прысутнічае прозвішча мужа і бацькі кабеты. Часцей за ўсё, спачатку падавалася прозвішча мужа, далей - вытворнае ад яго імя, а таксама часам вытворнае ад імя па бацьку мужа, далей - дзявочае прозвішча ці прозвішча першага мужа, толькі потым называлася ўжо ўласнае імя і імя па бацьку. Да гэтага часта дадавалася прозвішча другога мужа.

Першае гістарычнае згадванне Бердаўкі я знайшоў у 3-цім томе Метрыкі ВКЛ, у раздзеле **"То сут книги, кому корол именья роздал"**, запісы якога зроблены паміж 1440 і 1492 гг. Вялікі князь ВКЛ і кароль надаў: *"Ивашку Судимонътовичу десеть ч(о)л(о)вековъ а дворе // на Бердовъци; а поведалъ на три сохи земли; и з жити, и с паробков, а на имя тымъ десятемъ ч(о)л(о)векомъ: Дрютус, Жинька а Кгойви, Чиждо а Матейко, а Яцъ, а иныхъ пять ч(о)л(о)вековъ"* [1]. Адзначу, што ў дакуменце пералічаны першыя вядомыя нам жыхары гэтага населенага пункта.

У 1527 г. Бердаўка згадваецца ў прывілеі Жыгімонта Старога, пасля смерці маршалка Юрыя Ільініча яна стала маёмасцю яго сына Станіслава, у Лідскім павеце Станіслаў атрымаў яшчэ і Прыдыбайлы: *" ...его, п(а)ну Станиславу - замок Мир в повете Новгородском со всими дворцы, што к нему прислухаюит(ь): Жуховичы а Медъведичы, а Жеребъковичы, а Бретинки, а двор Бердовка и Придыбаловский дворец ..."* [2].

Верагодна, менавіта пасля Ільінічаў вялікі і адзіны раней маёнтак пачаў распрадавацца па частках.

У 1529 г. Якуб Адамовіч, князь Гедройцкі, які меў маёмасць у Ліпнішках і Бердаўцы, прадаў за трыццаць коп частку сваёй маёмасці ў Бердаўцы, якую ён атрымаў ад маці, Мікалаю Сангялевічу (Миколаю Сонгеловичу, потым землі Сангайлы будуць неаднаразова фігураваць у дакументах маёнтка Бердаўка) і Ядвізе Алехнаўне (Ядвиге Олехновне) *"правом вечным"* [3]. У 1537 г. Ядвіга Алехнаўна прадала сваю частку маёнтка Бердаўка за *"тридцать коп вечным правом"* Гаштольду, які ў той час валодаў Геранёнамі[4].

Ёсць меркаванне, што ў XVI ст. маёнтак - гэта радавое гняздо шляхціцаў Бердаўскіх, але былы вялікі маёнтак заўсёды меў шмат гаспадароў. Ніжэй можна будзе ўбачыць, як змяняліся ўладальнікі розных частак гэтага некалі вялізнага маёнтка.

## Ад XVI і да пачатку XVII ст.

### Паны Шункі

У 1542 г. землеўладальніца Лідскага павета **Ганна Грышкоўна Хілімонавая** запісала **Ганне Сакураўне Шункавай** трэццюю частку свайго маёнтка Бердаўка: двор з усімі землямі, якія да яго належаць (у Дубішках, Філіпках, Рудкаўшчыне і Зелянішках), а таксама сенажаці, лясы і г. д.[5]

З выпіскі з гродскіх кніг Лідскага павета бачна, што 5 жніўня 1577 г. *"перад лідскім падстарастам Марцінам Юхновічам Сангіным (Сонкныном)"* і *"врадным"* пісарам Паўлам Круневічам, землеўладальнік Лідскага павета **Мацей Касоўскі** (Матус Косовски) на **"вечныя часы"** прадаў *"з свайго маёнтка*

[1] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498): Uzrasymu knyga 3. Vilnius, 1998. P. 21.
[2] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 224 (1522-1530): Uzrasymu knyga 4. Vilnius, 1997. P. 216.
[3] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 1 (1380-1584): Uzrasymu knyga 1. Vilnius, 1998. P. 359.
[4] Там жа. P. 370.
[5] Lwowska Naukowa Biblioteka im. W. Stefanyka NAN Ukraine. Oddzial Rekopisow. Zespol 4 (Zbior rekopisow Biblioteki Baworowskich). Dzial I (Inwentarz rekopisow Biblioteki Baworowskich) (sygnatura oryg.: 1287). Akty sadowe roznych rodzin polskich i rusko-litewskich 1512-1869. Sztuk 1-216 (XVI-XIX w.). Sygnatura: DE-16042, (Далей: LNB). Арк. 258.

*бердаўскага"* за 5 коп грошаў пану **Станіславу Янавічу Шунку** сенажаць над ракой Гаўя каля сяла Бурдукі, *"которая сеножат пад рекой Гавиёю в коле под Селом Бурдукаму концом до реки Бердовки, а другим концом к сеножати его мыласты Яна Станислава Шунка"* [6].

Згодна са спісам войска ВКЛ у 1565 г. *"Матусъ Косовски ставилъ два кони ... то естъ з дворъца Рекъстевского конъ, а доуги конъ з Беръдовки з имена женънего"* [7]. Як бачым, Мацей Касоўскі валодаў маёнткам Рэксці, а Бердаўку атрымаў у пасаг. У спісе войска 1567 г. паведамляецца, што *"Матысъ Косовский самъ служитъ пану Калистрату Шимкавичу, з ымений своихъ Бердова а Рекстевсого выслалъ слугъ, клячи 2 ... з рогати"* [8].

Верагодна, вёска Касоўшчына - былая маёмасць Касоўскіх.

Дадам, што ў спісе войска ВКЛ ад 1567 г. узгадваецца нейкі *"Янъ Мицковичъ з Бердовки, кляча, рогати"*, а таксама Ганна Копцева з маёнтка Бердаўка, якая пасылала ў войска слугу Матыса, Сцяпан Паўловіч з маёнтка Берадаўка, Шчасны Стацкевіч з Бердаўкі, Павел Аляхновіч з маёнтка Бердаўка, Ян з Бердаўкі Пятровіч, Юзаф (Езофъ) Міклашэвіч з вёскі Бердаўка, *"самъ служитъ бискупу Виленскому, выслалъ слугу Станислава Матеевича"* [9]. Магчыма, усе яны адносна небагатыя шляхціцы, якія валодалі нейкімі надзеламі зямлі ў Бердаўцы.

У 1589 г. **Міхал Станіслававіч Шунка** (сын Станіслава Янавіча і Ганны Шункаў) ад свайго імя і ад імя свайго малодшага брата Юрыя прадаў сваю частку зямлі з маёнтка Бердаўкі і *"зямлі Сангайлаўскай"* землеўладальніку Лідскага павета **Івану Іванавічу Альшэўскаму** [10].

У 1591 г. гаспадарскі землеўладальнік Наваградскага павета Крыштаф Цяпрынскі падаў позву ў Лідскі гродскі суд на Міхала Станіслававіча Шунку з-за кражы Шункавымі падданымі бабровых залозаў[11]. Як бачым, тое што зараз мае назву "бабровы струмень" выкарыстоўвалася і нашымі продкамі.

У тым жа 1591 г. у земскім судзе была ўзбуджана судовая справа паміж Іванам Альшэўскім і ўладальнікам часткі маёнтка Бердаўка Міхалам Станіслававічам Шункам. З позвы ў суд даведваемся, што землеўладальніца Лідскага павета Ганна Грынкоўна Хілімонавая *"да рук сваих взела"* ў Міхала Сакура (здаецца, прадзеда Міхала Станіслававіча Шункі) сто коп літоўскіх грошаў і запісала гэтыя грошы пасля сваёй смерці Міхалу Сакуру і яго матцы Ганне Сакураўне на дзвюх частках маёнтка Бердаўка з дварамі ў Дубішках, Цяглішках, Руткоўшчыне і на Зелянішках. За гэта яна вольна жыла ў маёнтку да сваёй смерці. Пасля смерці, маёмасць *"безправна, свавольна"* забрала сабе Ганна Сакураўна Шункавая[12].

З наступнай позвы ў суд даведваемся, што сваю трэццюю частку маёнтка Ганна Грынкоўна Хілімонавая аддала *"от блиских Кревных й Повиноватых своих ... Пану Ивану Ольшевскому"* [13]. Сітуацыя цалкам заблыталася, і толькі праз суд Шункі маглі падзяліць маёмасць з Альшэўскімі, пра якіх я трошкі раскажу ў наступным раздзеле.

Цікавым дакументам з'яўляецца копія *"права вечыстага прадажнага ад ЯВп Юрыя Шункі ЯВп Міхалу Шунку на маёмасць Бердаўка"*, згодна з дакументам, у 1604 г. Юры Шунка прадаў *"над речкой Бердовкой"* маёмасць свайму брату Міхалу за 2000 коп літоўскіх грошаў. У сваю чаргу Юры Шунка атрымаў сваю частку маёнтка *"по брату нашом розоному, небошчыку"* Станіславу Станіслававічу, які не меў дзяцей. У дакуменце згадваецца былы гаспадар маёнткаў Гаўя і Сантакі ў Ашмянскім павеце **Ян Янавіч Чаховіч,** ён жыў у той час, калі яшчэ жыла маці вышэй згаданых братоў Шунак - Ганна Сакураўна Шунквая[14].

У лістападзе 1609 г. адбыліся сутычкі паміж уладальнікамі маёнткаў Бердаўска і Жыжма. З судовай справы паміж лідскім харунжым Міхалам Шункам, уладальнікам маёнтка Бердаўка і Мартынам Шымановічам Чаплінскім, уладальнікам маёнтка Жыжма, можна зразумець, што людзі Чаплінскага напалі і збілі сялян вёскі Сліжы, якая належала маёнтку Бердаўка, а людзі Шункі наўзамен напалі на вёску Гімбуты з маёнтка Жыжма[15].

У 1611 г. Юры Станіслававіч Шунка запісаў свайму брату Міхалу Шунку 200 коп літоўскіх грошаў[16]. У 1614 г. другая жонка Міхала Шункі Крысціна з дому Зенавічаў, адпісала мужу суму ў 600 коп літоўскіх грошаў[17]. З позвы ў суд ад 1620 г. бачна, што Юры Станіслававіч Шунка з другой сваёй жонкай Геленай Андрэеўнай валодалі яшчэ і маёнткам "*Дабровице в повеце Ошмянском"* [18].

Як бачым, у канцы XVI - XVII ст. частка маёнтка Бердаўка пачала канцэнтравацца ў руках Міхала Шункі. Пасля яго смерці, маёмасць Міхала Шункі пе-

[6] LNB. Арк. 167.
[7] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Т. 33. С. 283.
[8] Там жа. С. 750.
[9] Там жа. С. 748 - 755.
[10] LNB. Арк. 258.
[11] LNB. Арк. 262.
[12] LNB. Арк. 263.
[13] LNB. Арк. 265.
[14] LNB. Арк. 272 - 273 адв.
[15] LNB. Арк. 275.
[16] LNB. Арк. 260.
[17] LNB. Арк. 276 - 277 адв.
[18] LNB. Арк. 282.

райшла да яго дачкі Барбары і сыноў Геранiма і Яна. Надзвычай цікавы інвентар маёнтка Бердаўка Шункаў таго часу я падаю ў дадатках.

З інвентара бачна, што Шункі жылі ў хаце, якая палілася па-беламу і мела 2 шкляныя акны. З мэблі ў хаце стаялі: шафа, стол, зэдль і 2 лавы. Каля хаты меўся бровар, які адначасова з'яўляўся лазняй. Гэты будынак меў 2 аддзелы - піўны і гарэлачны. За брамай пры гасцінцы стаяў *"пусты стаў з млынам"* і 5 сажалак. Маёнтак меў капліцу, якую, падобна, ніхто не наведваў, *"у капліцы алтар, тры лаўкі, дзверы забіты"*. Магчыма, капліца была рыма- ці грэкакаталіцкай, а Шункі маглі быць пратэстантамі, але гэта толькі гіпотэза. Акрамя шматлікіх гаспадарчых пабудоў Шункі мелі сваю пякарню[19]. Маёнтку належалі вёскі Меляшы і Сліжы[20].

У 1636 г. *"Барбара Міхайлаўна Шункоўна, харужанка Лідскага павета Яновая Быкоўская"* разам з мужам Янам Самуілавічам Быкоўскім прадалі нейкую частку маёнтка Бердаўка лідскаму земскаму суддзі **Самуілу Кунцэвічу**[21]. Харунжыч Геранім Міхайлавіч Шунка разам са сваёй жонкай Мар'янай Янаўнай ад сябе і ад імя брата Яна Міхайлавіча Шункі ў 1642 г. прадаў сваю частку маёнтка **Аляксандру Пуцяце**[22]. У 1643 г. маёмасць праз суд была падзеленая паміж Пуцятам і Шункамі[23]. У 1644 г. Ян Шунка *"застаўным правам"*, г. зн. у арэнду, за 120 коп літоўскіх грошаў узяў у Аляксандра Пуцяты трох падданых (сялян) з вёскі Меляшы. Гэтыя сяляне жылі *"на паўвалоках"* і зваліся: Захар Сілевіч, Герасім Гутаровіч, Іван Трухла. Арандаваны яны былі з *"жонкамі, дзецьмі, з быдлам і павіннасцямі, пачынаючы з рымскага свята Святога Юрыя"* [24]. Як бачым у першай палове XVII ст. беларускія сяляне ўжо маюць прозвішчы.

З копіі позвы ў суд у справе ЯВп Яна Быкоўскага з ЯВпп Шункамі (1641 г.) даведваемся пра сямейныя праблемы Шункаў. Яшчэ раз адзначу, што гэты цікавы тэкст напісаны на старабеларускай мове і потым перапісаны лацінкай, але я падаю яго ў перакладзе на сучасную беларускую мову: *"Ад караля польскага і вялікага князя ВКЛ Уладзіслава IV ... харунжычам Лідскага павета ЯВпп Гераніму і Яну Міхайлавічам Шункам і ... землеўладальнікам Лідскага павета ... пану Яну Быкоўскаму ... і яго жонцы пані Барбары Шункоўне, лідскай харужанцы ... праз бацьку ваша родная сястра, як уласна актарка, даводзіць, што: нябожчыца пані Зоф'я Кунцэвічоўна, наваградская падкамаранка Міхайлава Шункова, першая жонка* (Міхала Шунка - *Л. Л.*), *памерла 17 кастрычніка 1594 г. Яна сваім ліставым запісам прызначыла суму ў тысячу коп літоўскіх грошаў, якія мела на заставе маёнтка Бердаўка ў Лідскім павеце ... Палову з гэтых грошай - 500 коп, сваім запісам яна падаравала дачцэ Кацярыне ... Пасля смерці жонкі і маці* (Барбары - *Л. Л.*), *нябожчык лідскі харунжы ... тую суму ў 500 коп прызначыў двум сваім дочкам - пані Марыне Касоўскай і ... пані Барбары Быкоўскай"*[25].

Як бачым, грошы, якія павінна была атрымаць толькі дачка ад другога шлюбу Кацярына (па мужу Касакоўская) харунжы перапісаў на дачок ад першага шлюбу Барбару і Марыну.

Таксама, сёстры павінны былі атрымаць 400 коп грошаў ад іх бабулі Барбары Аўсянаўны Андрэевай Мантоўтавай. Далей у дакуменце: *"Пан Міхал Шунка, лідскі харунжы і ваш бацька сваім тастамантам адабраў тую суму ў 400 коп літоўскіх грошаў ад ЯВп Самуэля Кунцэвіча, лідскага земскага суддзі, і праз запіс на маёнтак Бердаўка, перадаў сваім дочкам ад першага шлюбу"* [26].

У гэтым дакуменце апісаны спосаб перадачы позвы ў суд: *"каб перадаць ... землеўладальніку Лідскага павета позву, маючы яе пры сябе, ... два шляхціцы, паны Пётр і Павел, сыны Крыстафа, ... прыехалі ў двор маёнтка Бердаўка Шункоўскіх - на частку, якая яму належыць, на старую сядзібу, дзе перад гэтым тая позва была парваная. Гэтая позва была ўваткнутая ў вялікія ўязныя вароты, што мог бачыць вартаўнік гэтай старой сядзібы ..."* [27].

Міхал Шунка з 19 лютага 1605 г. па 2 лютага 1627 г. быў харунжым Лідскага павета[28]. Таму, можна выказаць здагадку, што да Бердаўкі Шункоўскіх у тым ліку належала і вёска, якая сёння мае назву Харужаўцы. Пры канцы XVIII ст. Харужаўцы належалі Лідскім кармелітам, шлях ад Лідскага касцёла да гэтай вёскі апісаны наступным чынам: *"на летні ўсход наўпрост цераз раку Лідзейку і малы альховы гай - дзвесце пяцьдзесят крокаў, кругом цераз грэблю і мост, якія праз дзве тысячы крокаў ад вёскі, каля чвэрці мілі"*[29] (адлегласць пададзена заблытана - *Л.Л.*).

**Паны Альшэўскія**

Як і належыць паміж *"добрымі суседзямі"*, ужо ў 1590 г. адбыўся судовы працэс - позва ў суд была выпісана ад імя лідскага старасты Яна Абрамовіча *"Земенину господарскому Повета Лидзкого Пану Олехну Богдановічу Руцкаму й Малжонцы яго Ганне*

[19] LNB. Арк. 23.
[20] LNB. Арк. 23 адв.
[21] LNB. Арк. 289 - 289 адв.
[22] LNB. Арк. 297 - 298.
[23] LNB. Арк. 300.
[24] LNB. Арк. 301.
[25] LNB. Арк. 295.
[26] LNB. 295 адв. - 296.
[27] Там жа.
[28] Urzednicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 316.
[29] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Лідская // Лідскі Летапісец. 2013. № 1(61). С. 33.

*Здановне Бердовской й сыну их Яну Олехновічу Руцкому"*. На Руцкіх скардзіліся ЯВп Іван Іванавіч Альшэўскі і ЯВп Ян Пятровіч Бердаўскі. Справа ў тым, што 12 ліпеня 1590 г. паны з маёнтка Бердаўка разам са сваёй дворнай чэляддзю захапілі сенажаць, якая ляжала ва ўрочышчы *"Болото на Греде"*. Тая сенажаць знаходзілася паміж уладаннямі паноў Алехны Руцкога, наваградскага харунжага Кірыла Андрэевіча, Івана Альшэўскага (які жыў у Зелянішках) і Каспра Даўгірда. ЯВп Алехна Руцкі *"гвалтовна"* скасіў сена *"на пять возов"* і *"згроб"* яго праз мяжу на сваю зямлю. Тое самае паўтарылася і 17 ліпеня, але ўжо ва ўрочышчы, якое ляжала каля Ясеневага гаю[30].

У 1591 г. Іван Альшэўскі атрымлівае дакумент на валодання *"вечыстым правам"* трэцяй часткай Бердаўкі і зямлі з *"лясамі лоўскімі"* [31].

У 1620 г. кароль Жыгімонт III паслаў сваіх рэвізораў, каб тыя вярнулі Геранёнскаму староству землі, забраныя суседнімі маёнткамі[32]. 2 верасня Іван Альшэўскі атрымаў ад каралеўскага рэвізора ліст, у якім паведамлялася пра новыя, удакладнёныя межы яго маёнтка Бердаўка[33].

### Паны Бердаўскія

У 1533-1555 гг. Лідскім харунжым быў **Станіслаў Наркавіч** (ці Наркевіч) **Бердаўскі**[34]. Згодна са спісам войска ВКЛ у 1565 г. *"Якуб Бордовски"* (верагодна, усе ж *Бердаўскі - Л. Л.*) у Лідскім павеце выстаўляў два кані[35].

Далей, храналагічна, мы ведаем пра існаванне двух братоў - **Пятра і Сцяпана Бердаўскіх** (гл. ніжэй).

У 1591 г. уладальнікі розных частак маёнтка Бердаўка на рацэ Хвашчоўцы вырашаюць разам прадаць свае часткі **Яну Пятровічу Бердаўскаму**. Былыя ўладальнікі: Мартын Мікалаевіч Якубовіч, Себасцян Мікалаевіч, Мікалай Сташыс Львовіч Ёдка, Мартын Янавіч Тубялевіч, Ясь Шчэпанавіч Шналжэвіч[36]. У 1595 г. Ян Пятровіч Бердаўскі і Іван Альшэўскі дамаўляюцца паміж сабой аб падзеле Янгутоўскай пашы і сенажаці над ракой Хвашчоўкай[37].

Яшчэ ў 1592 г. Войцэхавая Марыся Пятроўна (верагодна сястра Яна Пятровіча Бердаўскага) прадала сваю частку маёнтка Бердаўка (якая ёй дасталася ад маці) **Васілю Волкаву**, гэта частка маёнтка ляжала над рэчкай Бердаўкай[38]. Верагодна, ад гэтага Волкава паходзіць назва вёскі Воўкаўцы.

Цікава прасачыць за суседскімі спрэчкамі паміж Янам Бердаўскім і Іванам Альшэўскім. 12 кастрычніка 1596 г. у Лідскім гродскім судзе слухаецца справа аб гвалтоўным адабранні сена Янам Пятровічам Бердаўскім у Івана Іванавіча Альшэўскага на Сангалаўскіх лугах і аб маёмасным праве на гэтыя лугі[39].

1 жніўня 1599 г. суд вырашыў гэту маёмасную справу. З дакумента даведваемся, што *"сенажаці, лясы, зараслі і дубравы на Сангайлаўскай зямлі"* былі супольна купленыя Янам Бердаўскім і Мікалаем Якубовічам у Ганны Сангайлаўны. Покуль жыў Мікалай Якубовіч, праблем не было. Яго сын Стас Мікалаевіч (пэўна, вышэйзгаданы Мартын Мікалаевіч Якубовіч - яго брат і сын Мікалая Якубовіча), якога называюць у дакуменце Немчыноўскі (можа вучыўся ў Германіі?) у 1589 г. прадаў сваю частку Сангайлаўскай зямлі Івану Альшэўскаму, які ўжо валодаў той часткай маёнтка, якая раней належала Міхаілу Станіслававічу Шунку. Ян Бердаўскі не знайшоў паразумення аб былой супольнай маёмасці з новым гаспадаром. У выніку Сангайлаўскія землі падзяліў суд і з дакумента падзелу даведваемся, што Сангайлаўская зямля акрамя надзелаў Яна Бердаўскага і Івана Альшэўскага, межавала яшчэ і з зямлёй Мікалая Руцкога. З гэтага ж дакумента даведваемся што жонку Яна Пятровіча Бердаўскага звалі Дарота Пятроўна з Аляхновічаў. Магчыма, яна паходзіла з роду тых самых Аляхновічаў - адных з першых гаспадароў часткі былога вялікага маёнтка Бердаўка[40].

13 снежня 1599 г. ужо Ян Бердаўскі выклікаў Альшэўскага ў Лідскі гродскі суд, бо *"Року теперешнего 1599 месеца Декабря 10 дня у Чэтвер, Ты Иване Ивановичу Ольшевски не ведома для которое прычыны Сам Особове с своими уж многими Слугами й Поддаными своими, ... гвалтом напал на яго власны отчызны Имения яго в Повеце Лидским лежачого, прозываемого Бердовским, у рошчысчом Нагрудок"*. Альшэўскі забраў сабе лес - урочышча Нагрудак, якое Бердаўскі лічыў сваім. З апісання, бачна, што гэты лес ляжаў паміж маёнткамі: харунжавай наваградскай **Андрэевай Клюкоўскай**, **Яна Мар'яна** і **Яна Янавіча Бердаўскага** і балотам **Алехны Багданавіча**[41].

20 лістапада 1607 г. ураднік князя Пятра Жыжамскага Матыс Карчэўскі з падданымі *"гвалтом наехал"* на дом Яна Бердаўскага і *"взял скрыню"*, у якой было 400 коп грошаў і розныя паперы. З позвы ў суд даведваемся, што жонку Яна Бердаўскага звалі Ева Стаміраўсчанка. Сярод тых, хто разбіраў гэту судовую

[30] LNB. Арк. 259.
[31] LNB. Арк. 261.
[32] LNB. Арк. 283.
[33] LNB. Арк. 284.
[34] Urz?dnicy Wielkiego Ksi?stwa Litewskiego. Spisy. T. 1. S. 316.
[35] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Т. 33. С. 285.
[36] LNB. Арк. 264.
[37] LNB. Арк. 268.
[38] LNB. Арк. 267 адв.
[39] LNB. Арк. 269.
[40] LNB. Арк. 270 - 270 адв.
[41] LNB. Арк. 271

справу фігуруе *"Станислав Каспорович Войшвил, Возны Повету Лидзкого"* [42].

З прадажнага ліста часткі маёнтка ад 1614 г. мы даведваемся, што пасля смерці Сцяпана Бердаўскага (верагодна, брата Пятра Бердаўскага) маёнтак быў падзелены на роўныя часткі паміж 4-ма братамі: Янам, Эзопам, Крыштафам і Станіславам. Гэты дакумент фіксуе продаж Станіславам Сцяпанавічам Бердаўскім сваёй 4-й часткі маёнтка брату Крыштафу Сцяпанавічу Бердаўскаму і яго жонцы, Мар'яне Матысоўне Вербушанцы, за сорак коп літоўскіх грошаў: *"... тая чацвертая част моя того имения Бердовского сама в собе мает ... селишчом дворным, огороды овошчовоми, хмелёвыми, погноями, польми простыми, выгонами, сенажатми мурожными й болотными, гаями, лесами й всякими зарослями з рэками ..."* [43]. Тым не менш, 17 снежня 1636 г. у лідскім гродскім судзе адбыўся судовы працэс, падчас якога разбіралася законнасць валодання Крыштафам Сцяпанавічам Бердаўскім часткамі маёнтка Бердаўка, якія належалі яго памерлым братам Станіславу і Юзафу Бердаўскім[44].

У 1628 г. *"на рымскае свята тры каралі"* гаспадарскі землеўладальнік Лідскага павета пан **Альбрыхт Янавіч Шчэпановіч Бердаўскі** (сын Яна, унук Сцяпана) прадаў свайму дзядзьку Крыштафу Бердаўскаму і яго жонцы Магдалене сваю частку маёнтка над рэчкамі Хвашчоўкай, Лапенкай, Бердаўкай. Падаю ў перакладзе на сучасную беларускую мову: *"... маёнтак застаўся мне ад майго бацькі, нябожчыка пана Яна Шчэпанавіча Бердаўскага. Адну частку ён купіў у свайго роднага брата пана Крыштафа Шчэпановіча Бердаўскага, а другую частку мой бацька запісаў сваёй жонцы і маёй маці пані Гальшчы Валянцінаўне з Скарновічаў, яна павінна была атрымаць яго пасля смерці мужа. ... З-за таго, што мне вельмі патрэбны грошы, частку свайго бацькі прадаю гаспадарскаму землеўладальніку Лідскага павета Крыштафу Бердаўскаму і яго жонцы пані Мар'яне Матысаўне Вербушанцы за 130 коп літоўскіх грошаў"* [45].

У 1636 г. Крыштаф Сцяпанавіч Бердаўскі судзіўся за дзве пусташы, якія ляжалі недалёка ад яго маёнтка[46].

## Ад пачатку XVII і да XVIII ст.

Недзе ў 1630-я гг. Іван Альшэўскі прадаў сваю частку маёнтка Бердаўка **Мікалаю Гудзічэўскаму** і яго жонцы **Барбары Чахавічоўне** за 180 коп літоўскіх грошаў. У 1630-м годзе Гудзічэўскі прыкупіў яшчэ частку маёнтка ў нейкага Прушэўскага, асобы, якая да гэтага часу не фігуравала ў дакументах, якія я маю[47]. У 1635 г. Мікалай Гудзічэўскі судзіўся з падканцалярынай ВКЛ Сапегай, старасцінай Геранёнскай і Ліпнішскай, за крыўды, якія яму зрабіла Ліпнішская вёска Бялюшы[48]. Суд "*аб забранні зямель і лясоў Ліпнішскімі падданымі ў Бердаўцы Гудзічэўскага"* працягваўся і ў 1636 г.[49]

У зборніку дакументаў, якім я карыстаюся, прысутнічае **"Выпись по прошению для действительного тайного советника и разных орденов кавалера графа Ильи Андреевича Безбородко из книг литовской метрики под № 14"**, зробленая ў 1800 г. З дакумента часоў караля Уладзіслава IV бачны працяг справы з падканцалярынай *"... Мікалая Гудзічэўскага з Лукашом з Бніна Апалінскім, маршалкам вялікім каронным і з Соф'яй з Зурова Данілавічоўнай, былой падканцалярынай ВКЛ, а зараз маршалковай (жонкай) аб прыналежнасці вёсак Жэбнішкі, Дубішкі, Шабішкі і Грудзішкі да маёнтка Бердаўка"* [50].

Як бачым, праблемы ўсталявання межаў з Ліпнішскай маёмасцю вырашаліся не проста. З апошняга дакумента зразумела, што судовым апанентам Гудзічэўскага была 4-я жонка падканцлера вялікага літоўскага Паўла Стэфана Сапегі (1565-1635) Соф'я з Даніловічаў, з якой падканцлер ажаніўся ў 1630-м г., за 5 гадоў да смерці. Чацвёртая жонка перажыла мужа і сама пахавала яго ў Гальшанскім касцёле францішканаў. Як бачым з дакумента, у сваім другім шлюбе яна была другой жонкай кароннага маршалка Лукаша Апалінскага (1581-1654).

У 1638 г. быў складзены цікавы дакумент: **"Рэестр спраў** (дакументаў) **пры продажы Бердаўкі ад Крыштава Бердаўскага Гудзічэўскаму. 4 мая 1638 г.".** З гэтага дакумента, становіцца зразумелым, што жонка Мікалая Гудзічэўскага была дачкой Яна Янавіча Чаховіча (ад гэтых Чаховічаў, магчыма, паходзіць назва вёскі Чэхаўцы ці Чахаўцы), уладальніка Гаўі і Сантакоў у Ашмянскім павеце. З гэтага дакумента таксама даведваемся пра ўладальнікаў частак былога адзінага маёнтка Бердаўка, людзей, якія раней не фігуравалі ў іншых дакументах.

З-за цікавасці прыводжу тэкст дакумента амаль што цалкам:

*"Рэестр спраў Крыштафа Бердаўскага на яго ... маёнтак Бердаўка ... які мы прадалі ЯВ пану Гудзічэўскаму і яго жонцы ЯВ пані Барбары Чаховічоўне Мікалаевай Гудзічэўскай ... 1638 г.*

*А. 1. Ліст на пергаменце стары, прадажны, Багдана Ігдзеявіча Антонавіча і яго жонкі Магдалены*

---

[42] LNB. Арк. 274.
[43] LNB. Арк. 280 - 280 адв.
[44] LNB. Арк. 287.
[45] LNB. Арк. 189 - 189 адв.
[46] LNB. Арк. 194 адв.
[47] LNB. Арк. 285 - 285 адв.
[48] LNB. Арк. 286.
[49] LNB. Арк. 288.
[50] LNB. Арк. 292 - 293 адв.

*пану Пашку Мікалаевічу Багатыровічу на землі за лесам на 20 бочак, а за лясной сенажаццю на 40 бочак.*

*D. 7. Прадажны ліст Магдалены Багданавай, жонкі (Багдана Ігдзеевіча) і яе дачкі Ганны пану Мікалаю Багатыровічу зямлі на 6 бочак, 1531 г. 12 жніўня.*

*C. 3. Прадажны ліст Мікалая Кумавідавіча пану Мікалаю Багатыровічу зямлі на 6 бочак за 2 капы грошаў. Года няма.*

*D. 4. Ліст Янкі Кунцэвіча і яго жонкі Барбары аб продажы гарода на чатыры бочкі і сенажаці пану Мікалаю Багатыровічу за пяць коп і дзесяць грошаў. Года няма ....*

*E. 5. Ліст запісу Мацковай, які належыць Пашку Багатыровічу. Года няма.*

*F. 6. Ліст прадажны пані Мацковай Трэмікoвічавай на шэсць ніў пану Паўлу Мікулічу (верагодна назва вёскі Мікулічы з'яўляецца патронімам ад гэтага прозвішча - Л. Л.). 1564 г.*

*G. 7. Ліст Ярака Касцевіча, а таксама яго жонкі і дзяцей на зямлю ў заставу пану Пашку Мікулічу Багатыровічу. За 60 грошаў. Даты няма.*

*H. 8. Ліст Кахны Мацковай і яе дачкі ... аб продажы зямлі Пашку Мікулічу. Даты няма.*

*J. 9. Ліст ... Яновіча ад продажы Пашку Мікулічу.*

*K. 10. Ліст прадажны ад пана Станіслава Бердаўскага пану Крыштафу Бердаўскаму ў 1614 г.*

*L. 11. Выпіс прызнання ... згодна з выракам.*

*N. 12. з ... права, 1636 г.*

*N. 13. Выпіс з інтрамісіі 1625 г.*

*O. 14. Ліст ... пана Юзафа Бердаўскага аб продажы пану Яну Бердаўскаму, 1625 г.*

*P. 15. Выпіс прызнання і продажу ад пана Альбрэхта Бердаўскага, арыгінала няма.*

*R. 16. Інтрамісія[51] гэтага права."* [52]

У 1646 г. Лідскі гродскі суд разглядаў скаргу **Яна Бердаўскага** на некага Яна Рамушкевіча, які ледзь не забіў яго жонку **Зоф'ю Бердаўскую**: *"Ян Рамушкевіч, які ні маёмасці, ні службы не мае, ... у гэтым 1646 годзе, 28 верасня пакрыўдзіў Яе міласць пані Бердаўскую і яе работнікаў ... якія працавалі на ярыне ... перад дваром Іх мосцей Бердаўкай ... зараз каля брамы пры гасцінцы, які ідзе з Ліды да Ліпнішак. Гэты Рамушкевіч невядома ад каго і куды па тым гасцінцы ехаў і будучы чалавекам нецвярозым, з нечай намовы ці па сваёй задуме, без ніякай да таго прычыны і нават не ведаючы Бердаўскіх, замест добрых словаў, якія паспалітыя прызвычаіліся казаць, ён, не паважаючы гонару Яе міласці як сапраўднай шляхцянкі і жанчыны, ... найперш самымі брыдкімі словамі, якія сорамна тут напісаць, яе аблаяў, а потым павярнуўшы з гасцінца да хаты пані Бердаўскай з пісталетаў пачаў страляць і ледзь у яе не патрапіў. Пасля гэтага пачаў ганяцца па полі за жанчынамі..."* [53].

Ва ўсе часы алкаголь не даводзіў да дабра, але, на жаль, мы не ведаем чым закончылася гэтая справа.

У 1675 г. Юзаф Бердаўскі прадаў сваю частку маёнтка Яну Бердаўскаму[54].

У 1690 г. па 1 дыму ў Бердаўцы мелі: удава Паўла Руцкога (імя няма), Кшыштаф Стацкевіч, Алена Адамаўна Руцкая, Міхал Руцкі[55].

У 1755 г. маёнткам Бердаўка Гудзічэўская (ці Гудзічэўшчына) валодае ЯП **Ігнат Мысліцкі**, маёнтак складаецца з вёсак Бакуны (7 дымоў), Дубішкі (2 дымы) і Кір'янаўцы (2 дымы)[56]. У 1784 г. лідскі ротмістр Мысліцкі таксама валодае фальваркам і вёскай Кір'янаўцы, *"на ўсход, узімку дзве з чвэрцю мілі* (ад Лідскага касцёла - *Л. Л.*), *трохі далей карчма Бродава таго ж пана"* [57].

Маёнткам Бердаўка Кір'янаўская ў 1755 г. валодае ЯП **Караль Пракаповіч**, у яго Кір'янаўцах - 2 дымы[58].

З дакументаў 1740-х гг. бачна, што вёскай Касоўшчына - часткай былога адзінага маёнтка Бердаўка, валодаў лідскі падчашы **Якуб Вільбік**[59]. У 1743 г. Якуб Вільбік пацвердзіў дамову аб арэндзе маёнтка Бердаўка Гудзічэўская з ЯВ ксяндзом **Эльяшам Масевічам** (прыёрам кармелітаў з мястэчка Засвір, доктарам сакральнай тэалогіі). Першая дамова аб гэтай арэндзе была падпісана ў 1721 г. і ўключала ў сябе арэнду не толькі Бердаўкі Гудзічэўскай, але і Бердаўкі Мураванай[60]. Але пасля судовага разбору, у 1745 г. Вільбік даў распіску прыёру Масевічу, што ён *"не мае аніякіх прэтэнзій на маёмасць, якая мае назву Бердаўка Мураваная Масевічовая ..."* [61]. У падымным рэестры 1690 г. маёмасць Вільбікаў мае назву Бердаўка Касоўшчына Пятрыкоўшчына (1 дым)[62]. У 1755 г. Ян Міхал Вільбік валодаў маёнткам Бердаўка, у які ўваходзіць вёска Філіпкі - 7 дымоў[63]. Але ў 1784 г. фальварк і

[51] Інтрамісія - дакумент уступлення ў права наследавання.

[52] LNB. Арк. 290 - 291.

[53] LNB. Арк. 302.

[54] LNB. Арк. 200 - 201 адв.

[55] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskigo. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 209.

[56] Падымны тарыф Лідскага павета 1755 г. Асабісты архіў аўтара. Арк. 149.

[57] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Лідская // Лідскі Летапісец. 2013. № 1(61). С. 31.

[58] Падымны тарыф Лідскага Павета 1755 г. Асабісты архіў аўтара. Арк. 149.

[50] LNB. Арк. 209.

[60] LNB. Арк. 207.

[61] LNB. Арк. 210.

[62] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskigo. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. S. 209.

[63] Падымны тарыф Лідскага павета 1755 г. Асабісты архіў аўтара. Арк. 149.

вёска Касоўшчына ўжо належалі лідскаму харунжаму Нарбуту[64].

### Паны Масевічы

У 1692 г. Бердаўку Шункоўскіх і Гародна ўзяў у арэнду *"застаўным правам за суму 55 тысяч"* мсціслаўскі ваявода ЯВп **Ян Аляксандр Масевіч**[65]. У Бердаўцы ён валодаў карчмой і акрамя гэтых маёнткаў, на Лідчыне Масевіч меў яшчэ Канюхі, агульна - 70 дымоў[66].

У Лідскім павеце Аляксандр Ян Масевіч, меў 138 дымоў з розных маёнткаў[67].

***Пра Яна Аляксандра Масевіча падрабязна напісана ў папярэднім артыкуле "Маршалкі Лідскага павета".***

У 1699 г. жонка Яна Аляксандра Масевіча, мсціслаўская ваяводзіна, *"застаўным правам"* здала Бердаўку Букатаўскую ў арэнду **Казіміру Мікалаевічу Стэцкаму**[68]. У 1710 г., сын Яна Аляксандра, лідскі харунжы **Францішак Юзаф Масевіч**[69] разам з жонкай Кацярынай з Кунцэвічаў, *"застаўным правам"* здаў Бердаўку Букатаўскую ў арэнду **Міхалу Уланоўскаму**, землеўладальніку Ашмянскага павета[70].

### Паны Жабы

У 1782 г. ЯВпп **Казімір** (шамбелян Яго Каралеўскай мосці) і **Тарэза з Ельскіх Жабы** скардзіліся ў Лідскі гродскі суд на ўладальніка фальварка Жыжма Вінцэнта Гадэбскага, з-за скошвання травы ва ўрочы-шчы Церцякоўшчына, якім валодаў маёнтак Бердаўка[71]. У Вопісе парафій Лідскага дэканату ад 1784 г. чытаем, што Бердаўкай валодае шамбелян Яго Каралеўскай мосці ВП Жаба, *"на летні ўсход дзве з чвэрцю мілі"* ад лідскага касцёла[72].

Раней згаданая капліца ў Бердаўцы, мінімум з канца XVI ст., належала да Жыжмянскай царквы. У фундушы Кацярыны Масевіч, ваяводзіны Мсціслаўскай ад 25 красавіка 1698 г., капліца згадваецца як Бердаўская царква, у іншым месцы як *"ранейшая парафіяльная царква"* [73]. У 1784 г. калятар капліцы - шамбялян Яго Каралеўскай Мосці Жаба. Спрэчку з ім за правы калятарства вёў Мысліцкі, староста барташэўскі[74]. У 1784 г. у капліцы служылі набажэнствы каталіцкія ксяндзы, якія жылі ў Жыжмянскім двары. Верагодна, з тых часоў у Бердаўцы з'явіліся рымакатолікі. У акце візітацыі 1784 г. пра капліцу напісана: *"На зямлі паноў Жабаў, шамбелянаў Яго Каралеўскай Мосці, якая называецца Бердаўка, і афілявана да Жыжмянскай прыходскай царквы. Драўляная, старая, да рэпарацыі няздатная, царкоўнага начыння не мае ..."* [75].

### Паны Захватовічы

У зборніку дакументаў маёнтка Бердаўка, якім я валодаю, першым прадстаўніком сям'і Захватовічаў, якая ў больш позні час валодала Бердаўкай, з'яўляецца **Самуэль Захватовіч**. Ён першы раз згадваецца ў 1661 г. Падчас, магчыма, самай страшнай у гісторыі нашага народа вайны, Самуэль Захватовіч страціў усе дакументы і *"наданні розных каралёў"*. Валодаў ён тады Мацкоўскім Захватоўскім (ці Паначэўскім) маёнткам у Лідскім павеце[76]. У 1685 г. Захватовіч прадае частку гэтага маёнтка[77].

Верагодна, Самуэль Захватовіч меў сына Яна. **Ян Захватовіч** у 1694 г. арандуе маёнтак у Крыштафа Рымкевіча[78], з тэксту немагчыма разабраць, пра які маёнтак ідзе размова ў дакуменце. Ян Захватовіч меў сыноў **Яна і Бартламея**[79]. Ян Янавіч у 1694 г. перапісаў трэццю частку свайго Мацкоўскага маёнтка сыну[80].

У 1755 г. каля Бердаўкі існуе шляхецкая ваколіца Захватоўшчына, у якой жывуць ЯПп **Пётр, Францішак і Мацей Захватовічы** з сем'ямі і **Францішак Руцкі** *"з Бердаўкі"*. Усе яны валодаюць толькі адным сваім дваром[81].

У 1789 г. **Эдвард Захватовіч** з'яўляецца дзедзічам фальварка Куляшышкі ў Эйшышскай парафіі

---

[64] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Лідская // Лідскі Летапісец. 2013. № 1(61). С. 31.
[65] LNB. Арк. 308 - 313.
[66] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskigo. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. S. 209.
[67] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskigo. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. S. 208-209.; 235.
[68] LNB. Арк. 315 - 315 адв.
[69] Urzednicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. T. 1. S. 318.
[70] LNB. Арк. 316 - 317.
[71] LNB. Арк. 217 - 218.
[72] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Лідская // Лідскі Летапісец. 2013. № 1(61). С. 31.
[73] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 39.
[74] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 39.
[75] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127.
[76] LNB. Арк. 201.
[77] LNB. Арк. 306 - 307.
[78] LNB. Арк. 206.
[79] LNB. Арк. 223 адв.
[80] LNB. Арк. 314 адв.
[81] Падымны тарыф Лідскага Павета 1755 г. Асабісты архіў аўтара. Арк. 149.

Лідскага павета. Гэта значыць, што як мінімум яго дзед **Дамінік Захватовіч** ужо валодаў гэтай маёмасцю[82]. У 1794 г. Куляшышкі - маёмасць Захватовічаў[83].

У 1800 г. маці **Міхала Захватовіча Юзэфа Клімайчова**, у першым шлюбе Захватовіч, здае Куляшышкі ў арэнду (заставу) за 1500 зл.[84]

У копіях архіўных дакументаў, якія я маю, з апеляцыі да цара Аляксандра I на вырак лідскага межавага суда, бачна што ўладальнік Бердаўкі Эдвард (Эдуард) Захватовіч меў праблемы з маёнткам Бердаўка Вільбіка[85]. Судовая справа з Вільбікам цягнулася да 1840-х гг. З папер бачна, што Захватовічы валодалі той часткай Бердаўкі, якая мела гістарычную назву Бердаўка Мураваная.

Адначасова Эдвард Захватовіч імкнуўся ўнікнуць даўгоў, якія дасталіся яму ад папярэдняга ўладальніка маёнтка. Менавіта з дакументаў гэтай справы даведваемся, калі Захватовічы сталі гаспадарамі Бердаўкі: "*1827 г., 25 кастрычніка. Правячы сенат слухаў апеляцыю справы ... харунжага Лідскага павета Эдварда Захватовіча, які імкнецца да вызвалення ад усіх зыскаў на суму 60 000 злотых, пакінутай за Захватовічам ад крэдытораў абшарніка Франца Жабы, пасля таго як ён купіў у гэтага Жабы маёнтак Бердаўка.*

*Абставіны справы ... Шамбелян былога польскага двара Казімір Жаба ў спадкі і пасля падзелу паміж братамі атрымаў вотчынны маёнтак Бердаўку і пакінуў маёнтак свайму сыну Францішку Жабу па дакуменце, зацверджаным у Лідскім земскім судзе 17 лютага 1812 г. У гэтым дакуменце ўказвалася, што ўсякі, хто валодае маёнткам павінен: 1) плаціць Казіміру Жабу штогод, пакуль ён будзе жыць 200 чырвонцаў, пачынаючы з 11 красавіка 1812 г. ... 2) акрамя гэтага штогадовага плацяжу, Франц Жаба пасля смерці Казіміра Жабы павінен заплаціць 4000 злотых касцёлу за яго пахаванне ... 3) таксама, ён Жаба, пакінуў сабе як прыслугу 3 чалавекі, з якіх 2 пасля яго смерці паступаюць яго сыну, а 1 атрымлівае вольную ... 4) выплаціць вызначаную суму грошай шамбеляншы Юзафе ... Жабінай ... 5) выплаціць асабістыя даўгі шамбеляна Жабы ....*

*Па гэтым дакуменце Франц Жаба атрымаў маёнтак 17 лютага 1812 г. Далей Франц Жаба, атрымаўшы адступныя дакументы ад нашчадкаў памерлага ваяводы Тадэвуша Жабы, якія мелі прэтэнзіі на частку Бердаўкі, 22 сакавіка 1816 г. разам з сваёй жонкай Анжалікай з Лапашынскіх Жабінай прадаў маёнтак Эдварду Захватовічу за 11000 чырвонцаў, ...*"[86]. Гэты цікавы дакумент займае амаль што 50 старонак рукапіснага тэксту з пералікам маёмасных праблемаў маёнтка, але, здаецца, галоўная інфармацыя для даследчыкаў знаходзіцца ў прыведзеным кавалку.

У 1839 г. уладальнікам маёнтка Бердаўка стаў унтэр-афіцэр Тыфліскага егерскага палка **Вікенцій Карлавіч Захватовіч** - законны нашчадак свайго нябожчыка-дзядзькі Эдуарда Захватовіча. Новы абшарнік атрымаў вёскі Сліжы, Меляшы, Воўкаўцы, Харужаўцы разам з 164 мужчынскімі і 180 жаночымі душамі, 88 валок і 18 моргаў зямлі ралλі, 38 валок і 29 моргаў лесу, 14 валок лесу ўсё яшчэ лічыліся спрэчнымі[87]. У 1842 г. Вікенцій Захватовіч выплаціў неабходныя сумы грошай за права атрымаць спадчынную маёмасць і праз суд прыйшоў да пагаднення з крэдыторамі[88].

У 1842 г. Захватовічам прыйшлося пацвярджаць сваё шляхецтва. З дакумента дэпартамента геральдыі бачна, што "*... пачынальнікам роду з'яўляўся Ян Захватовіч. Гэта бачна са спісу абшарнікаў Лідскага павета за 1690 г., ён валодаў маёнткам Мацкаўскае (Міцкаўскае) - Захватоўскае. Яго сыны Барталамей і Ян у 1699 г. падавалі скаргу ў лідскі гродскі суд на Круповічаў, бо тыя не дазвалялі ім валодаць маёнткам Мацкаўскім-Мацэнаўскім і Радзівілаўскім, якія былі ў закладзе іхняга бацькі. З купчай 1726 г. бачна, што з маёнтка, які ім пакінуў бацька, браты прадалі 3 сялян палкоўніку Шротару ...*

*На Барталамея і яго сыноў Яна і Стэфана ў 1730 г., падавалі скаргу Кандратовічы і Міцкевічы за нявыплату пазычаных грошай і пабоі. А Ян па купчай крэпасці 1700 г. набыў у Вільканца яго вотчынны маёнтак Яцкавічы Куляшоўскія. У 1746 г. Ян і Барталамей з-за забойства іх роднага брата Стэфана падавалі скаргу на Бурцінялоўскага і Свянціцкага.*

*Сын Яна Янавіча - Дамінік Казімір па духоўным тастаманце 1740 г. свае маёнткі Яцкавічы-Куляшоўскія, а таксама маёнткі Мацкаўскае і Папачоўскае, якія былі ў яго ў закладзе, адмовіўся падзяліць на роўныя часткі паміж сваімі сынамі Міхалам і Барталамеям. Па купчай 1750 г., з маёнтка Мацкавічы, які дастаўся ім ад бацькі, браты прадалі двух сялян Нарбуту. Як бачна з квітанцыі 1756 г., закладзеную іх дзедам палову маёнтка Яцкавічы-Куляшоўскія, яны выкупілі ... і прынялі ў сваё ўладанне.*

*Сваё вотчыннае ўладанне Мацкоўскае-Мацэнаўскае, якое ім дасталася пасля бацькі, браты прадалі Яну Барталамеевічу, сыну Захватовіча, а Антон Янавіч і Ігнат Барталамеевіч па купчай 1773 г. маёнтак Мацкаўскае-Мацэнаўскае, які дастаўся ім пасля бацькі, прадалі Маркевічу.*

*У ... Дамініка-Казіміра Міхаіла нарадзіўся ... сын Караль-Антон, які меў сыноў Вікенція і Эдуарда. У Барталамея быў сын Ян, які меў сыноў Аляксандра*

[82] LNB. Арк. 329 - 329.
[83] LNB. Арк. 332.
[84] LNB. Арк. 334.
[85] LNB. Арк. 330.
[86] LNB. Арк. 362 - 362 адв.
[87] LNB. Арк. 360 - 361.
[88] LNB. Арк. 386 - 387.

*Радавод Захватовічаў*

*і Фелікса ..."* [89].

Міхал Захватовіч, дзед Вікенція Захватовіча - апошняга ўладальніка Бердаўкі з гэтага роду, ажаніўся з Мар'янай з Адамовічаў (дачка Міхала Адамовіча), якая нарадзілася ў 1743 г. і ў 1763 г. выйшла замуж за Міхала Захватовіча[90].

Як бачым, Захватовічы не маглі ганарыцца старажытнасцю свайго роду, бо пачыналі яго адлік толькі з канца XVIII ст., у той час, як для лідскай шляхты звычайным было весці свой радавод з XV ст.

У 1855 г. калежскі рэгістратар Вікенцій Карлавіч Захватовіч (1809 г. н.) ад маршалка лідскай шляхты атрымаў пасведчанне, *"што ён па перапісе 1834 г. запісаны ў кнігу дваранства Лідскага павета пад нумарам №141"* [91].

У копіі з калекцыі дакументаў маёнтка Бердаўка, якой я валодаю, знаходзіцца метрычная выпіска з Жырмунскага касцёла, з якой бачна, што 26 кастрычніка 1842 г. хрысцілася Вольга - дачка Вікенція і Тэклі (з Леаноўскіх) Захватовічаў[92].

Па 8-й рэвізіі (каля 1840 г.) маёнтак Бердаўка меў 163 мужчынскія і 180 жаночых прыгонных душ[93]. Па рэвізіі 1850 г. Захватовічы ў Бердаўцы мелі 190 мужчынскіх душ[94].

Вікенцій Захватовіч разам з сынам Уладзімірам прыняў удзел у паўстанні 1863 г. і ў 1864 г. разам з сям'ёй быў сасланы ў Варонежскую губерню. 17 верасня 1867 г. ад Лідскай павятовай ацэначнай камісіі ў маёнтак быў накіраваны ліст, у якім паведамлялася, што пасля 20 верасня камісія пачне працэс прымусовага продажу маёнтка. У той час гэта было стандартнае пакаранне абшарнікаў, якія падтрымалі паўстанне. У дакуменце маюцца стандартная радкі пра тое, што ён накіроўваўся таму, хто адказвае ў дадзены момант за маёнтак. Адказнаму трэба было пасля 20 верасня чакаць членаў ацэначнай камісіі, *"грунтуючыся на 6-м параграфе правілаў, зацверджаных Галоўным начальнікам края, ... падрыхтаваць дакументы, якія пацвярджаюць права валодання маёнткам, а таксама дакументы, па якіх магчыма вызначыць колькасць зямлі, якую мае маёнтак, кантракты на арэнду і аброчныя лісты"* [95].

Гэтак Захватовічы страцілі Бердаўку.

Пасля паўстання 1863 г. маёнтак прымусова прададзены **Аляксандру Дамбавецкаму**[96]. Пра гэтага чалавека можна даведацца ў розных крыніцах[97]. Мне

[89] LNB. Арк. 388 - 389.
[90] LNB. Арк. 403.
[91] LNB. Арк. 398.
[92] LNB. Арк. 340 - 340 адв.
[93] LNB. Арк. 392.
[94] LNB. Арк. 398 адв.
[95] LNB. Арк. 400 - 400 адв.
[96] Slowo № 25 (739), 31 stycznia 1925.; Slowo № 28 (742), 4 lutego 1925.
[97] Гл. напрыклад: Крупа Анатоль. Пакінуць след на зямлі. Ліда, 2007.

ж гэта тыповы "асаднік" не цікавы, і таму не буду траціць на яго час.

## XX ст. некальмі радкамі

З 1915 г. па пачатак 1919 г. у маёнтку Бердаўка знаходзіўся нямецкі гарнізон.

З 1922 г. маёнтак перайшоў у скарб Польскай дзяржавы.

Здаецца, першай спробай вяртання гістарычнай справядлівасці на Лідчыне быў разгляд 5 лютага 1925 г. акруговым судом справы вяртанне маёнтка Бердаўка Захватовічам. Першы судовы разгляд не задаволіў бакі справы, бо 21 кастрычніка 1926 г. Акруговы суд у Вільні пачаў справу аб вяртанні прымусова прададзенага ў 1863 г. маёнтка Бердаўка[98]. Пры канцы 1927 г., пасля шэрагу судоў, маёнтак Бердаўка быў часткова вернуты Станіславу Захватовічу - сыну былога ўладальніка маёнтка, удзельніка паўстання Вінцэнта Захватовіча[99]. Захватовічам аддалі лясы, а ралля засталася маёмасцю скарбу. Частка раллі патрапіла пад парцэляцыю.

У 20-я гады ў Бердаўцы на сродкі парафіян быў пабудаваны прыгожы драўляны касцёл.

Пры канцы 1925 г. лідскі староста Здановіч ў інтэрв'ю газеце "Слова" сказаў, што на пачатку 1926 г. пачынае працаваць сельскагаспадарчая школа ў Бердаўцы[100].

У 1926 г. у Бердаўцы з'явіўся кааператыў па перапрацоўцы малака[101].

У красавіку 1928 г. пачалася меліярацыя маёнтка Бердаўка і бліжніх вёсак[102]. Пры канцы 1928 г. павятовыя ўлады вырашылі залажыць дзве суполкі, якія павінны былі пачаць меліярацыю 18 000 га зямлі. Першая суполка, "Дакудаўскія багны", павінна была пачаць меліярацыю Дакудаўскіх балот[103].

У красавіку 1929 г. у паштовым аддзяленні Бердаўка з'явілася тэлефонная сувязь[104].

11 верасня 1932 г. адбыліся *"Першыя ўрачыстыя Дажынкі ў Бердаўцы з удзелам старасты Багаткоўскага. Багатая праграма ўрачыстасцяў заахвоціла да ўдзелу ў свяце шмат удзельнікаў"* [105].



***Будаўніцтва драўлянага касцёла Святой Тройцы ў Бердаўцы Лідскага павета ў 20-я гады XX стагоддзя***

## *Дадаткі*

### Інвентар маёнтка Бердаўка ў Лідскім павеце[106]

Які мне, Яну Шунку, харунжычу Лідскаму і майму роднаму старэйшаму за мяне брату, пану Гераніму Шунку, харунжычу Лідскаму належыць, знаходзіцца ў арэндзе ЯП Аляксандра Пуцяты і яго малжонкі ВП Ганны Тэдаровічоўны Грыневічавай Пуцяцінай, пісаны ў годзе ... 1643 чэрвеня 2 дня.

**Дваровыя пабудовы:**

Хата белая, у ёй два шкляныя акны. Шафа з завесамі і з клямкай. Стол, зэдль, дзве лавы, дзверы на завесах з клямкай і зашчапкай з прабоямі, сені на дзве сцяны, два акны на завесах з прабоямі. Пры гэтай хаце кухня, у ёй дзверы на завесах з клямкай, зашчапкай з прабоямі, акно на завесах з зашчапкай і прабоямі.

Бровар з лазняй, у бровары шоп (у дадзеным выпадку, пакой - *Л. Л.*) піўны і гарэлачны.

Ідучы ад бровара падворкам, па правай руцэ вялікая выязная брама з жалезнай клямкай а вышэй другая такая самая жалезная і з жалезнай засаўкай.

За брамай пры гасцінцы - пусты стаў з млынам, сажалак - 5.

[98] Slowo № 245 (1255), 20 pazdziernika 1926.
[99] Slowo № 255 (1568), 8 listopada1927.
[100] Slowo № 225 (939), 3 pazdziernika 1925.
[101] Kurjer Wilenski № 152 (901), 8 lipca 1927.
[102] Slowo № 91 (1702), 21 kwietnia 1928.
[103] Slowo № 281 (1892), 6 grudnia 1928.
[104] Slowo № 76 (1986), 3 kwietnia 1929.
[105] Slowo № 215 (3022), 2 wrzesnia 1932.
[106] LNB. Арк. 23 - 24.

Капліца, у капліцы алтар, тры лаўкі, дзверы забітыя.

У двары, за ліпамі, ад гумна вялікі свіран, дзверы ў яго на завесах з зашчапкай з прабоямі і клямкай і з вялікай застаўной засаўкай ... у гэтым свіране вялікая скрыня і вялікае дубовае карыта, на муку кош і вялікае вядро, для ссыпання мукі - 5 сусекаў. На версе схованка, там вялікае акно ў бок дома, акно падзеленае на 12 малых. Тры новыя акны ... Шышакоў старых - 3, браня адна і браня панцырная старая.

Свіран на склепе (піўніцы), у гэтым свіране ... дзверы на 4 завесах з зашчапкамі і з прабоямі. Пад гэтым свіранам склеп, дзверы на завесах жалезных, завесаў - 5, зашчапка - адна, два прабоі.

На двары пякарня з печчу, у пякарні дзве лавы, дубовая столь, дзверы на бегунках, жалезная зашчапка з прабоямі .., уваход у яе праз сені на дзве сцяны, у сенях - 2 зэдлі, 2 цэбры, 2 вядры.

Перад пякарняй хатка на гародніну, у яе дзверы на завесах з зашчапкай і 2-ма прабоямі, засаўка ў яе з ключом. У гэтай шопцы - 1 яма на гародніну, пад ліпамі лава, стол ...

У тым жа двары - 5 старых абораў, адна каля адной.

Два гумны, адно старое, другое больш новае, у новага жалезная скарба, дзверы з зашчапкай і з прабоямі. Сушня ... для сушкі жыта. За плотам 12 гародаў. ... За аборамі ... сушня.

Рознае быдла.

Кароў дойных - 5, падцёлкаў ... - 5. бычкоў - 3, цялят - 2, авечак - 8, свіней - 7, гусей - 8.

....

**Двор засявае:**

Жыта засяваецца - 15 бочак.

Пшаніца - 2 бочкі.

Яравых - 2 бочкі.

Ячменю - 2 бочкі.

Аўсу - 6 бочак.

Гарох - 1 бочка.

Грэчкі - 1 і 1/2 бочкі

Льну засяваецца толькі пятнаццаць.

Гародніна садзіцца, колькі патрэбна. Цыбулі пасаджана чатыры з паловай градкі ...

**Падданыя гэтага маёнтка ў вёсках:**

**Меляшы**

Андрэй Качан, палова валокі, валы.

Міхал Старухевіч, палова валокі, валы і кляча.

Іван Ляч, палова валокі, адзін вол.

Мацко Ляч, палова валокі, галыш.

Іван Казельчык, палова валокі, валы.

Захар Васілевіч, палова валокі, валы і конь.

Гарасім Гутурэня, палова валокі, валы.

**Сліжы**

Юрко Лаўнікович, палова валокі, адзін вол і конь.

Іван Тручыла, палова валокі, адзін конь.

Івашка Рыбар, палова валокі, вол і конь.

... Гузоўскі, палова валокі, мае каня.

**Над Гаўяй**

Лукаш Шостак.

Павіннасці гэтых падданых: узімку і ўлетку па тры дні, з чым загадаюць. Жанчыны, пачаўшы ад Зялёных свят па тры дні ў полі і гародзе .... А пасля гародаў - па два дні да святаў.

Даніна гэтых сялян, з валокі бочка жыта, бочка аўсу, грашыма - дваццаць два літоўскія грошы (?). Яек дзесяць, мёд - палова ад таго, колькі пчолы дадуць. За моргі, якія сяляне трымаюць, плацяць па 2,5 літоўскія грошы (?). Таксама за сенажаці плацяць ...

Што датычыць заставы маёй дык ... яна рэгулюецца застаўным правам....

Таксама ў заставу Яп Мікалаю Гудзячэўскаму за пэўную суму грошай з майго маёнтка ад мяне перададзены шэсць сялян...

...

*Ян Шунка, харунжыч Лідскага павета.*

### 12 сакавіка 1743. Рэестр спраў вячыстых Якуба Вільбіка, лідскага падчашага, ад Вялебнага ў Богу Ягамосці ксяндза … Масевіча … на маёнтак Бердаўку Гудзячэўскую[107]

Арыгінал выраку ад ў Богу Вялебнай Ягамосці панны Гелены Гудзячэўскай, бернардынкі, ад 26 чэрвеня 1664 г. прызнаны ў Лідскім гродскім судзе.

Застаўное права ад ЯВп Стэфана Гудзячэўскага яго жонцы, дадзенае на 16 тысяч злотых на Бердаўку ці Гудзячэўшчыну. Напісана ў 1685 г. …

Экстрат гэтага застаўнога права з трыбунальскіх кніг.

Дэкрэт .. камісарскі, які зацвярджае і апісвае гэтае права ў межах усёй Бердаўкі, а таксама Дубішак і Зелянішак. Выдадзены ў 1621 г., 2 студзеня.

Дэкрэт асэсарскі таксама пра Бердаўскія межы. 1592 г., 29 кастрычніка.

Ліст караля Ягамосці Уладзіслава на камісію…

Ліст караля Ягамосці Жыгімонта, які пацвярджае Дубішкі, Зелянішкі і Забранішкі … ад 1628 г., 14 сакавіка.

Ліст ЯВ паноў камісараў ад ЯКМ, прызначаных на камісію, выдадзены з-за забрання каралеўскімі падданымі, якія жывуць у Бялундзях, лясоў Дубіцкіх і Зелянішскіх. 1635 г., 2 траўня.

Ліст паноў каралеўскіх камісараў аб адтэрміноўцы камісіі па справе забрання каралеўскімі падданымі, якія жывуць ў Бялундзях, лясоў шляхты ў Дубішках і Зелянішках. 1636 г.

Квітанцыя ЯВп ксяндза Тэадора Гудзячэўскага, езуіта. 1686 г.

*Якуб Вільбік.*

[107] LNB. Арк. 323 - 323 адв.

***Леанід Лаўрэш***

# Прыход у Лебядзе

Верагодна, усе паселішчы з назвай Лебяда ці Лебёдка на Лідчыне атрымалі сваю назву ад ракі Лебяда. Рака Лебяда ўзгадваецца яшчэ ў XVI ст. у лісце дамовы Ваські Пушка з пані Войцахавай Нарбутовай аб зямлі ў Панямуні ад 15 лістапада 1531 г., мяжа гэтага кавалка зямлі апісана гэтак: *"Межы рекою Немном а межы дороги великою, которая дорога идет од Белицы до Мостов на стары брод через реку Лебеду"*[1]. Лідскі гісторык Міхал Шымялевіч цытуе фрагмент межавага акта паміж землямі маёнтка Лебяда Гераніма Хадкевіча і маёнткам Радзівонішкі Яна Камаеўскага, напісанага ў Лебядзе 15 сакавіка 1554 г.[2] У спісе войска ВКЛ ад 1567 г.: *"Панъ Станиславъ Микалаевичъ Нарбут воеводичъ Поляшскій, ставилъ почту з ыменей своихъ ... з Лебеды въ повете Лидском, а з Заболотья въ томъ же повеце Лидскомъ ..."* і таксама *"Пан Размусъ Довкгирдъ, судья земли Тройкое, ставил почотъ з ыменей свотхъ ... з Лебеды съ подъ Василишокъ ..."* [3] ці *"Юрага Лебедский з ымений своихъ з Лебеды, з Заболотья, з Дитвы, з Каменки в Лидскомъ повеце коней 4 збройно пнцри ... он же стаил драби 2 з ручниц, а з мечы"* [4].

Дзесьці на мяжы XVI - XVII ст. маёмасць Лебяда, пра якую пойдзе гаворка, пераходзіць рукі Яна Трызны, сына смаленскага кашталяна Рыгора Трызны, які ў 1567 г. ставіў у войска 22 коннікі і 11 драбаў, у 1586 г. ён быў прызначаны лідскім земскім суддзём. Потым ён стаў гаспадарскім маршалкам[5].

Ад Яна Трызны маёнтак успадкаваў яго сын Адам, а вёска Лебяда, якая ляжала на старым гасцінцы, стала мястэчкам. Ад Адама Трызны маёмасць пераходзіць у рукі яго сына Клімента. У 1678 г. *"велебный его милость отецъ Клеменсъ на Ольдове* (Голдаве - *Л.Л.*) *и Лебеде Тризна - законникъ закону светого в Базылего великого"* пад залог фальварка Хацяновічы з вёскамі Казламі, Ходараўцамі і Серкамі і *"асабліва са ставам на рацэ Лебядзе, з млынам і яго вывалкамі"* пазычыў 26 000 злотых у Віленскага Свята-Духава брацтва[6]. У 1683 г. Трызну прысудзілі да выплаты 32000 злотых за невяртанне маёнтка Лебяда, які знаходзіўся ў заставе ў Ганны Звертавай[7]. Як адбывалася і чым закончылася тая справа, можна даведацца з дакумента, надрукаванага яшчэ ў XIX ст.[8]

З Падымнага рэестра Лідскага павета ад 1680 г. бачна, што Лебядой (1 дым) валодаў Уладзіслаў Ланеўскі (ці Уладзіслаў Воўк-Ланеўскі), а вёска Хацяновічы (36 дымоў) з'ўлялася маёмасцю Станіслава Невяроўскага (палкоўніка літоўскіх войскаў, старасты будавецкага) і яго жонкі Марыі з Трызнаў (дачкі Адама Трызны)[9].

Міхал Шымялевіч меў у сваім архіве *"дазвол, пісаны 5 жніўня 1750 г. і прызнаны на другі дзень у Трыбунале, на вольны лоў рыбы ў рацэ Лебядзе паміж Войнам (маёнтак Вялікая Лебяда) і Вянсковічам (маёнтак Голдава)"* [10].

У Падымным тарыфе Лідскага павета ад 1775 г. Лебяда Трызнянская належыць ЯВп Горскаму (1 дым), жмудскаму кашталяну разам з фальваркам Ігнаткаўцы (1 дым), Ваенполем (1 дым), мястэчкам Лебяда (25 дымоў), вёскамі Дзмітраўцы (9 дымоў), Палуты (9 дымоў), Більтаўцы (6 дымоў), Даўгаполле (2 дымы), Леснікі (22 дымы), Забелы (2 дымы), Паваргі (2 дымы), Клімавічы (5 дымоў), Губейкі (6 дымоў), Сямашкі (13 дымоў), Ігнаткаўцы (14 дымоў). Згодна з гэтым жа тарыфам, у Лебядзе маецца грэка-каталіцкая плябанія (1 дым), на Горскага запісана ваколіца Станкевічы (2 дымы)[11].

У 1784 г. Лебёдка Трызнянская - таксама двор *"яснавяльможнага пана Леана Горскага, кашталяна жмудскага, паміж поўднем і захадам зімовым з царквой* (зразумела, уніяцкай - *Л. Л.*) *і мястэчкам, дзе рыма-католікаў мала, праз мілю"* [12]. У *"мясцовасці Лебяда яснавяльможнага пана Горскага, кашталяна жмудскага"* быў стаў, *"у які ўпадае рэчка Лебяда"* [13]. У маёмасці Горскага меўся перавоз цераз раку Лебяда на дарозе з Вільні[14]. Пасля смерці Леана Горскага (1760-1807) маёмасць пераходзіць да яго сына Леапольда.

---

[1] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 168.

[2] Там жа. С. 180.

[3] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. С.-Петербург, 1915. Т. 33. С. 503.

[4] Там жа. С. 509.

[5] Падалінскі Уладзімір. Палітычная эліта Лідскага павета ў апошняй трэці XVI ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 16, сш. 1 (30). 2009. С. 7-8.

[6] АВАК. Т. XI. С. 222.

[7] АВАК. Т. XV. С.439.

[8] АСДСЗР. Т. 10. Вильна, 1890. С. 355.

[9] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 226-227.

[10] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 168.

[11] Асабісты архіў аўтара.

[12] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Дылеўская // Лідскі Летапісец. 2013. № 4(64). С. 34.

[13] Там жа. С. 35.

[14] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Ражанкаўская // Лідскі летапісец. 2013. №3(63). С. 23.

У літаратуры XIX ст. выказваецца меркаванне, што драўляная царква св. Мікалая пабудавана ў вёсцы ў сярэдзіне XVIII ст.[15], але ў візітацыі 1792 г. напісана, што яе фундатарам былі Трызны, і можна лічыць, што царква пабудавана ў другой палове XVIII ст. З акта візітацыі даведваемся, што царква *"драўляная, старая, на каменным падмурку. Нядаўна адрамантаваная - пакрытая новай гонтай і ашаляваная звонку. Мае пафарбаваны добры купал над бабінцам з жалезным крыжам. У купале звон вагой 6 фунтаў. Над вялікім алтаром маецца другі такі ж драўляны пафарбаваны купал з жалезным крыжам, купал адрамантаваны стараннямі калятараў. Могілкі часткова агароджаныя, памерам 25 локцяў"* [16].

Трэба заўважыць, што нашыя драўляныя цэрквы ў той час не надта адрозніваліся па сваім знешнім выглядзе ад нашых жа касцёлаў, якія таксама маглі знаходзіцца не ў самым лепшым стане. Напрыклад, з інвентара 1731 г. касцёла ў Начы, які надрукаваў Вандалін Шукевіч, даведваемся, што "*могілкі без паркана. Сам касцёл небам крыты. Дах сакрыстыі працякае, падлога ў сакрыстыі падгніла, а касцёл не мае падлогі ...*" [17]. Такім чынам, у адрозненні ад Нацкага касцёла, царква ў Лебядзе своечасова рамантавалася і, як убачым далей, пражыла яшчэ шмат гадоў.

Цікава, што на сцяне ў лебёдскай царкве вісеў *"партрэт ЯВп Войны, каноніка і фундатара гэтай царквы"* [18]. Гэта адзінае згадванне свецкага мастацтва ў грэка-каталіцкіх цэрквах Лідчыны, якое я да гэтага часу знайшоў. Войны - старажытны беларускі род, які паходзіў ад Пінска-Тураўскіх князёў[19]. Верагодна, фундатарам, які падараваў царкве нейкія рэчы быў Антоній Юзаф Война (? - 1747), які з 1724 г. займаў пасаду віленскага каноніка, у 1730-40-х гг. быў вялікім пісарам ВКЛ і з 1740 г. духоўным сакратаром ВКЛ.

У 1792 г. царква мела капліцу на могілках у вёсцы Паваргі (зараз такой вёскі няма), капліца была асвечана гарадзенскім сурагатарам Антонам Бялькевічам 22 лістапада 1765 г.[20]

Па класіфікацыі Дзяніса Лісейчыкава Лебёдскую плябанію можна аднесці да бедных.

Трошкі пра вядомых нам грэка-каталіцкіх святароў Лебёдскай царквы.

Пра святара Забелу вядома толькі тое, што ён памёр яшчэ да 1779 г.[21]

А. Андрэй Кастыцэвіч быў прэзентаваны 13.02.1776 г. жамойцкім кашталянам Міхалам Горскім а 25.10.1777 г. высвечаны мітрапалітам Ф.-П. Валадковічам, 08.11.1779 г. інсталяваны віленскім афіцыялам Ф.-А Мадзалеўскім[22].

*"Лебедски парох Андрей Костыцевич"*, пра якога Архіў уніяцкіх мітрапалітаў згадвае пад 1783 г., стаў вядомы нам у сувязі з абвінавачваннем у *"неблагоповедении"* [23]. Такога роду абвінавачванні (часам узаемныя), як правіла, былі звычайнай помстай нядобразычлівцаў, пакрыўджаных людзей ці непрыязных калег. Але "дзякуючы" гэтакім абвінавачванням у аналы гісторыі трапілі і сёння нам вядомыя імёны некаторых шараговых святароў - сумленны святар меў не шмат шанцаў у іх трапіць. Аднак абвінавачанні супраць лебёдскага святара былі сапраўднымі. У 1797 г. інстыгатар[24] Лідскага дэканата Ян Мыслевіч абвінаваціў у амаральных паводзінах і невыкананні сваіх абавязкаў параха царквы ў Лебедзе Андрэя Кастыцэвіча. Большасць абвінавачванняў была даказана, і святара адхілілі ад службы ў царкве і адправілі на шэсць тыдняў у Лаўрышаўскі манастыр. Было вырашана, што калі рэкалекцыі і цвічэнні ў манастыры не перавыхаваюць святара, дык ён будзе адхілены ад сваіх абавязкаў назаўжды[25].

Святар Кастыцэвіч не вярнуўся ў Лебяду і, пэўна, наогул да выканання святарскіх абавязкаў. Бо вядома, што ў 1795 г. адміністратарам царквы ў мястэчку Лебяда служыць а. Ануфры Ненадкевіч, *"звычаяў ухвальных, у маральнай тэалогіі моцны, ... дбайны гаспадар"* [26].

З тэорыі кіравання вядома, што якасць сістэмы вызначаюць не памылкі ці злоўжыванні аднаго з яе супрацоўнікаў, а рэакцыя сістэмы на яго дзеянні. Як бачым, грэка-каталіцкая царква не "загортвала смецце пад канапу", а эфектыўна падтрымлівала чысціню сваіх шэрагаў.

У 1817 г. Лебёдскім адміністратарам служыць а. Ян Радкевіч, былы вікарый у Зблянах[27]. У 1832 г. святаром царквы ў мястэчку Лебяда Лідскага павета служыў а. Антон Радкевіч[28]. Пасля яго, з 25.02.1837 г. з вёскі Прылукі Берасцейскага павета на пасаду адмі-

[15] Гл: Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[16] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 23.

[17] Szukiewicz Wandalin. Poswiecenie koscila w Naczy // Kurjer Litewski № 5, 5 (18) wresnia 1909.

[18] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 23 адв.

[19] Вольф Юзаф. Князі на абшарах Вялікага Княства Літоўскага ад канца XIV ст. // Спадчына. 1992. №4. С. 107.

[20] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 24.

[21] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 249.

[22] Там жа. С. 296.

[23] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 434.

[24] Інстыгатар - духоўны суддзя які адказваў за маральнае аблічча парахаў.

[25] АСДСЗР. Вильна, 1902. Т. 13. С. 136-139.

[26] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 396.

[27] Там жа. С. 445

[28] Там жа.

ністратара царквы ў Лебядзе пераведзены а. Антон Раманскі[29]. Верагодна, перад скасаваннем уніі Радкевіча змяніў *"благонадежный"* святар. Тады ж вікарыем царквы прызначаецца а. Лявон Сцепурынскі[30].

Усё лета 1812 г. у Лебядзе, у маёнтку абшарніка Горскага жыў адлучаны ад камандавання сваім VIII-м корпусам арміі Напалеона вестфальскі генерал Вандам. Распавядалі, што Вандам, маючы пры сабе некалькі ад'ютантаў і паўтара дзясятка салдат, займаўся сельскай гаспадаркай і, як клапатлівы гаспадар, вырашаў сялянскія справы[31].

Вернемся да калятараў Лебёдскай царквы.

Вядома, што тры моцныя шляхетныя роды: Войны, Горскія і Агінскія ў розны часы валодалі дваром Салантай у Жамойцкім княстве (потым Цельшаўскі павет Расійскай імперыі) і менавіта там парадніліся паміж сабой. А маёнтак Лебяда, якім яны валодалі ў розныя часы, не быў для іх галоўнай маёмасцю.

У 1820-м г. маёнткам валодаў цельшаўскі маршалак Леапольд Горскі (1787-1825), які ў Лідскім павеце меў яшчэ і Ольжава (нейкую частку гэтай гістарычнай лідскай маёмасці). Леапольд Горскі - вядомы калекцыянер. У сваім галоўным маёнтку Салантай ён стварыў нумізматычны кабінет, любіў кнігі і ўмеў атрымліваць ад іх асалоду і таму назапасіў вялікую бібліятэку рэдкіх кніг, у тым ліку і гістарычных твораў XVI-XVII ст. Займаўся пісьменствам і навукай[32].

З архіваў даведваемся, што з другой паловы 1840-х гг. Радзівонішская царква была прыпісной (філіяльнай) да Лебёдскай. Уладальнікі маёнтка ў Радзівонішках прызначылі працаваць на царкоўнай зямлі сваіх сялян па 3 цяглавыя і 2 напаўцяглавыя дні ў тыдзень. У Радзівонішках, было некалькі маёнткаў, маёнтак якім валодалі Нарбуты, праз эксдывізію (падзел і продаж па частках) быў падзелены на часткі, але новыя ўладальнікі, згодна з выракам эксдывізійнага суду, павінны выконваць гэтыя ж абавязкі перад царквой.

Прыхаджане Лебёдскай і Радзівонішскай царквы ў тыя часы належалі наступным гаспадарам: маёнтак Лебяда, абшарнік Рэне - 704 прыхаджаніны; Більтаўцы графіні Кейзерлінг - 65 прыхаджан; маёнтак Радзівонішкі з участкамі: Жураўскіх - Манькоўцы і Цвербуты - 184 прыхаджаніны, Цвербуты Паплаўскай - 81 прыхаджанін, Цвербуты Мікалая Нарбута - 28 прыхаджан, Манькаўцы Крукоўскіх - 17 прыхаджан, Далецкай - 5 прыхаджан, Сумарокаў - 9 прыхаджан. Разам, мужчыны і жанчын - 1090 душ[33].

Пасля падзелу маёмасці, маёнтак Лебяда перайшоў да сястры Леапольда Горскага Алімпіі Рэне з Горскіх (1790-?). Разам з мужам, баронам Антонам Рэне (?1800-1869), сужэнцы мелі дачку Алімпію Агінскую з Рэне (1829-1861). Антон Рэне з 1864 па 1868 гг. выконваў абавязкі маршалка Цельшаўскага павета[34].

Бароны Рэне з'явіліся ў Літве ў канцы XVI ст. і пасяліліся на поўначы Жамойці. Самым вядомым з іх роду быў дзед Антона Рэне Фелікс (1750-?). Ён займаў пасаду камергера караля Станіслава Панятоўскага і ў жніўні 1799 г. быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава. Фелікс Рэне з'яўляўся высокаадукаваным чалавекам і філантропам. Разам з сынам, таксама Феліксам Рэне (1797-?) ён цікавіўся егіпецкімі старажытнасцямі і ў 1825-1830 гг. падараваў бібліятэцы Крамянецкага ліцэя на Валыні папірусы і пеляну ад муміі. Потым гэтыя фрагменты разам з іншымі ўсходнімі манускрыптамі былі перададзены ў бібліятэку Кіеўскага ўніверсітэта св. Уладзіміра[35].

У 1851 г. лідскі дабрачынны Самсон Брэн склаў акт пра стан Лебёдскай царквы, з якога даведваемся, што старую грэка-каталіцкую царкву *"з-за яе старажытнасці ... трэба ... падняць, зрабіць каменны падмурак і дадаць новы вянок зруба. ... прарэзаць два новыя акны ... і адрамантаваць усе старыя вокны. Адрамантаваць вонкавую шалёўку царквы. Адрамантаваць столь і падлогу. Пафарбаваць царкву знутры. Пабудаваць новую званіцу і пераплавіць разбітыя званы"* [36].

Аднак барон Рэне, у маёнтку якога знаходзілася Лебёдская царква, скардзіўся *"... на цяжкасць выканання гэтага акту, ... і таму ў Літоўскай кансісторыя вырашылі набыццё некаторых рэчаў даручыць прычту, а некаторыя рэчы выключыць са спісу, бо без іх можна абысціся. Быў састаўлены новы, скарочаны план рамонту"* [37].

Аднак і пасля гэтага Рэне *"ўсяроўна ўхіляўся ад рамонту царквы"* [38]. Аднак, царква была ўсё ж адрамантавана, бо 8 ліпеня 1852 г. інжынер-паручнік Сухадольскі абследаваў яе і падпісаў акт аб заканчэнні рамонту[39].

---

[29] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 452.

[30] Там жа. С. 498.

[31] Гл: Лаўрэш Леанід. Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне. Гродна, 2016. С. 21-22.

[32] Jucevicius Liudvikas. Mokyti zemaiciai. Vilnius, 1975. P. 70-71.

[33] ДГАЛ. Ф. 950. Воп.1. Спр. 21. Об обеспечении духовенства Лебёдской православной церкви в Лидском уезде содержанием. 1845 - 1858. Арк. 4 - 5.

[34] Байрашаускайте Тамара. Институт предводителей дворянства в западных губерниях Российской империи во второй половине XIX в. - начале XX в. (Виленская и Ковенская губернии) // Беларускі гістарычны зборнік. 2014. № 41. С. 91.

[35] Тарасенко Н. А. Фрагменты древнеегипетской Книги мертвых в собрании Института рукописи НБУВ (Ф. VIII, № 565/15): предварительная публикация / Сходознавство. 2018. № 81. С. 103.

[36] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 1688. Дело о починке Лебёдской церкви. 1850 - 1852. Арк. 20.

[37] Там жа. Арк. 22.

[38] Там жа. Арк. 29.

[39] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 1688. Дело о починке Лебёдской церкви. 1850 - 1852. Арк. 34.



***Былая грэка-каталіцкая царква св. Мікалая ў Лебядзе***

З кліравых ведамасцяў 1856 г. даведваемся, што *"царква пабудавана невядома калі кцітарам-абшарнікам Трызнам. Будынак драўляны, з новай званіцай"*[40]. Царква мела 1 дзесяціну сядзібнай зямлі, 40 дзесяцін ворнай зямлі, 8 і 1/2 дзесяціны сенакосу, пад лесам і хмызняком было 10 дзесяцін. Зямлёй карысталіся святар і дзяк. На ўтрыманне прычту па штаце ад 4 красавіка 1842 г. выплачвалася жалаванне ў 160 рублёў срэбрам - святару 120 рублёў і дыякану 40 рублёў срэбрам.

У 1856 г. Лебёдская царква ўжо не мела прыпісной Радзівонішскай царквы: *"Прыпісных цэркваў няма, а ёсць толькі дзве капліцы, адна на Лебёдскіх могілках, а другая на Паваргаўскіх, абедзве драўляныя"* [41].

У царкве ў той час служылі святар Віктар Кіпрыянавіч Плаўскі (потым ён працаваў у Дзікушках) і *"дзячок Андрэй Іванавіч Разумовіч, сын дыякана ... вучыўся ў Барунскім манастыры"* [42]. Дзячок Разумовіч Андрэй Іванавіч нарадзіўся ў 1815 г., з 1853 г. па 1857 г. служыў дзячком у Лебёдскай царкве, з 1857 па 1887 гг. дзячком (псаломшчыкам) - у Маламажэйкаўскай царкве, з 1887 г. пераведзены за штат.

У "Запісках" мітрапаліта Іосіфа Сямашкі, надрукавана скарга вікарнага епіскапа Філарэта, на тое, што святары *"цэркваў Жыжмянскай - Мар'янавіч, Беліцкай - Макарэвіч і Лебёдскай - Плаўскі, часам прамаўляюць павучанні на польскай мове"* [43].

У 1860 г. маёнтак запісаны за баронамі Рэне. Ён меў 475 прыгонных, 116 дымоў і 1906 дзесяцін зямлі[44]. Каля 1860 г. маёнтак Вялікая Лебяда належаў дачцэ Антона Рэне Алімпіі, якая выйшла замуж за ўнука кампазітара Міхала Агінскага Фелікса (1828-1893), маці якога таксама была з роду Рэне, і таму ён прыходзіўся сваёй жонцы стрыечным братам. Пасля смерці жонкі, з 1861 г. уладальнікам Вялікай Лебяды стаў Фелікс Агінскі[45].

З кліравых ведамасцяў 1866 г. даведваемся, што *"драўляны будынак царквы на чатырох слупах агароджаны палісаднікам, які патрабуе рамонту. Гонтавы новы дах зроблены ў 1864 г. ... Купалы абабіты белай бляхай, і на іх пастаўлены крыжы*

[40] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 6. Спр. 89. Клировые ведомости Лидского уезда за 1856 г. Арк. 41.
[41] Там жа.
[42] Там жа. Арк. 41 адв.
[43] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург. Т. 3. Санктпетербург, 1883. С. 1106.
[44] Приложения к трудам редакционных комиссий, для составления положений о крестьянах, выходящих из крепостной зависимости. Сведения о помещичих имениях. Т. VI. Санктпетербург, 1860. С.14-19.
[45] Кляшчонак Таццяна. Нашчадкі // Маладосць. 2015. № 1. С. 120.

*абабітыя медная бляхай"* [46]. Уся царкоўная зямля ўжо была нарэзана адным кавалкам каля царквы. Як і раней, меліся дзве капліцы[47].

Пра рамонт царквы паведамляла і прэса: *"Святар Лебёдскай царквы Віктар Плаўскі данёс Лідскаму дабрачыннаму, што прыхаджане Лебёдской царквы, на сабраныя імі 130 р. і 90 з 1/2 к., пакрылі царкву новым гонтавым дахам, абабілі купалы бляхай і паставілі на іх новыя крыжы, абабітыя жоўтай меддзю; купілі два абразы - храмавы Свяціцеля Мікалая і Тайнай вячэры. Акрамя таго, прыхаджане гэтай царквы, на валасным сходзе, вырашылі ў знак падзякі Цару-вызваліцелю і ў памяць аб вызваленні ад прыгоннай залежнасц, выпісаць у сваю царкву, абраз св. Аляксандра Неўскага ў пазалочаным ківоце. Для далейшых рамонтаў і ўпрыгожванняў царквы ўсе гаспадары ахвотна пагадзіліся ахвяраваць кожны па 3 р. срэбрам"* [48].

Царква мела тры званы. Першы звон важыў 3 пуды, на ім меўся надпіс: *"Gloria in excelsis Deo et terra pax anno 1695."*, *"другі 30 фунтаў куплены парафіянамі царквы ў 1852 г., трэці ... 20 фунтаў, з лацінскімі літарамі"* [49]. Як бачым, з трох - два званы былі старыя, грэка-каталіцкія.

У 1870 г. маёнтак Лебяда належаў князю Феліксу Агінскаму[50] і менавіта ў Лебядзе Фелікс Агінскі захоўваў свой сямейны архіў. Даследчыца Таццяна Кляшчонак піша, што гэты архіў ўзгадваў вядомы польскі гісторык пачатку XX ст. Казімір Барташэвіч у сувязі з апублікаваннем у 1914 г. мемуараў Тадэвуша Агінскага, старасты Ашмянскага і ваяводы Трокскага (дзеда Міхала Клеафаса). Барташэвіч паведамляў, што гэтыя мемуары, *"да 1852 года захоўваліся ў асабістым архіве Фелікса Агінскага, унука Міхала Клеафаса"*, а пасля былі аддадзены ім гісторыку Севярыну Галэмбёўскаму для апрацоўкі і далейшай публікацыі. Пасля нечаканай смерці апошняга арыгінал мемуараў знік, аб чым Фелікс Агінскі 4 сакавіка 1861 г. паведамляў у спецыяльнай аб'яве праз "Gazeta Polska" (№ 74), пераканаўча просячы вярнуць "сямейную памятку". Цікава, што зваротны адрас аб'явы быў: *маёнтак Лебяда пад Лідай*.

Пры Феліксе Агінскім, у 1880 гг. каля Лебяды з'явіўся фальварак Феліксава. У 1873 г. ўдавец Фелікс Агінскі ажаніўся з Мар'янай Дэагратай Бальбінай Нажымскай (1844-1914), адзінай дачкой польскага землеўладальніка Стэфана Нажымскага, уладальніцай велізарнага палаца ў Ябланове Паморскім каля Торуні. У 1883 г. Фелікс Агінскі атрымаў пасаду цырымо-ніймайстра імператарскага двара[51]. Да канца XIX ст. мястэчка Лебяда знікае, але недалёка з'яўля-ецца населены пункт з назвай Феліксова - айконімам, які паходзіць ад імя Фелікса Агінскага.

Былая ўніяцкая царква неаднаразова рамантавалася, але да канца XIX ст. зусім струхлела: дах, кроквы, бэлькі, настолькі прагнілі і разышліся, і таму храму кожную хвіліну пагражала разбурэнне. Закладка новага храма адбылася ў сярэдзіне 1898 г. каля старой царквы. На пабудову было выдзелена 14 660 рублёў. Асвячэнне новага храма адбылося 12 лістапада 1900 г.[52] Гэтая царква стаіць і сёння, яна бачна з шашы Менск - Гародня.

3 кастрычніка 1914 г. святар Лебёдскай царквы Альбертаў быў пераведзены ў Менскую епархію, і яго святарскае месца стала вакантным. З аб'явы даведваемся, што святар меў 400 рублёў у год і 60 дзесяцін зямлі, царкву наведвала 1597 прыхаджан[53].

У другой палове XIX ст. рускі генерал Дзмітры



***Будаўніцтва сучаснай царквы ў Лебядзе***

[46] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 6. Спр. 96. Клировые ведомости церквей Лидского уезда за 1866 г. Арк. 41.

[47] Там жа. Арк. 41 - 41 адв.

[48] ЛЕВ. 1865. № 2. С. 49.

[49] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 8. Спр. 1307. Книга главной описи Свято-Никольской церкви, состоящей в Виленскай губернии Лидского уезда, в селе Лебеда. Арк. 41 адв.

[50] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 153.

[51] Кляшчонак Таццяна. Нашчадкі. С. 120.

[52] ЛЕВ. 1900. № 48. С. 377-378.

[53] ЛЕВ. 1914. № 21. С. 154.; 155.



***Магіла Аляксандра Сімоніча (1884-1889) і Сяргея Савіча (12.01.1872 - 26.07.1872)***

Маўрас скупляе вялікую колькасць маёнткаў вакол Тарнова, дзе ён меў палац. Маёмасцю генерала становіцца і маёнтак Лебяда. Унукам Маўраса з'яўляўся знакаміты кароль Андоры Барыс Скосыраў[54]. Сын дачкі генерала Лізаветы Дзмітрыеўна (у першым шлюбе - графіня Сімоніч, у другім Скосырава) Аляксандр Сімоніч (1884-1889) пахаваны каля царквы ў вёсцы Лебяда. Каля магілы Аляксандра Сімоніча, знаходзіцца магіла Сяргея Савіча (12.01.1872 - 26.07.1872), унука тагачаснага святара Лебёдскай царквы Віктара Плаўскага. Сяргей Савіч - сын старэйшай дачкі Плаўскага Аляксандры (1851 г.н.), у замустве Савіч, яе муж Ніканор Савіч, займаў розныя пасады ў паліцыі Лідскага, Вілейскага, Віленскага, Трокскага і Ашмянскага паветаў.

У 1900 г. дачка генерала Маўраса Лізавета Дзмітрыеўна другі раз выходзіць замуж за маладзейшага за яе на 11 гадоў Міхаіла Міхайлавіча Скосырава і ўказвае сваім месцам жыхарства маёнтак Вялікая Лебяда Лідскага павета[55]. З 1906 г. маёнтак Вялікая Лебяда з'яўляецца сталым месцам пражывання ўсёй сям'і Скосыравых. Са спісаў землеўладальнікаў рускага паходжання для выбараў у Дзяржаўную думу ў 1912 г. бачна, што Скосыраў Міхаіл Міхайлавіч меў 1807 дзесяцін зямлі[56]. Аднак, пасля 1912-га года маёнтак Скосыравых Вялікая Лебяда быў прададзены. У здабытым мною ў Бібліятэцы Асалінскіх рукапісе ўспамінаў былога ўладальніка маёнтка Малое Мажэйкава Андрэя Брахоцкага чытаем: *"Найбліжэйшым суседам Малога Мажэйкава быў маёнтак Вялікая Лебяда, які перад Першай сусветнай вайной належаў да адной са спадчынніц расійскага генерала Маўраса - пані Скосыравай. З-за дрэннага гаспадарання і пасля высечкі ўсяго лесу, уладальніца збанкрутавала і мусіла Лебяду прадаць. Было гэта незадоўга да пачатку вайны 1914 г. Набываць зямлю ў той час маглі толькі праваслаўныя, і таму пакупнікам стаў аднарукі пан Юзаф Міхневіч, былы мельнік з ваколіц Слоніма, праваслаўны*[57]. *Ён ажаніўся з удавой, якая мела аднаго сына Станіслава Фядэцкага. Гэты апошні са сваёй жонкай вызнавалі левыя тэорыі. Спадар Фядэцкі працаваў у Міністэрстве Працы ў Варшаве. Пан Міхневіч быў чалавекам вёрткім і гаспадарлівым. З уладальнікамі Лебяды мы не маглі быць сябрамі. Яны мелі прарасійскія погляды і пасля Другой сусветнай вайны арыентаваліся на Расію, адмаўляючы Польшчы ў правах на Беларусь ..."* [58].

Другі сусед, сын уладальніка Ішчалны Караль Лясковіч, трошкі інакш расстаўляў акцэнты: *"Найбліжэйшым суседам Малога Мажэйкава, на другім баку ракі Лебяда (12 км ад Ішчалны) быў маёнтак Вялікая Лебяда. Перад 1914 г. у адной з дачок рускага генерала Маўраса гэты маёнтак набыў Юзаф Міхневіч. У 1865 г. генерал купіў вялікі маёнтак Тарноўшчына і праз нейкі час стварыў тут ардынацыю. ... Вялікая Лебяда мела каля 1000 гектараў зямлі, на якой гаспадарыў энергічны і працавіты Міхневіч. Лічыў сабе палякам, не меў прарасійскіх прыхільнасцяў, але ні яго самога ні яго сям'ю немагчыма было лічыць прадстаўнікамі польскай культуры, іх адносіны да яе былі нейтральныя. Па стылі жыцця яны былі больш падобныя на фермераў у чужым краі, чым на землеўладальнікаў, сцісла злучаных з польскай культурай праз гісторыю, ментальнасць і шляхетны стан. Міхневіч выводзіў сябе з сялян. Памёр у 1930 г. пакінуўшы маёнтак сваёй жонцы. Потым маёмасць перайшла да яе сына ад 1-га шлюбу - Станіслава Фядэцкага"* [59].

Станіслаў Фядэцкі, працаваў у даваеннай Вільні дзяржаўным інспектарам працы і меў сацыял-дэмакратычныя перакананні. Яго жонка Марыя Фядэцкая

[54] Гл: Лаўрэш Леанід. Кароль Андоры з-пад Ліды // Маладосць №10-2014. С. 114-125.; Лаўрэш Леанід. Яшчэ раз пра караля Андорры // Лідскі Летапісец. 2018. № 1(81). С. 37-50.

[55] Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 28.

[56] Виленские губернские ведомости. 1912. № 61.

[57] Пахаваны каля Маламажэйкаўскай царквы, калі яна была Скрыбаўскім касцёлам (Юзаф Міхневіч, †1930). На помніку каталіцкі крыж, г.з. Міхневіч стаў рыма-каталікам ці ў свой час фіктыўна запісаўся ў праваслаўныя.

[58] Brochocki Andrzej. Na przelomie dwoch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939) // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu., sygn. 15615/II. S. 282.

[59] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 83.

(народжаная Крывец) атрымала званне Праведніка народаў свету, яна - гераіня паэмы "Пані Фядэцкая" вядомага яўрэйскага паэта з Вільні Абрахама Суцкевера*. Гэтую жанчыну параўноўваюць з Янушам Корчакам і Ірэнай Сэндлер. Вось як пісала пра яе выбітная гісторык мастацтва Эльжбета Грабская-Валіс: *"Яна вырасла ў інтэлігенцкім асяроддзі (ў Гародні), вывучала медыцыну, але яе сапраўднай стыхіяй і прызначэннем (...) была маральная і матэрыяльная дапамога людзям, дыскрымінаваным у сацыяльным, эканамічным і палітычным плане. У Вільні, дзе яна галоўным чынам жыла да 1945 г., часта гэта былі людзі левых поглядаў, падчас нямецкай акупацыі горада - яўрэі, а ў Лебядзе (родная хата яе мужа непадалёк ад Ліды) - бядотнае сялянскае (беларускае) насельніцтва. (...) У памяці тых, хто ведаў яе ў розны час, яна засталася чалавекам вялікай мужнасці і маральнай чуласці і на кожным кроку заўважала несправядліва пакрыўджаных людзей. Ёй былі ўласцівыя незвычайныя, нонканфармісцкія ўчынкі (яна не з'яўлялася сябрам ніякай палітычнай партыі). Марыя Фядэцкая заўсёды кіравалася ўласнымі перакананнямі і неадкладна прыходзіла на дапамогу людзям, якія жылі ў нястачы. (...) Прымаючы ў Вільні ўдзел у рэпатрыяцыі 1945 г., яна старалася ратаваць польскую моладзь, якой пагражаў арышт і высылка ўглыб СССР. Пасля ад'езду з Вільні яна жыла ў асноўным на ўзбярэжжы Балтыйскага мора і тут у 1947 г. разам са Здзіславам Грабскім і Міхалам Панкевічам заснавала Лігу барацьбы з расізмам (Ліга неўзабаве была забаронена ўладамі па палітычных меркаваннях), якая згуртавала вакол сябе невялікае кола польскай інтэлігенцыі, а ў антысеміцкіх правакацыях (...) і праявах нацыяналізму бачыла пагрозу маральнаму адраджэнню"* [60].

Дзейнасць сеткі, арганізаванай Марыяй Фядэцкай сумесна з абацісай каталіцкага кляштара урсулінак і вузкім колам давераных свецкіх і духоўных асоб, была накіраваная, у тым ліку і для перапраўкі яўрэяў з Вільні ў Ліду - у Беларусь, якой кіраваў гаўляйтар Кубэ, і які па меркаванні польскага левага палітыка і антыфашыста Ганны Енджыхоўскай, быў, хоць і нацыст, але не антысеміт.

Енджыхоўская пісала: *"Марыя Фядэцкая мела маёнтак Лебяда каля Ліды, які атрымала ад бацькоў. Зямля маёнтка была прададзена сялянам па вэксалях. Вэксалі, якія яна атрымала ад іх, спаліла ў печы. Такім чынам, не пакрыўдзіўшы суседзяў-землеўладальнікаў, правяла сваю зямельную рэформу. Для сябе захавала невялікі кавалак, двор з садам, куды падчас летняга адпачынку прыязджала ўся сям'я. Яе муж, Станіслаў Фядэцкі працаваў інспектарам працы, ён здаўна прымаў удзел у левым руху. ... Дзесяткі яўрэяў асабіста ўратавала Мушка (Марыя) Фядэцкая, яна перавозіла іх у бяспечнае месца і здабывала фіктыўная дакументы"* [61].

У 1941 г. у віленскі дом Фядэцкіх прыходзілі ўсе, каму была патрэбна парада ці дапамога. У гэтым доме, аточаным вялікім садам, можна было спаткаць людзей з самых розных колаў. Калі немцы пачалі ствараць гета, да Фядэцкіх прыходзілі групы яўрэяў, якія прасілі арганізаваць сувязь з гета, і Марыя арганізавала яе. Яўрэі прыводзілі з гета сваіх дзяцей Фядэцкім, бо ведалі, што такім чынам дзеці ўратуюцца.

*"Праца была цяжкай і небяспечнай. Кожны разумеў, чым пагражае ратаванне яўрэяў. Патрэбна была дапамога, і Марыя ўмела размаўляць і ўгаворваць людзей дапамагаць ёй з рызыкай для свайго жыцця. Наступіў час, калі ў вялікім доме Фядэцкіх не стала месца, а перавезці яўрэяў у Лебёдку Марыя не магла, бо яе маёнтак быў пад наглядам паліцыі"*, - пісала Ганна Енджыхоўская[62].

Сын Станіслава і Марыі Фядэцкіх - Земавіт (1923 - 2009), вядомы пісьменнік, перакладчык, крытык і этнограф, у 1920-30-я гг. ён абураўся, распавядаючы аб дзесятках заяў з просьбай адчыніць беларускія школы, пададзеных беларускімі грамадскімі арганізацыямі польскім уладам: за дваццаць гадоў паміж войнамі толькі на дзве просьбы быў станоўчы адказ. А па другі бок мяжы, наш народ стаўся ахвярай савецкай палітыкі фізічнага знішчэння і русіфікацыі. Больш позняя інфармацыя аб масавых пахаваннях расстраляных у Курапатах пад Менскам не была для Земавіта Фядэцкага навіной, пра маштаб злачынстваў і наўмыснае знішчэнне беларускай інтэлігенцыі яго сям'я ведала здаўна, бо сябравала з такімі беларусамі як Браніслаў Тарашкевіч ці Янка Купала. Сам Земавіт Фядэцкі заўсёды казаў, што ён унук беларускага ўніята[63].

Мы, беларусы, павінны паважаць і памятаць людзей, якія разумелі нашы памкненні і, як маглі, дапамагалі развіццю беларускай культуры. З абшарнікаў заходняй часткі міжваеннай Лідчыны, нашымі шчырымі прыхільнікамі, былі, здаецца, толькі Фядэцкія - людзі гонару, годнасці і па-сапраўднаму высокага інтэлекту.

* * *

Цікава давесці, што каля царквы ў Лебядзе (і тэрыторыі двара Малое Мажэйкава), праходзіў тракт Гародня - Ліда а на беразе ракі Лебёдка разам з стайнямі коннай пошты стаяла карчма "Над Злебеддзю" [64].

* Абрахам Суцкевер (Awrom Suckewer, нар. 15 ліпеня 1913 г. у Смаргоні, пам. 19 студзеня 2010 г. у Тэль-Авіве) – беларускі яўрэйскі паэт, пісаў на ідыш. *Рэд.*

[60] Паморскі Адам. Наш агульны сябар. Памяці Земавіта Фядэцкага (1923-2009) // Ад Лідскіх муроў. 2011. №7. С. 202-208.

[61] Jedrychowska Anna. Zygzakiem i po prostu. Warszawa, 1965. S. 154.; 320-321.

[62] Там жа. S. 338-339.

[63] Паморскі Адам. Наш агульны сябар. Памяці Земавіта Фядэцкага (1923-2009) // Ад Лідскіх муроў. 2011. №7. С. 207-210.

[64] На карце проста - Злебедзь.




***Лябёдская царква падчас 1-й Сусветнай вайны. Нямецкія вайскоўцы на фоне царквы***

Карчма была спалена ў 1915 г. падчас ваенных дзеянняў. А каля старога гасцінца ў Вялікай Лебядзе, яшчэ і ў 1930-х гг. стаяў стары, драўляны дом. Па меркаванні знаўцаў, ён быў пабудаваны па методыцы, якой карысталіся ў XVI ст. Лічылася, што гэты дом быў варты перанясення ў Скансен[65]. З боку пад'езда дом меў пандус. Уваходныя дзверы адчыняліся ў вялікі хол, які ішоў праз увесь дом, заканчваўся на супрацьлеглым боку дзвярмі ў веранду і далей меў выхад у сад. Гэты хол адначасова быў сталовай і галоўным пакоем, упрыгожаным абразамі, рагамі звяроў, зброяй. Усё гэта мацавалася да габеленаў, якія ўпрыгожвалі сцены. З хола па трое дзвярэй з кожнаму боку вялі ў жылыя пакоі і гаспадарчыя памяшканні. Вялікую каштоўнасць мела кафляная печ, якая стаяла ў холе. На кожнай кафлі гэтай печкі меўся герб Наленч. Гэтая пабудова разам з печчу перажыла дзве сусветныя вайны[66].

Другім значным гістарычным помнікам быў тракт, які мясцовыя людзі звалі "гасцінец". У часы, калі не было чыгункі, шлях меў міждзяржаўнае значэнне - з Гародні ў Пецярбург можна было ехаць альбо праз Вільню, альбо гасцінцам праз Ліду, Маладзечна, Полацк і Пскоў. На тэрыторыі маёнткаў Малога і Вялікага Мажэйкава, Ішчалны і Шчучына, гэты тракт добра захаваўся да Другой сусветнай вайны. Гасцінец быў пабудаваны яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай і з'яўляўся помнікам дарожнай гаспадаркі. Пра яго старажытнасць сведчылі бярозы, якімі тракт быў абсаджаны - дыяметр пня ў іх быў большым за метр. Гасцінец меў шырыню каля ста метраў і быў з абодвух бакоў акапаны равамі, сляды гэтых равоў былі бачны яшчэ ў 1930-я гг. На гэтых бакавых "прысадах" раслі два рады старых бяроз уперамешку з іншымі дрэвамі, якія, верагодна, тут засеяліся самі. Паміж дрэў раслі кусты ядлоўцу, а таксама рабіны і асіны. Усе яны восенню перафарбоўваліся ў розныя колеры, і тады гасцінец быў, верагодна, самай прыгожай дарогай у Беларусі[67].

Сын уладальніка Ішчалны Караль Лясковіч пісаў, што выраўненая паверхня тракту, зарослая увесну смарагдавай муравой, цёмна-зялёная улетку, бурая восенню, узімку, прыкрытая снегам, ператваралася ў прыгожую санную дарогу.

На адлегласці каля дзесяці кіламетраў па гасцінцы былі пабудаваны вялікія заезныя корчмы са станцыямі коннай пошты. Адна з гэтых корчмаў, за

[65] Скансен (швед. Skansen) - этнаграфічны комплекс - музей пад адкрытым небам, музей-вёска, размешчаны на востраве Юргордэн (швед. Djurgarden) у Стакгольме. Заснаваны Артурам Хазеліўсам 11 кастрычніка 1891 г.

[66] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). S. 83.

[67] Brochocki Andrzej. Na przelomie dwoch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939) // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu., sygn. 15615/II. S. 282.

палову кіламетра ад дарогі, была ўласнасцю маёнтка Малое Мажэйкава. Яна была спалена казакамі ў часы адступлення рускіх войскаў у 1915 г. Наступная карчма з поштай стаяла ў Ішчалне. У міжваенныя часы тут месцілася жаночая рамесная школа, якой кіравала сп. Марыя Лясковіч.

Яшчэ пры канцы XIX ст. на гасцінцы адбываўся моцны рух - у абодвух кірунках ехалі конныя пары, чацвёркі і шасцёркі. Тракт страціў значэнне, калі была пабудавана чыгунка праз Гародню і Вільню. А пабудова чыгункі Сядлец - Полацк і далей на Балагое і новай шашы Ліда - Гародня (па яе трасе зараз ідзе сучасная дарога Менск - Гародня) канчаткова перавяла гасцінец у шэраг мясцовых дарог лакальнага значэння. Рух скараціўся, і ездня зарасла травой - толькі старыя бярозы паказвалі, дзе праходзіў стары гасцінец, які пераўтварыўся ў алею для шпацыраў.

Перад Першай сусветнай вайной генеральны штаб французскай арміі звярнуў увагу расійскага кіраўніцтва на тое, што Расія мае мала дарог у заходнім кірунку. Было вырашана пабудаваць чыгунку Балагое - Сядлец і шашу Ліда - Гародня. Па першым праекце пабудовы шашы, планавалася рэканструкцыя старога гасцінца. Гэта было б танней і хутчэй, бо не вымагала купляць зямлю, насыпаць грэблі і г. д. Але запратэставаў расійскі генеральны штаб - па яго плане гасцінец адводзіўся для руху кавалерыі, а шаша павінны была ўзяць рух пяхоты, артылерыі і абозы. Таму новую шашу пабудавалі на роўнай адлегласці за некалькі кіламетраў ад гасцінца. Гэта і ўратавала прыгожы стары тракт[68].

Караль Лясковіч паведамляў, што ў XIX ст. гэты *"гасцінец быў дарогай надзеі і жыцця"*. Па ім прыходзілі ўсе навіны свету і ўся пошта: лісты, дэпешы, прэса і кнігі. Трактам прыязджалі госці, і ён жа выводзіў у свет: на захад ці на ўсход, а з блізкай Ліды таксама на поўнач да Вільні, Рыгі і Пецярбурга ці на поўдзень, у кірунку Палесся, якое было раем для паляўнічых. Але такі ж лясны рай існаваў і ў нас, бо суседнія з Лебёдкай старыя ішчалнянскія бары ўздоўж гасцінца, злучаліся ў адзінае цэлае з лясамі Шчучына, Жалудка, Вялікага Мажэйкава і дзяржаўнымі лясамі, ствараючы агромністы лясны арганізм. Мелася тут ўсялякая жыўнасць. Для лясных жывёлін адкрыты тракт быў рызыкоўным месцам і перашкаджаў іх свабоднаму руху, але на шчасце і тут меўся вынятак бо ажно да 1913 г. у старых барах суседняй Ішчалны не рабілі вырубкі. Гэтыя лясы выглядалі змрочнымі і таямнічымі і ў іх жыла вялікая колькасць непалоханых звяроў.

Караль Лясковіч цвердзіў, што стары гасцінец быў крыніцай радасці і ўцех для мясцовых людзей. Прыгажосць тракту падвышалася па меры аддалення ад вялікіх цэнтраў, якімі былі Гародня і Ліда. Шляхетныя алеі гасцінца, калі ён бег паміж сялянскіх палёў, не выглядалі надта прыгожымі - у 1930-я гг. уздоўж гасцінца ўжо бракавала шмат дрэваў, яны стаялі з паламанымі галінамі ці наадварот, раслі занадта густа, былі пабітыя перуном, ураганамі ці людзьмі. Але нават на самых горшых адцінках, калі не зрок дык вуха цешылася мілымі, свойскімі назвамі нашых рэк: Дзітва, Лебяда, Нёман.

Гаспадары вялікіх маёнткаў, праз якія праходзіў гасцінец, рупліва ахоўвалі гэты каштоўны помнік мінуўшчыны. Алеі бяроз, якія дасягалі мятровага дыяметра, стаялі ад Лебёдкі да Шчучына. Гэтыя абцяжаранымі амялой бярозы з'яўляліся аздобай краявіду на адкрытых прасторах. Але ў ішчалнянскіх барах гасцінец быў густа абсаджаны соснамі, ёлкамі, лістоўніцамі ці дубамі. Гэтак густа, што месцамі цалкам хавалі прысады. А замест бяроз па баках гасцінца стаялі стогадовыя сосны, якія як чаплі, панахіляліся ў бакі.

Далей на захад, пасля зямлі маёнтка Ішчална, тракт выходзіў на землі шчучынскага маёнтка Друцкіх-Любецкіх і далей Спушы князя Сапегі, адтуль даходзіў да Скідаля, які раней належаў графам Урускім, а потым нейкі час князям Чацвярцінскім. І калі нарэшце тракт выходзіў з тэрыторыі латыфундый, дык перад Гароднай трапляў на тэрыторыі шляхецкіх ваколіц. Іх уладальнікі, нават ходзячы за плугам, ніколі не забывалі сваіх шляхецкіх кляйнотаў і перадавалі традыцыі з пакалення ў пакаленне.

Лічылася, што гасцінец быў пабудаваны па старой дарозе, па якой хадзілі яшчэ крыжакі і татары, а потым харугвы слаўных гетманаў Хадкевіча, Жалкеўскага, Кшыштафа Радзівіла і іншых. Ішла па ёй і Вялікая армія Напалеона, больш дакладна 3-я армія правага крыла якой камандаваў брат Напалеона, кароль Вестфальскі Геранім Банапарт. У склад 3-й арміі таксама ўваходзілі французскія і польскія войскі, якія стаялі на тэрыторыі Варшаўскага княства. 3-я армія рушыла з Гародні ў кірунку Ліды, звярнула на дарогу да Нёмана, які перайшла каля Орлі, Пескаўцаў і Беліцы. Вестфальскі кароль 5 ліпеня 1812 г. быў у Шчучыне, 8-га - у Жалудку. У той дзень польскі корпус князя Панятоўскага пераправіўся праз Нёман, а дзве дывізіі авангарда генералаў Ражнецкага і Каменскага прайшлі Наваградак і дасягнулі Карэліч. Яшчэ раз удакладню, што 3-я армія ішла "вялікай дарогай", г.зн. гасцінцам з Гародні на Шчучын, Наваградак, Барысаў і Воршу да Смаленска - у кірунку "смаленскай брамы", воднага падзелу паміж Дзвіной і Дняпром. Марш 3-й арміі назіраў малады Міцкевіч.

Гасцінец дыхаў гісторыяй ...

Трэба дадаць, што лепшы ў XX ст. знаўца лідскай гісторыі Міхал Шымялевіч даў трошкі іншыя звесткі пра гэты гасцінец. Ён пісаў, што старая дарога з Ліды на захад бегла каля Астроўлі і Цыбараў на мост цераз Дзітву, на якім здаўна бралі маставую (ці грэблевую) аплату або так званае мыта, адкуль і паселішча, размешчанае каля таго моста і якое раней мела назву Дзітва, атрымала назву Мыта. Тая дарога называлася ў Лідзе Мытлянскім гасцінцам, ён ішоў на Васілішкі, Астрыну і Азёры да Гародні. У 1796 г. па загадзе Кацярыны II тагачасны літоўскі генерал-губернатар князь Рапнін распачаў у акупаваным краі пабудову

[68] Brochocki Andrzej. Na przelomie dwoch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939). S. 282.

новых дарог. Для выканання гэтага пачынання сагналі тысячы мужыкоў, і на працягу некалькіх месяцаў былі пабудаваны новыя прамыя і шырокія тракты, між іншым, з Вільні на Ліду, а з Ліды - адзін на Мінойты і Руду да Слоніма і Наваградка, другі - якраз да Гародні. Новы Гарадзенскі тракт выходзіў з Ліды з вуліцы Каменкі і вёў на Раклёўцы, Малое Ольжава і Арлянку. Нягледзячы на тое, што з Ліды да Гародні цераз Астрыну налічвалася 100 вёрст, новы тракт скіравалі на вялікія панскія двары - Тарноўшчыну, Вялікую Лебяду, Вялікае Мажэйкава, Ішчалну, Шчучын і Каменку, і адлегласць паміж Лідай і Гародняй павялічылася да 116 вёрст. У лютым 1797 г. гэтым трактам у карэце пад канвоем правезлі з Гародні на Ліду і Вільню ў Пецярбург няшчаснага караля Станіслава Аўгуста, а праз тры месяцы ў атачэнні вялікіх княжат і пышнай світы праімчаў туды цар Павел I, пакінуўшы ў памяці мясцовай люднасці адзіны свой начлег у піяраў у Лідзе[69].

У міжваенныя часы польскія ўлады меркавалі зрабіць тракт гістарычным помнікам. Прапаноўваліся дзве назвы: тракт Напалеона ці тракт Баторыя. Большасць схілялася да назвы тракт Баторыя, бо Напалеон ніколі не ехаў гэтым трактам. Але Другая сусветная вайна перакрэсліла гэтыя планы[70].

Падчас наведвання Лідчыны прэзідэнтам Польшчы Масціцкім пры канцы 1920-х гг., яго аўтамабіль ехаў па гэтым гасцінцы. Прэзідэнт быў зачараваны відарысамі і казаў асобам, якія яго суправаджалі, што гасцінец - самая прыгожая дарога, якую ён калінебудзь бачыў у сваім жыцці. А потым, калі па справах прэзідэнт бываў на Лідчыне, ён прасіў пракладваць свой шлях так, каб яшчэ раз праехаць нашым гасцінцам.

Уладальнік маёнтка Малое Мажэйкава Брахоцкі пісаў, што падчас Другой сусветнай вайны небяспеку гасцінцу стварыў вялікі аддзел *"калмыкаў ці іншых азіятаў, якімі кіравалі нямецкія афіцэры. Аддзел гэты стаяў у Вялікім Мажэйкаве і высякаў на дровы бярозы ўздоўж старажытнага тракту"* [71].

**Акт генеральнай візітацыі Лебёдскай царквы**[72]

**Мястэчка Лебяда.**

Царква пад тытулам св. Мікалая, фундацыі ЯВп Трызнаў, а зараз у каляцыі і дзедзіцтве ЯВпп Леана і Людмілы Горскіх, жмудскіх кашталянаў, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце. Драўляная, старая, на каменным падмурку. Нядаўна адрамантаваная - пакрытая новай гонтай і ашаляваная звонку. Мае пафарбаваны добры купал над бабінцам з жалезным крыжам. У купале звон вагой 6 фунтаў. Над вялікім алтаром маецца другі такі ж драўляны, пафарбаваны купал з жалезным крыжам, купал адрамантаваны ранннямі калятараў. Могілкі часткова агароджаныя, памерам на 25 локцяў.

Перад царквой званіца на 4-х слупах, крытая гонтай, новая. У званіцы два вялікія званы, адзін важыць тры камені, другі - 20 фунтаў.

Уваход у царкву праз дзверы ў бабінцы, гэтыя дзверы на жалезных завесах з унутраным замком. Дзверы абшыты дошкамі і пафарбаваны ў зялёны і чырвоны колер. Хоры з балясінамі, столь новая, падлога новая, 5 лаваў з дошак сталярнай работы, адна лава пафарбаваная. Амбон на 4-х слупах пакрыты намётам, балясіны перад Вялікім алтаром драўляныя. Дзверы ў сакрыстыю падвойныя, на жалезных завесах з унутраным замком. У сакрыстыі адно акно з кратамі. Тут маецца вялікі прастол з шуфлядкамі і з новымі жалезнымі антабамі, у шуфлядках - царкоўнае ўбранне.

У царкве - 5 вокнаў, у бабінцы - адно, уся царква ўнутры пафарбавана белай фарбай.

Вялікі алтар каля сцяны, на фарбаваным палатне markneзнымі фарбамі намаляваны калоны і гзымсы. У алтары - рама сталярнай работы пазалочаная малярскім золатам, у раме - абраз Найсвяцейшай Панны Марыі Бялыніцкай з дзвюма срэбнымі каронамі, дзвюма срэбнымі таблічкамі, двма шнуркамі караляў, каля абраза фіранкі з блакітнай кітайкі і карамазынавага атласу.

Пафарбаваны прастол з частковай пазалочанай, замыканай дараносіцай, у якой Святыя дары ў добрай срэбнай даразахавальніцы, якая знутры вызалачана. Даразахавальніца з верхам і крыжам, ахвяравана праз два месяцы пасля генеральнай візітацыі ЯВпп калятарамі гэтай царквы. Другая даразахавальніца з волава, з накрыўкай пад капкай з кітайшчыны ў якой Святыя дары. Укрыжаванне алавянае, з пасійкай. Драўляных падсвечнікаў - тры пары, яны новыя, пафарбаваныя срэбрам. Ручнікоў - два, абрус, антымінс ЯВп мітрапаліта Кішкі, камвольная (з чэсанай воўны) падушка пад Службоўнік. Пакрывала зялёнае, гарусавае, прыступкі да прастола драўляныя.

Бакавы алтар сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом св. Мікалая на якім срэбная карона, застаўка белая з кітайкі. Прастол з драўляным укрыжаваннем з пасійкай. Ручнікоў - два, абрус, падушка пад службоўнік, партатэл (ахвярнік - *Л. Л.*) лацінскі, падсвечнікаў дзве пары, заслона прастола драўляная, пафарбаваная.

Другі бакавы алтар драўляны, сталярнай работы, з абразом св. Антонія. На прастоле драўлянае ўкрыжаванне з падстаўкай, драўляных падсвечнікаў - чатыры пары. Ручнікоў - два, абрус, пакрывала, заслона прастола драўляная, пафарбаваная.

Трэці бакавы алтар сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом св. Фадзея (Тадэвуша - *Л. Л.*) уверсе

[69] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 39.

[70] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). S. 109-117.

[71] Brochocki Andrzej. Na przelomie dwoch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939). S. 282.

[72] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага Дэканата. 1792 г. Арк. 23-24 адв.

і св. Алены на прастоле. Драўлянае ўкрыжаванне з пасійкай, драўляных падсвечнікаў - адна пара, адзін ручнік.

**Царкоўнае начынне.** Срэбныя пацір з дыскасам, пазалочаныя знутры і звонкі, ахвяраваныя ЯВпп калятарамі пасля апошняй генеральнай візітацыі. Таксама маюцца: ранейшы срэбны пазалочаны знутры і звонку пацір з дыскасам, алавяны пацір з дыскасам, алавяная мерніца з трох ампулак …, пара новых алавяных ампулак з падносам, вялікае кадзіла, тры алтарныя званкі, два абразы на сценах, партрэт ЯВп Войны, каноніка і фундатара гэтай царквы, новы чорны саван, крыж для працэсій з пасійкай, жалезны трымальнік для паходні, адна даразахавальніца для хворых, дзве зялёныя ... харугвы, дзве гарусавыя чырвоныя харугвы і адна каламейкавая з абразом.

**Літургічнае ўбранне.** Адзін з кітайкі ў блакітныя паскі, адпавядае ўсім патрабаванням. Другі з кітайкі, з усім неабходным. Трэці з кітайкі, патрабуе рамонту. Чацвёрты …, сіні, з усім неабходным. Пяты з кітайкі, чорны, жалобны, неўжываны, з усім неабходным. Зялёны лацінскі арнат з белым каўнярам, з усім неабходным. Другі лацінскі арнат з штофа на белай падкладцы ў розныя кветкі, з бантаеравымі галунамі, з усім неабходным. Тры альбы - адна з прускай тканіны, другая з англійскай тканіны, кампаралаў - чатыры, пурыфікатараў - шэсць, новы арнат з штофа ў паскі і кветкі, з усім неабходным.

**Кнігі.** Службоўнік ін-фоліо віленскага друку, стары, адрамантаваны. Другі таксама віленскага друку, новы ін-фоліо. Лацінскі службоўнік стары. Евангялічка з навукамі кс. Каржанеўскага. Евангялічка малая. Трэбнік добры нядзельнай і святочнай навукі кс. Нароўскага, метрыкі хрышчэння, шлюбаў і нараджэння, а таксама рэестр парафіі разам са спісам вернікаў.

**Зямля плябаніі.** Дзве валокі на тры змены. На ўрочышчы Каменка, пачынаючы ад строй дарогі і да мяжы з Паперняй. … Зямля з абодвух бакоў Палутаў. Трэцяя змена на ўрочышчы Выроска каля кудры (балота - *Л. Л.*) пачынаецца, ад дылеўскай дарогі, а заканчваецца зямлёй Дзмітраўцаў, мяжой сценкі, якая ідзе да віленскага гасцінца. Другі бок заканчваецца зямлёй Саўраса. Клін каля выгану на палову морга, пачынаецца ад дылеўскай дарогі … а заканчваецца каля Віленскай дарогі. ..

…

Плябанія займае адзін морг. …

…

**Пабудовы плябаніі.** Белая хата з каморай, дзверы на жалезных завесах з зашчапкай і прабоямі. Тры акны белага шкла. Печ шэрая, кафляная, з комінам, выведзеным уверх. Стол з шуфлядамі сталярнай работы, пафарбаваны. Столь з дошак. Праз сені ўваход у пякарню, дзверы ў пякарню на жалезных завесах, у пякарні - 5 вокнаў. Уся хата пакрытая саломай. Два старыя свіраны пакрыты саломай, дзверы ў іх на бегунках з зашчапкай і прабоямі. Гумно добрае, на дзвюх сохах. Адрынка з галля, старая. Два хлявы. Варыўня (будынак для гародніны - *Л. Л.*) з паветкай. Каля свірана новая стаенка … за якую парах заплаціў 50 зл. … Усе пабудовы парахам адрамантаваны з дапамогай двара, стараннем параха плябанія агароджана плотам з галля.

**Шпіталь** - старая белая хата з каморай, насупраць пякарні. Дзверы на бегунках, печ кафляная, шэрая. Два вялікія акны. Пакрытая саломай. У шпіталі жывуць дзед і баба. Ніякага фундушу не маюць і жывуць, дзякуючы міласці Божай. Увага! Сучаснаму параху святару Кастыцэвічу належыць восем коп снапоў і яшчэ трыццаць снапоў жыта пасля смерці святара Забелы, гэта жыта бестэрмінова павінна заставацца за плябаніяй.

**Капліца.** Добра пабудаваная самімі парафіянамі Лебёдскай царквы на Паваргаўскіх могілках. Ніякага фундушу не мае, перашкодаў парафіяльнай царкве не чыніць. Асвечаная гарадзенскім сурагатарам Антонам Бялькевічам 22 лістапада 1765 г. Святар прыязджае на свята св. Параскевы (Праксeды - *Л.Л.*) і трэці дзень Сёмухі (Зялёных святаў - *Л.Л.*) За клопаты бярэ па 2 зл.

Сапсаваны звон Лябёдскай царквы адліты занава за кошт парафіі і знаходзіцца ў капліцы. Загадваем, каб заўсёды знаходзіўся ў царкве, і толькі на фэсты можна ўжываць яго ў капліцы.

**Дакументы.** Фундушу царквы няма. Ёсць генеральныя і дэканскія візітацыі: афіцыяла Бянецкага

**Спіс вернікаў разам з рэестрам Лебёдскай парафіі абодвух палоў, якія здольны і не здольны да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | здольныя | не здольны | здольны | не здольны |
| Мястэчка Лебяда | 33 | 103 | 88 | 47 | 48 |
| Вёска Дзмітраўцы | 12 | 44 | 32 | 52 | 24 |
| Вёска Палуты | 11 | 36 | 43 | 54 | 33 |
| Вёска Більтаўцы | 9 | 32 | 23 | 41 | 14 |
| Вёска Даўгаполле | 3 | 6 | 5 | 8 | 3 |
| Вёска Леснікі | 89 | 95 | 123 | 117 | 44 |
| Вёска Забелы | 3 | 7 | 7 | 13 | 1 |
| Вёска Паваргі | 5 | 16 | 15 | 23 | 8 |
| Вёска Клімавічы | 16 | 19 | 18 | 28 | 9 |
| Вёска Губейкі | 6 | 25 | 25 | 33 | 38 |
| Вёска Сямашкі | 7 | 15 | 24 | 29 | 10 |
| Вёска Станкевічы | 1 | 1 | | 1 | |
| Вёска Ігнаткаўцы | 21 | 72 | 62 | 88 | 74 |
| Разам: дымоў - 366, людзей - 1501 | | | | | |

1746 г. ; святара Бафталовіча, 1748 г.; афіцыяла Рудніцкага 1749 г.; наваградскага афіцыяла Аляксандра Высеўскага. 1758 г.; лідскага дэкана Пятровіча. 1767 г.

У гэтай царкве парахам з'яўляецца святар Касцыцэвіч. Прэзентаваны жамойскім кашталянам Міхалам Горскім 13 студзеня 1776 г., высвечаны мітрапалітам Валадковічам 25 кастрычніка 1777 г., інсталяваны віленскім афіцыялам Мазалеўскім 8 лістапада 1779 г. на паданні лідскага дэкана Вашчыловіча …

…

Паслугі падчас набажэнства павінны аказваць два мужчыны, жанчыны, нават старыя, ад гэта павінны быць звольнены.

…

**Парафіяне Лебёдскай грэка-каталіцкай царквы, 1829 г.**

**З цікавага ў гэтай парафіі:**

Васіль Пеляса з Лебяды ва ўзросце 33 гады ўжо меў дачку Мар'яну (21 год), зяця Фёдара Салыгу (26 гадоў) і жонку Пелагею (41 г.) З гэтага вынікае, што ён стаў бацькам маючы 12 гадоў, а яго жонцы ў той час было 20 гадоў. Сёння Пелагею судзілі б …

Сваімі старажыламі вылучалася вёска Ігнаткаўцы Лебёдскай парафіі. У 1829 г. тут жылі: Ян Гомза (91 г.); Павел Даняловіч (91 г.) з жонкай Мар'янай (90 г.); Фрызына Радзюк (91 г.); Хвядора Тарасюк (95 г.); Наталля Тарасюк (99 г.).

Цікава, што адно і тое ж імя святар піша як: *Фёдар* і *Фядора*, *Хвёдар* і *Хвядора*, *Тэадор* і *Тэадора.*

**Мястэчка дзедзічнае Лебяда ЯВп Горскага**

1. Барталамей Ушка, 51 г.; Сымон, яго брат, 41 г.; Аляксандр, сын Барталамея, 12 г.; другі сын Фёдар, 12 г.; трэці Фёдар, 9 г.; чацвёрты Ян, 7 г.; Ян сын Сымона, 4 г.; Марцін, сын Сымона, 2 г.; Алена, жонка Барталамея, 51 г.; Людвіка, іх дачка, 26 г.; Зоф'я, жонка Сымона, 25 г.; Анастасія, дачка Барталамея, 3 г.;

2. Лаўрын Ушка, 51 г.; яго сын Фёдар, 31 г.; Юзаф, іх сваяк, 21 г.; Стэфан, сын Юзафа, 2 г.; Кацярына, жонка Фёдара, 31 г.; Разалія, іх дачка, 8 г.; Разалія, жонка Юзафа, 26 г.; Маргарыта, дачка Фёдара, 2 г.

3. Ісак Ашмяна, 51 г.; Ян, яго сын, 20 г; Канстанцін, другі сын, 7 г.; Парася, жонка Ісака, Юзэфа, дачка, 14 г.; Тэадора, дачка, 10 г.

4. Павел Ханцэвіч, 61 г.; Дамінік, яго сын, 38 г.; Клеменс, сын Дамініка, 12 г.; Антон, другі сын, 9 г.; Тэкля, жонка Паўла, 56 г.; Анастасія, жонка Дамініка, 34 г.; Рама, дачка Дамініка, 14 г.; другая, Марцэля, 7 г.; трэцяя Тэкля, 3 г.

5. Ісак Пеляса, 19 г.; Антон, яго брат, 9 г.; Крысціна, яго маці, 34 г.; Барбара, яго сястра, 17 г.;

6. Андрэй Мялеўскі, 49 г.; Аляксандр, сын Андрэя, 17 г.; Ігнат, сын Андрэя, 9 г.; Барталамей, сваяк, 24 г.; Тамаш, сын Андрэя, 4 г.; Мацей, сын Барталамея, 3 г.; Ганна, жонка Андрэя, 34 г.; Яганна, іх сваячка, 61 г.; Марцэля, дачка Андрэя, 2 г.

7. Міхал Паварга, 21 г.; Ганна, маці Міхала, 51 г.; Парася, яго сястра, 18 г.; другая сястра Настасся, 12 г.

8. Максім Ханцэвіч, 61 г.; Барталамей, яго сын, 17 г.; Павел, яго сваяк, 34 г.; Юстын, сын Паўла, 1 г.; Ганна, жонка Максіма, 38 г.; Петранеля, жонка Паўла, 29 г.; Мар'яна, дачка Паўла, 4 г.

9. Сымон Жамойцін, 56 г.; Раман, сын Сымона, 20 г.; другі Фёдар, 10 г.; Мар'яна, яго жонка, 41 г.; Магдалена, яго дачка, 15 г.; Петранеля, пляменніца, 24 г.; Магдалена, жонка Рамана, 20 г.

10. Юры Пеляса, 52 г.; Філіп, яго сын, 18 г.; Антон, яго сын, 7 г.; Марцэля, жонка Юрыя, 44 г.; Малгажата, жонка Філіпа, 26 г.

11. Тамаш Леванцэвіч, 61 г.; Данель, сын Тамаша, 12 г.; Сымон, сын Тамаша, 9 г.; Барталамей, сын Яна, 14 г.; Раман, сын Яна, 9 г.; Дамеля, жонка Тамаша, 37 г.; Мар'яна, дачка Яна, 8 г.

12. Карпен Тарасюк, 31 г.; Фёдар, сын Карпена, 9 г.; Ян Лісаевіч, 27 г.; Мар'яна, яго жонка, 26 г.; Мар'яна, швагерка, 31 г.; Агата, жонка Яна, 31 г.; Уляна, дачка Яна, 1 г.

13. Якуб Жамойцін, 66 г.; Габрыэль, сын Якуба, 36 г.; Пётр, сын Якуба, 22 г.; Ян, сын Пятра, 2 г.; Мар'яна, дачка Якуба, 29 г.; Ганна, дачка Бенядыкта, 8 г.; Агата, жонка Пятра, 24 г.; Дамініка, дачка Бенядыкта, 2 г.

14. Рыгор Салыга, 41г.; Якуб, брат Рыгора, 34 г.; Якуб, сын Рыгора, 14 г.; Магдалена, яго жонка, 41 г.; Ганна, дачка Рыгора, 9 г.; Крысціна, другая дачка, 7 г.; Ганна, жонка Якуба, 31 г.; Дамініка, дачка Якуба, 1 г.

15. Габрыэль Пеляса, 41 г.; Якуб, яго сын, 14 г.; Ганна, жонка Габрыэля, 39 г.; Юстына, іхняя дачка, 7 г.; Мар'яна, другая дачка, 2 г.

16. Якуб Лісаевіч, 39 г.; Фёдар, брат Якуба, 33 г.; Мікалай, сын Якуба, 19 г.; другі Антон, 8 г.; Ян сын Фёдара, 7 г.; Ян сын Якуба, 3 г.; Вікторыя, жонка Якуба, 34 г.; Мар'яна, жонка Фёдара, 34 г.; Тэафіля, іхняя дачка, 12 г.

17. Ушка, 43 г.; Васіль, сын Яна, 20 г.; Антон, брат Яна, 32 г.; Сымон, сын Васіля, 2 г.; Фрызына, жонка Яна, 43 г.; Барбара, дачка Яна, 16 г.; Леана, жонка Васіля, 28 г.; Зоф'я, дачка Васіля, 3 г.

18. Хвёдар Венска, 53 г.; Марцін, сын Хвёдара, 20 г.; другі Дамінік, 15 г.; Ян, сын Марціна, 2 г.; Парася, яго жонка, 47 г.; Кацярына, іхняя дачка, 8 г.; Ганна, іхняя сваячка, 51 г.; Канстанцыя, жонка Марціна, 24 г.

19. Антон Кібілда, 43 г.; Фёдар, сын Антона, 26 г.; другі Барталамей, 15 г.; Мар'яна, яго жонка, 34 г.; Юстына, дачка Антона, 19 г.; Мар'яна, жонка Фёдара, 25 г.

20. Адам Ушка, 34 г.; Павел, сын Хвёдара, 25 г.; Адам, пляменнік Адама, 19 г.; Фёдар, сын Адама, 7 г.; Ганна, жонка Адама, 31 г.; Альжбета, іхняя дачка, 10 г.; Кацярына, жонка Хвёдара, 54 г.

21. Аляксандр Кібілда, 56 г.; Ігнат, сын Аляксандра, 10 г.; Якуб, пляменнік Аляксандра, 33 г.; Тамаш, сын Аляксандра, 3 г.; Фрызына, жонка Аляксандра, 33 г.

22. Васіль Пеляса, 33 г.; Фёдар, сын Васіля, 8 г.; Фёдар Салыга, яго зяць, 26 г.; Ян, сын Васіля, 3 г.; Ян, сын Васіля, 3 г.; Антон, сын Фёдара, 3 г.; Пелагея, жонка Васіля, 41 г.; Мар'яна, дачка Васіля, 21 г.; Разалія, другая дачка, 15 г.

**Кутнікі (тыя, хто здымае кут у чужой хаце):**

Андрэй Паварга, 19 г.; Аляксандр, брат Андрэя, 14 г.; Змітрук Багдановіч, 41 г.; Данель, сын Змітрука, 14 г.; Андрэй Ясюнскі, 56 г.

**Кутніцы:** Гліка, маці Андрэя, 51 г.; Уляна, сястра Андрэя, 21 г.; Ганна, жонка Змітрука, 40 г.; Ганна, дачка Змітрука, 20 г.; Даняцэля, жонка Яна, 54 г.; Ева, жонка Андрэя, 40 г.; Аксіння, дачка Андрэя, 10 г.

**Дзедзічная ЯВп маршалка Горскага вёска Ігнаткаўцы**

1. Андрэй Давідовіч, 53 г.; Ігнат, сын Андрэя, 24 г.; Павел, сын Андрэя, 12 г.; Клеменс, сын Андрэя, 3 г.; Крысціна, жонка Андрэя, 37 г.; Алена, дачка Андрэя, 17 г.; Настасся, дачка Андрэя, 7 г.; Ганна, жонка Ігната, 36 г.

2. Данель Гомза, 50 г.; Ігнат, сын Данеля, 31 г.; Ян, другі сын, 19 г.; трэці Міхал, 12 г.; Ян, бацька Данеля, 91 г.; Адам, сын Ігната, 3 г.; Крысціна, жонка Данеля, 51 г.; Ганна, жонка Ігната, 29 г.; Магдалена, іхняя дачка, 8 г.

3. Якуб Паварга, 61 г.; Казімір, сын Якуба, 20 г.; Зоф'я, жонка Якуба, 40 г.; Мар'яна, іхняя дачка, 18 г.; другая дачка Магдалена, 3 г.

4. Сымон Зайка, 54 г.; Рыгор, яго брат, 37 г.; другі брат Янук, 31 г.; Фёдар, сын Яна, 10 г.; Фёдар, сын Сымона, 7 г.; Сымон, сын Яна; Алена, жонка Сымона, 41 г.; Крысціна, жонка Рыгора, 31 г.; Настасся, дачка Сымона, 20 г.; Аляксандра, жонка Яна, 27 г.; Ягана, дачка Яна, 7 г.; Кацярына, дачка Рыгора, 3 г.; Магдалена, дачка Яна, 2 г.

5. Павел Даняловіч, 91 г.; Якуб, сын Паўла, 40 г.; Васіль, сын Якуба, 7 г.; Данель, сын Васіля, 7 г.; другі Міхал, 2 г.; Мар'яна, жонка Паўла, 90 г.; Крысціна, жонка Якуба, 31 г.; Даміселя, дачка Якуба, 12 г.; Вікторыя, жонка Васіля, 30 г.; Теафіля, дачка Якуба, 2 г.

6. Стэфан Пазняк, 37 г.; Францішак, яго сын, 10 г.; другі, Сымон, 9 г.; Рыгор, брат Стэфана, 22 г.; другі брат Рыгор, 20 г.; Кандрат, сын Стэфана, 5 г.; Стэфан, сын Рыгора, 5 г.; Алена, жонка Стэфана, 25 г.; Уляна, дачка Стэфана, 12 г.; Зоф'я, сястра Стэфана, 41 г.

7. Астап Радзюк, 61 г.; Юзаф, сын Астапа, 29 г.; Казімір, сын Юзафа, 8 г.; Мар'яна, яго жонка, 41 г.; Фрызына, маці Астапа, 91 г.; Вікторыя, жонка Юзафа, 32 г.; Марцеля, дачка Юзафа, 3 г.

8. Юзаф Губейка, 22 г.; Язафат, брат Юзафа, 20 г.; Разалія, жонка Юзафа, 37 г.; Ганна, дачка Юзафа, 7 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 23 г.

9. Мірон Малец, 51 г.; Стэфан, сын Мірона, 22 г.; Казімір, брат Мірона, 41 г.; Адам, сын Казіміра, 12 г.; Астапа, сын Мірона, 4 г.; Мар'яна, жонка Мірона, 41 г.; Кацярына, іхняя дачка, 11 г.; Ягана, дачка Мірона, 9 г.; Вікторыя, дачка Казіміра, 14 г.; другая, Ганна, 5 г.; Альжбета, жонка Казіміра, 31 г.

10. Якуб Ашмяна, 41 г.; Юзаф, брат Якуба, 31 г.; Мацей, сын Якуба, 7 г.; Аляксей, сын Юзафа, 2 г.; Тэадор, сын Якуба, 2 г.; Рая, жонка Якуба, 34 г.; Крысціна, сястра Якуба, 29 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 26 г.

11. Сымон Тарасюк, 31 г.; Янук Ашмяна, 51 г.; Раман, сын Янука, 18 г.; Мар'яна, жонка Сымона, 34 г.; Хвядора, маці Сымона, 95 г.; Клара, жонка Янука, 47 г.

12. Сымон Тарасюк, 36 г.; Дамінік, брат Сымона, 22 г.; Бенядыкт, брат Сымона, 22 г.; Кірыл Ашмяна, 57 г.; Кандрат, сын Сымона, 5 г.; Настасся, жонка Сымона, 31 г.; Наталля, маці Сымона, 61 г.; Таццяна, маці Наталлі, 99 г.; Кацярына, дачка Сымона, 3 г.

13. Марцін Гомза, 61 г.; Максім, сын Марціна, 37 г.; Андрэй, сын Марціна, 29 г.; Антон, сын Марціна, 9 г.; другі сын Ян, 5 г.; Аляксей, сын Андрэя, 3 г.; Агата, жонка Марціна, 56 г.; Агата, жонка Максіма, 35 г.; Юстына, дачка Максіма, 11 г.; Мар'яна, жонка Андрэя, 28 г.; Мар'яна, іхняя сваячка, 23 г.; Марцеля, дачка Андрэя, 3 г.

14. Пракоп Пеляса, 31 г.; Стэфан, сын Пракопа, 5 г.; Антаніна, жонка Пракопа, 27 г.; Агата, маці Пракопа, 67 г.; Мар'яна, іхняя дачка, 1 г.;

15. Стэфан Тарасюк, 61 г.; Міхал, сын Стэфана, 23 г.; другі Павел, 9 г.; Уляна, жонка Стэфана, 41 г.; Ганна, дачка Стэфана, 14 г.; другая Францішка, 12 г.; Тэкля, жонка Міхала, 30 г.; Марцеля, дачка Міхала, 3 г.; Дамініка, дачка Стэфана, 2 г.

16. Якуб Саўрас, 57 г.; Юзаф, сын Якуба, 31 г.; Мікалай, сын Юзафа, 9 г.; Тэадор, сын Якуба, 23 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 27 г.; Кацярына, жонка Тэадора, 23 г.; Анастасія, дачка Юзафа, 4 г.; Парася, дачка Тэадора, 4 г.

17. Стэфан Саўрас, 31 г.; Марцін, сын Стэфана, 8 г.; Змітрук, сын Стэфана, 5 г.; другі Дамінік, 2 г.; Агата, братавая Стэфана, 45 г.; Мар'яна, жонка Стэфана, 32 г.; Ева, жонка Андрэя, 25 г.; Таццяна, дачка Евы, 1 г.

18. Аляксандр Гомза, 61 г.; Фёдар, сын Аляксандра, 31 г.; Пётр, сын Фёдара, 7 г.; Крысціна, яго жонка, 36 г.; Кацярына, жонка Фёдара, 31 г.; Мар'яна, дачка Аляксея, 12 г.; другая Ягана, 9 г.; Настасся, дачка Фёдара, 7 г.

19. Рыгор Гомза, 61 г.; Фёдар, сын Рыгора, 31 г.; Хвёдар, брат Рыгора, 51 г.; Стэфан, сын Хвёдара, 2 г.; Хвядора, жонка Рыгора, 61 г.; Альжбета, жонка Фёдара, 30 г.; Еўдакія, жонка Хвёдара, 40 г.; Клара, дачка Хвёдара, 7 г.; Настасся, сястра Рыгора, 61 г.

20. Стэфан Саўрас, 61 г.; Крыштаф Венска, 26 г.; Мікалай, сын Кшыштафа, 5 г.; Магдалена, жонка Стэфана, 61 г.; Мар'яна, іхняя дачка, 26 г.; Зоф'я, жонка Крыштафа, 27 г.

**Дзедзічная вёска Явп Горскага Сямашкі**

1. Юры Бублеўскі, 81 г.; Сымон, яго сын, 51 г.; Бенядыкт, сын Сымона, 9 г.; Марцін, сын Сымона, 5 г.; Крысціна, жонка Сымона, 41 г.; Юстына, іхняя дачка, 12 г.

2. Антон Чэрняк, 29 г.; Марцін, стрый Антона, 49 г.; Леан, сын Марціна, 8 г.; Ян, сын Антона, 4 г.; Ганна, сястра Марціна, 96 г.; Кацярына, жонка Марціна, 31 г.; Марцеля, дачка Марціна, 5 г.; Антаніна, жонка Антона, 26 г.

3. Сымон Ушка, 28 г.; Леан, сын Сымона, 8 г.; Магдалена, яго жонка, 31 г.

4. Юзаф Вайцюшкевіч, 58 г.; Лукаш, яго брат, 36 г.; Аляксандр, сын Сымона, 13 г.; Мірон, сын Лукаша, 5 г.; Ян, сын Сымона, 1 г.; Сымон, сын Лукаша, 1 г.; Мар'яна, жонка Сымона, 41 г.; Аксіння, дачка Сымона, 12 г.; Наталля, дачка, Лукаша, 9 г.; Еўдакія, дачка Сымона, 7 г.; Мар'яна, жонка Лукаша, 36 г.

5. Ян Жамойцін, лацінскі; Аксіння, жонка Яна, 36 г.; Альжбета, дачка Яна, 12 г.; Разалія, дачка Яна, 8 г.; Магдалена, дачка Яна, 2 г.

6. Лаўрын Клімовіч, 24 г.; Якуб Рагель, 36 г.; Павел, сын Якуба, 1 г.; Ігнат іхні швагер, 7 г.; Марцеля, цешча Лаўрына, 37 г.; Еўдакія, жонка Лаўрына, 21 г.; Ганна, жонка Якуба, 19 г.; Алена, дачка Марцелі, 12 г.; Вікторыя, яе другая дачка, 4 г.

7. Міхал Клімовіч, 26 г.; Эльяш, брат Міхала, 21 г.; другі брат Андрэй, 12 г.; Казімір, сын Міхала, 7 г.; Ян, сын Эльяша, 3 г.; Лукаш, сын Міхала, 2 г.; Разалія, жонка Міхала, 28 г.; Вікторыя, дачка Міхала, 8 г.; Кацярына, іхняя маці, 48 г.

8. Міхал Янчэўскі, 41 г.; Якуб, брат Міхала, 36 г.; Мікалай, сын Міхала, 7 г.; Караль, сын Міхала, 21 г.; Францішак, другі сын, 5 г.; Рыгор, сын Якуба, 4 г.; Крысціна, жонка Якуба, 31 г.; Ганна, дачка Якуба, 9 г.; Леана, сястра, Якуба, 29 г.; Разалія, дачка Міхала, 7 г.; Настасся, дачка Якуба, 7 г.

9. Ігнат Сямашка, лацінскі; Антаніна, жонка Ігната, 31 г.; Канстанцыя, жонка Юзафа, 28 г.

10. Геранім Клімовіч, 51 г.; Антон, сын Гераніма, 12 г.; Стэфан, другі сын, 7 г.; Казімір, трэці сын, 2 г.; Матрона, жонка Гераніма, 41 г.; Настасся, дачка Гераніма, 13 г.; другая, Ганна, 9 г.; Разалія, пляменніца, 23 г.; Зоф'я, пляменніца, 18 г.

11. Стэфан Паварга, 56 г.; Юзаф, сын Стэфана, 21 г.; Юзаф, сын Стэфана, 16 г.; Антон, сваяк Стэфана, 37 г.; Раман, сын Антона, 14 г.; Наталля, жонка Антона, 31 г.; Саламея, яго дачка, 10 г.; Францішка, другая дачка, 7 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 21 г.; Ганна, жонка Юзафа, 21 г.; Альжбета, дачка Юзафа, 1 г.

**Вёска Губейкі ЯВп Горскага**

1. Астап Паварга, 91 г.; Лукаш, сын Астапа, 54 г.; Ян, сын Лукаша, 23 г.; Пётр, сын Лукаша, 18 г.; Ануфрый, сын Лукаша, 13 г.; Андрэй, сын Лукаша, 11 г.; Марцін, сын Яна, 1 г.; Разалія, жонка Лукаша, 41 г.; Мар'яна, іхняя дачка; Фрызына, жонка Яна, 26 г.

2. Сымон Ушуўчык, 61 г.; Данель, сын Сымона, 22 г.; Леан Ашмяна, яго зяць, 24 г.; Ян, сын Леана, 3 г.; Кацярына, жонка Сымона, 60 г.; Леана, жонка Леана, 26 г.;

3. Пётр Паварга, 41 г.; Рыгор, сын Мікалая, 13 г.; Юзаф Паварга, 42 г.; Мікалай, сын Юзафа, 8 г.; Агаф'я, жонка Пятра, 40 г.; Таццяна, іхняя дачка, 18 г.; Мар'яна, другая, 10 г.; Разалія, жонка Юзафа, 35 г.; Мар'яна, дачка Юзафа, 13 г.; другая, Агата, 3 г.

4. Лукаш Губейка, 71 г.; Ян, сын Лукаша, 31 г.; другі Карпен, 23 г.; Сымон, сын Яна, 7 г.; Грыгоры, сын Стэфана, 2 г.; Уляна, жонка Лукаша, 61 г.; Настасся, жонка Яна, 31 г.; Тэкля, жонка Карпена, 24 г.; Мар'яна, іхняя дачка, 2 г.; Дамініка, дачка Яна, 2 г.

5. Андрэй Пазняк, 41 г.; Ян, сын Андрэя, 14 г.; Сымон, другі сын, 9 г.; Стэфан, яго швагер, 23 г.; Леан, сын Андрэя, 7 г.; Ян, сын Андрэя, 2 г.; Мар'яна, яго жонка, 37 г.; Францішка, дачка Андрэя, 12 г.; Тарэза, жонка Стэфана, 26 г.; Кацярына, дачка Стэфана, 4 г.

**Дзедзічная веска Клімавічы ЯВп Горскага**

1. Аляксандр Клімовіч, 18 г.; Аляксандр, яго брат, 12 г.; Андрэй …, 20 г.; Еўдакія, маці Аляксандра, 51 г.; Агата, сястра Аляксандра, 26 г.

2. Габрыэль Клімовіч, 67 г.; Аляксандр, яго сын, 26 г.; другі, Павел, 18 г.; Антон, сын Аляксандра, 9 г.; Сымон, сын Аляксандра, 4 г.; трэці, Базыль, 1 г.; Мар'яна, яго жонка, 61 г.; Аляксандра, жонка Аляксандра, 25 г.

3. Самуэль Паварга, 51 г.; Юзаф, сын Самуэля, 20 г.; Марцін, сын Юзафа, 3 г.; Габрыэль, сын Самуэля, 2 г.; Ева, дачка Самуэля, 14 г.; другая, Кацярына, 12 г.; Алена, жонка Юзафа, 20 г.

4. Мікалай Сянкевіч, лацінскі; Юзэфа, яго жонка, 26 г.

5. Максім Гомза, 41 г.; Антон, яго брат, 31 г.; Юзэфа, жонка Максіма, 36 г.; Францішка, іхняя дачка, 12 г.; Алена, жонка Антона, 27 г.; Настасся, іхняя дачка, 7 г.

**Дзедзічная вёска ЯВп Горскага Паваргі**

1. Павел Паварга, 23 г.; Барталамей Роўба, зяць, 26 г.; Базыль, сын Рамана, 13 г.; Сымон, сын Паўла, 2 г.; Леана, жонка Барталамея, 29 г.; Тэкля, жонка Паўла, 27 г.

2. Павел Багрым, 48 г.; Сымон, сын Паўла, 26 г.; Якуб, сын Паўла, 14 г.; Таццяна, жонка Паўла, 38 г.; Даміцэля, жонка Сымона, 28 г.; Мар'яна, дачка Сымона, 4 г.; другая, Петранеля, 2 г.

3. Пракоп Васілевіч, 73 г.; Антон, зяць Пракопа, 41 г.; Фёдар, сын Пракопа, 12 г.; другі Тамаш, 11 г.; Кацярына, жонка Пракопа, 61 г.; Алена, жонка Антона, 34 г.; Петранеля, іхняя дачка, 11 г.; Мар'яна, дачка Пракопа, 21 г.; Мар'яна, пляменніца, 26 г.; Настасся, дачка Антона, 3 г.; Марцеля, дачка Антося, 2 г.

4. Карпен Паварга, 41 г.; Стэфан, сын Карпена, 10 г.; другі, Юзаф, 4 г.; Фрызына, жонка Карпена, 36 г.; Агата, дачка Карпена, 14 г.; Францішка, 12 г.

**Дзедзічная вёска ЯВп Горскага Дзімітраўцы**

1. Якуб Пазняк, 42 г.; Юзаф, сын Якуба, 23 г.; другі сын Пётр, 16 г.; Андрэй, сын Якуба, 11 г.; Ян, сын Якуба, 7 г.; Наталля, жонка Якуба, 42 г.; Ганна, дачка Якуба, 9 г.; Ганна, жонка Юзафа, 24 г.

2. Тамаш Тарасюк, 22 г.; Агаф'я, маці Тамаша, 47 г.; Крысціна, сястра Тамаша, 20 г.; Мар'яна, яго бабуля, 71 г.; Парася, жонка Яна Венска, 32 г.

3. Барталамей Ушка, 61 г.; Філіп, сын Барталамея, 10 г.; Міхал, другі сын, 7 г.; Фёдар, брат Барталамея, 41 г.; Казімір, іх сваяк, 14 г.; Ян, сын Фёдара Ушка, 3 г.; Аляксей, сын Барталамея, 1 г.; Тэкля, жонка Барталамея, 41 г.; Кацярына, жонка Фёдара, 27 г.; Барбара, дачка Фёдара, 7 г.

4. Андрэй Ашмяна, 32 г.; Мар'яна, яго братавая, 51 г.; Зоф'я, жонка Юзафа, 26 г.; Малгажата, дачка Юзафа, 7 г.

5. Пётр Міна, 61 г.; Пракоп, зяць, 32 г.; Ян, сын Пракопа, 7 г.; Антон, другі сын, 2 г.; Ганна, жонка Пятра, 54 г.; Аляксандра, дачка Пятра, 26 г.; Мар'яна, другая дачка, 15 г.; Ганна, жонка Пракопа, 21 г.

6. Антон Шаўкуць, 24 г.; Ганна, жонка Максіма, 48 г.; Юстына, дачка Максіма, 29 г.; Зоф'я, жонка Антона, 26 г.; Ева, дачка Антона, 3 г.; другая, Мар'яна, 1 г.

7. Базыль Роўба, 22 г.; Карпен, яго швагер, 31 г.; Ганна, маці Базыля, 48 г.

8. Геранім Малец, 41 г.; Антон, сын Гераніма, 26 г.; Ян, другі сын, 4 г.; трэці сын Гераніма Ян, 2 г.; Палаша, жонка Гераніма, 31 г.; Язафата, дачка Гераніма, 16 г.; Настасся, яго цешча, 61 г.; Тарэза, жонка Антона, 26 г.; Таццяна, дачка Антона, 4 г.; Уляна, дачка Гераніма, 7 г.; Леанора, дачка Антона, 2 г.

9. Габрыэль Казак, 13 г.; Раман, стрый Габрыэля, 29 г.; Ян, сын Стэфана, 9 г.; Фёдар, сваяк Габрыэля, 24 г.; Казімір, сын Рамана, 3 г.; Пелагея, маці Габрыэля, 40 г.; Даміцэля, яго сястра, 10 г.; Хвядора, жонка Рамана, 32 г.

10. Змітрук Бянско, 33 г.; Тамаш, сын Змітрука, 10 г.; Стэфан, брат Змітрука, 26 г.; Ян, сын Змітрука, 5 г.; Крысціна, яго жонка, 31 г.; Францішка, 12 г.; Ганна, сястра, Змітрука, 21 г.; Аксіння, жонка Стэфана, 25 г.

11. Данель Радзюк, 47 г.; Антон, сын Данеля, 14 г.; Базыль, сын Данеля, 12 г.; трэці, Сымон, 10 г.; чацвёрты, Адам, 8 г.; пяты, Якуб, 3 г.; Юзаф, брат Данеля, 31 г.; Лукаш, сын Юзафа, 2 г.; Хвядора, жонка Данеля, 47 г.; Юстына, жонка Юзафа, 36 г.; Ганна, дачка Юзафа, 7 г.; Анастасія, другая дачка, 4 г.

**Дзедзічная вёска ЯВп Горскага Даўгаполле**

1. Юры Саўрас, лацінскі; Міхал, сын Юрыя, 10 г.; Ян, сын Юрыя, 7 г.; Андрэй, брат Юрыя, 36 г.; Лаўрын, пляменнік Юрыя, 20 г.; Базыль, сын Андрэя, 7 г.; Мар'яна, жонка Юрыя, 33 г.; Ганна, дачка Юрыя, 9 г.; Еўдакія, жонка Андрэя, 36 г.; Марцеля, дачка Юрыя, 3 г.

2. Францішак Сямашка, 20 г.; Юстын, сын Агаты, дзеўкі, 1 г.; Алена, маці Францішкі, 46 г.; Агата, дачка Алены, 23 г.; другая, Кацярына, 17 г.; трэцяя, Тэафіля, 12 г.

**Дзедзічная вёска ЯВп Горскага Палуты**

1. Ян Цыбульскі, 46 г.; Марцін, брат Яна, 37 г.; Юзаф, брат Яна, 14 г.; Францішак, сын Марціна, 10 г.; Сымон, сын Яна, 4 г.; Юлія, дачка Яна, 7 г.; Кацярына, дачка Марціна, 5 г.; Петранеля, другая дачка, 1 г.

2. Самуэль Юдонік, 41 г.; Крысціна, яго братавая, 48 г.; Кацярына, жонка Самуэля, 35 г.

3. Тэадор Жамоцін, 38 г.; Ян, яго сын, 12 г.; Уляна, яго жонка, 31 г.; дачка Магдалена, 9 г.; другая, Тэкля, 4 г.

4. Раман Ашмяна, 31 г.; Тамаша, сын Лукаша Тарасюка, 12 г.; Ян, сын Рамана, 1 г.; Юстына, жонка Рамана, 22 г.; Мар'яна, сястра Тамаша, 30 г.

5. Тадэвуш Паварга, 46 г.; Зьмітрук, зяць Паваргі, 28 г.; Стэфан, сын Тадэвуша, 4 г.; Наталля, жонка Тадэвуша, 33 г.; Пелагея, іх дачка, 24 г.; Мар'яна, другая дачка, 9 г.; трэцяя Марцеля, 8 г.; Хвядора, яго сястра, 39 г.; Кацярына, сястра Тадэвуша, 3 г.

**Кутнікі:** Лаўрын Сямашка, 52 г.; Сымон, сын Лаўрына, 13 г.; другі Вінцэнт, 6 г.; Мацей, трэці сын, 3 г.; Хвядора, яго жонка, 30 г.; Ганна, дачка Лаўрына, 1 г.

**Дзедзічная вёска ЯВп Горскага Більтаўцы**

1. Несцер Компак, 57 г.; Альжбета, яго братавая, 61 г.; Уляна, жонка Несцера, 56 г.; Вікторыя, іх дачка, 8 г.; Караліна, другая дачка, 7 г.

2. Тамаш Ашмяна, 57 г.; Стэфана, брат Тамаша, 46 г.; Ян, сын Стэфана, 8 г.; Пётр, сын Тамаша, 3 г.; Барбара, яго жонка, 41 г.; Аксіння, жонка Стэфана, 43 г.

3. Пракоп Ашмяна, 75 г.; Пракоп, сын Ігната, 16 г.; Лаўрын, брат Пракопа, 54 г.; Андрэй, сын Лаўрына, 15 г.; Фрызына, жонка Пракопа, 61 г.; Фрызына, жонка Лаўрына, 13 г.; Альжбета, дачка Лаўрына, 13 г.; Кацярына, другая дачка, 10 г.; Крысціна, трэцяя дачка, 8 г.; Францішка, дачка Пракопа, 7 г.; Малгося, дачка Пракопа, 27 г.; Малгажата, жонка Пракопа, 27 г.; Мар'яна, дачка Пракопа, 2 г.

4. Васіль Ашмяна, 61 г.; Тамаш, сын Васіля, 27 г.; Якуб, сын Тамаша, 7 г.; Дамінік, брат Васіля, 60 г.; Базыль, сын Тамаша, 2 г.; Мар'яна, жонка Васіля, 57 г.; Аксіння, іхняя дачка, 8 г.; Тэкля, жонка Дамініка, 51 г.; Парася, жонка Базыля, 54 г.; Хвядора, жонка Базыля, 24 г.

5. Пётр Губейка, 37 г.; Караль, сын Пятра, 12 г.; Францішка, жонка Пятра, 37 г.; Разалія, дачка Пятра, 14 г.; другая, Францішка, 18 г.; трэцяя Міхаліна, 8 г.; чацвёртая, Паўліна, 2 г.

6. Рыгор Венска, 58 г.; Васіль, сын Рыгора, 34 г.; Якуб, сын Рыгора, 26 г.; Павел, сын Рыгора, 24 г.; Стэфан, сын Якуба, 3 г.; Вінцэнт, сын Васіля, 3 г.; Ганна, жонка Рыгора, 41 г.; Альжбета, жонка Васіля, 34 г.; Юльяна, дачка Васіля, 5 г.

7. Андрэй Гук, 54 г.; Фёдар, сын Андрэя, 9 г.; Пракседа, жонка Андрэя, 41 г.

8. Мацей Губейка, 38 г.; Марцін, сын Марціна, 12 г.; Тамаш, сын Марціна, 9 г.; Антон Паварга, швагер, 27 г.; Хвядора, швагерка Мацея, 27 г.; Ганна, дачка Мацея, 14 г.; Мар'яна, жонка Мацея, 27 г.

9. Ян Венска, 41 г.; Ян, сын Яна, 21 г.; Сымон, сын Яна, 14 г.; Рыгор, сын Яна, 11 г.; Адам, сын Яна, 9 г.; Антон, сын Яна, 7 г.; Тэадор, сын Яна, 4 г.; Кацярына, жонка Яна, 38 г.; Крысціна, дачка Яна, 12 г.; Наталля, дачка Яна, 3 г.

10. Якуб Роўба, 71 г.; Пётр, сын Якуба, 37 г.; Габрыэль, сын Якуба, 31 г.; Ян, сын Якуба, 11 г.; Крысціна, жонка Якуба, 47 г.; Юстына, жонка Пятра, 41 г.; Крысціна, дачка Пятра, 9 г.; Ганна, дачка Пятра, 7 г.; Еўдакія, дачка Якуба, 15 г.; Крысціна, пляменніца, 31 г.; Мар'яна, дачка Якуба, 3 г.

| Усе вёскі разам | Колькасць, усе разам | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | здодны | не здолны | здодны | не здодны |
| Мястэчка Лебяда | 170 | 70 | 21 | 62 | 17 |
| Вёска Ігнаткаўцы | 166 | 59 | 23 | 64 | 20 |
| Вёска Сямашкі | 83 | 17 | 32 | 10 | 83 |
| Вёска Губейкі | 49 | 19 | 7 | 19 | 4 |
| Вёска Клімавічы | 27 | 10 | 5 | 11 | 1 |
| Вёска Паваргі | 33 | 5 | 12 | 4 | 33 |
| Вёска Дзмітраўцы | 83 | 29 | 13 | 32 | 9 |
| Вёска Даўгапалле | 15 | 4 | 3 | 7 | 1 |
| Вёска Палуты | 37 | 13 | 5 | 11 | 7 |
| Вёска Більтаўцы | 80 | 31 | 8 | 29 | 12 |
| Разам | 739 | 271 | 107 | 275 | 85 |

Гэты спіс вернікаў парафіі Лебёдскай царквы склаў … 20 жніўня 1829 г. канонік берасцейскі грэка-каталіцкай царквы Лідскага дэканата, парах Дзікушскай царквы Ян Канеўскі.

***Віктар Кудла,***
***выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года***

# Сачыненне на тэму: “ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ”

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Аповяд пра жыццё-быццё сямейства Заекаў**

***з фатаграфій, дакументаў і па ўспамінах Заека Галіны Уладзіміраўны***

У вёсцы Бенявічы, што недалёка ад Ганчароў, у малазямельнай сялянскай сям’і Заекаў Якава і Алесі нарадзілася шасцёра сыноў і дзве дачкі. Тады паўсюдна ў вёсках сем’і былі вялікія. Дзяцей нараджалі столькі, колькі Бог даваў. А галоўнае, каб працаваць на гаспадарцы, былі патрэбныя працоўныя рукі.



***Галіна Заека***

Нарадзіліся пры "цары-бацюшку": старэйшыя - Ясь і Філіп (дакладнай даты не ўстаноўлена), Юліян (1897), Сямён (1906), малодшыя Уладзік (1912 г.н.) Дзмітры (1915 г.н.), пазней - Алёна і Верка.

Нялёгкі лёс выпаў на іхнюю долю: Першая сусветная вайна, кайзераўская акупацыя, расейскі пяратрус, два дзесяцігоддзі "за польскім часам".



***Алеся (Кудзі) Заека***

У 1900 годзе ў Бенявічах была адкрыта школа царкоўнай граматы, якая адносілася да Ганчарскага царкоўнага прыхода.

Захавалася фатакартка прыстойнай сялянскай гаспадыні - маці вялікага сямейства, у дзявоцтве Кудзі Алесі, родам з Дакудава.

На яе цяжкую жаночую долю выпала шчасце-турбота нарадзіць васьмёра дзяцей, іх выгадаваць, забяспечыць навучанне ў школе, падтрымаць далейшую вучобу хлопцаў для набыцця спецыяльнасці…

*У маршчынах твар, нібы кара.*
*Ўсяго пабачыла на свеце,*
*ды болей гора, чым дабра.*
*З маленства многа працавала,*
*Пазнала долю сіраты,*
*але на лёс не наракала -*
*Характар мела залаты.*
*Ніколі злога не казала*
*яна пра бліжняга свайго.*
*Не чулі мы, каб праклінала,*
*ці абгаворвала каго.*
*Нішто яе не паламала,*
*ні цяжкі лёс і ні вайна,*
*На ногі дзетак падымала.*
*Пры тых умовах марна справа*
*васьмёра дзетак нарадзіць,.*
*Ды нарадзіць - палова справы,*
*іх жа патрэбана гадаваць.*

Хаціна з прыбудовамі Заекаў прытулілася на ўскрайку вёскі. Вакол на замшэлых пясчаных пагорках рос ядловец, дзе ў лісіных норах - стойбішча звяркоў, пагроза для вясковых курэй.

Ужо з дзяцінства старанныя хлопцы працавалі на гаспадарцы: у полі канёмаралі, баранавалі, з сявенькай сеялі зерне. Летам сенавалі ў пойме Дзітвы, нарыхтоўвалі корм для хатняй сжывёлы. З надыходам восені збіралі небагаты ўраджай бульбы, збажыны. Потым цяжкая праца вымалаціць цапамі снапы, правеяць зерне, каб потым змалоць на жорнах у муку.

Каб крыху лепш падсілкавацца, хлопцы палявалі на зайцоў, лісаў, зімой ставілі сілкі на курапатак. Пазней мелі ўжо паляўнічае ружжо. На ўсё жыццё



палюбілі рыбалку: балазе да Дзітвы было з поўвярсты, ды і да Нёмана - з кіламетр. Змайстравалі з дошак лодку, звязалі сеткі. Заўсёды, асабліва на святы, на стале была рыба.

*Закідваюць хлопцы вуды,*
*хто на хлеб, на чарвяка,*
*Не глядзіць ніхто нікуды,*
*воч не зводзяць з паплаўка.*
*І хвалююцца нямала*
*нашы хлопцы-рыбакі, -*
*Чуць-чуць рыбка заклявала,*
*і заскачуць паплаўкі.*
*Тут патрэбны спрыт, снароўка*
*і характар клёву знаць,*
*Трэба ўмець у час і лоўка*
*рыбку хітрую падцяць.*

***Якуб Колас.***

Нашым сялянам за польскім часам жылося нялёгка. Вяскоўцы былі прыгнечаны высокімі падаткамі, страхоўкамі - і плаціць толькі "пінёнзамі". А каб іх мець, трэба было распрадаць зерне, жывёлу, малако і масла, якіх не заўсёды хапала нават дзецям… Польскія ўлады зняважліва ставіліся да беларускай мовы, звычаяў, праваслаўных святаў. У школе дзяцей вучылі толькі на польскай мове.

Старэйшыя хлопцы вучыліся пры цары па-расейску і адчувалі сябе чужынцамі, але былі прызначаны на польскую вайсковую службу.







***Ясь і Філіп па некалькі гадоў служылі ў Войску Польскім, мелі падафіцэрскія паўнамоцтвы***



***24.04.31, г. Шчучын ПСН. Курс пажарных. Наперадзе - ручная пажарная помпа***

Гэта паслужыла добраым штуршком закончыць вышэйшыя ўстановы і праявіць сябе ў навуковай дзейнасці:

Філіп стаў знакамітым вучоным - доктарам, абаснаваўся ў Харкаве.

Ясь стаў навукоўцам і ў часы ваеннага ліхалецця яго закінула ў Кракаў. Прыехаць на радзіму ў пасляваенныя гады "жалезнай заслоны" не ўдалося. Падтрымлівалі сувязь з братамі на Беларусі паштоўкамі…

На захаваўшыхся фатакартках старэйшыя Заекі Ясь і Філіп под час вучобы, практычных заняткаў і вайсковых вучэнняў.



***Торунь. 20.01.1932 г. Бравыя вайскоўцы Войска Польскага. Праз сем год яны прымуць на сябе ўдар германцаў…***



***Польскія жаўнеры з афіцэрамі Войска Польскага ў Гародні***

*Вось у паляка ўсё прывабна:*
*рыштунак, вопратка і бронь.*
*Усё прыгожа, зручна, зграбна,*
*пароды ангельскае конь.*
*А што паразу атрымалі,*
*то што ж яны маглі зрабіць?*
*Палякі мужна ваявалі,*
*ды танка шабляй не прабіць.*

Юльян, 1897 года нараджэння, пасля заканчэння школы за "польскім часам" вывучыўся на настаўніка. Быў на ўліку да прызыву ў войска.

Выпадкова нядаўна знайшлася яго "Ксёнжачка вайскова" ("Вайсковая кніжачка") ад 10 сакавіка 1923 года, у якой пазначаны: Рост - 171см. Вага - 66 кг., адбіткі пальца. "Стан сям'і - кавалер (халасцяк)", "Занятак цывільны - рольнік (селянін)". Падрабязна апісана знешнасць: "валасы, вочы, бровы, нос, барада, твар, асабістыя знакі".

Быў на службе ў рэзерве, ёсць адзнакі, што 11 лютага 1938 года ў Гародні паходзіў "цвічэнне", а другі раз - 18 жніўня 1939 года, за некалькі тыдняў да вайны.

На адной са старонак "Вайсковай кніжачкі" змешчана памятка адносна яе прызначэння і карыстання ёю:

*"ПАМЯТКА*

*1. Вайсковая кніжачка служыць жаўнеру асабістым дакументам, а таксама сведчаннем адносінаў, у якіх уладальнік гэтага дакумента знаходзіцца да вайсковай павіннасці.*

*2. Вайсковая кніжачка павінна захоўвацца як найстаранней.*



KSIĄŻECZKA WOJSKOWA

*Уладальнік Вайсковай кніжачкі абавязаны прадстаўляць яе вайсковай уладзе, а таксама і цывільнай пры кож-ным звароце або па кожным патраба-ванні тых жа ўладаў.*

*3. Уладальніку Вайсковай кніжачкі нельга рабіць у ёй самавольна ніякіх змен, а таксама паправак*


POUCZENIE

ŻĄDANIE ZAMIANY KSIĄŻECZKI

279.615-N

***Старонкі "Вайсковай кніжачкі" Юльяна Заекі***

*- ні асабіста, ні праз асоб на тое тое неўпаўнаважаных.*

*Калі прыйдзе - на яго думку - патрэба зрабіць у ёй якія-небудзь папраўкі або змены, належыць па той справе звярнуцца пісьмова або вусна з просьбай у ПВК (Павятовы вайсковы камісарыят), да якога належыць месца пастаяннага жыцця ўладальніка Кніжачкі і адначасова прадставіць сваю Вайсковую кніжачку. У дарозе такую просьбу належыць падаваць у Пастарунак (Камісарыят) дзяржаўнай паліцыі або ў орган цывільнай адміністрацыйнай ўлады I інстанцыі (Староства).*

*4. У выпадку знішчэння, страты або крадзяжу Вайсковай кніжачкі належыць пра гэта паведаміць у ПВК спосабам, вызначаным у п. 3".*

Малодшыя браты і сёстры дружна наведвалі школу. Навука давалася лёгка, а праца на зямельцы была цяжкай і беднай. Трэба было шукаць палёгку… Спачатку Юлік выскачыў з сялянскага хамута, вывучыўся на настаўніка, затым - малодшыя.

Уладзік закончыўшы за "польскім часам" сем класаў Ганчарскай школы паступіў у дзяржаўную Шчучынскую настаўніцкую семінарыю. Разам з ім там вучыліся мясцовыя хлопцы: Буйніцкі Косця з Дзітрыкаў, Папковіч Васіль са Жвіркоў, якія сталі на ўсё жыццё закадычнымі сябрамі…

Захаваўся канспект з вучэбнага 1931/32 года навучэнца чацвёртага курса Заекі Уладзіміра "Практыка педагагічна".

Паспяхова закончыўшы сямігадовае навучанне ў дзяржаўнай Шчучынскай настаўніцкай семінарыі ў 1935 годзе Заека Уладзімір быў



***Фатакартка Заекі Уладзіміра са студэнцкага білета***



***?.05.1931 года. Навучэнцы Шчучынскай настаўніцай семінарыі на экскурсіі ў парку Друцкай-Любецкай. (у цэнтры - Уладзімір Заека)***



***2.11.1931год. Шчучын. Студэнты на газоне. На заднім плане фасад настаўніцкай семінарыі***



Państwowe Seminarjum Nauczycielskie
w Szczuczynie Lidzkim

Rok szkolny 1931/32 Kurs IV

Praktyka pedagogiczna

ucznia (nicy) Zajeki Włodzimierza



Krótka treść lekcji



| Spostrzeżenia własne | Uwagi z konferencji względem nauczyciela | Uwagi nauczyciela sprawdzającego |
|---|---|---|

***Кавнспект Уладзіміра Заекі***

накіраваны на працу ў паўшэхную школу № 7 горада Баранавічы, дзе працаваў два гады (захавалася натарыяльна засвечаная заява аднакурсніка Мушчынскага М.С.). Але ўжо ў верасні 1939 года, пасля аб'яднання Заходняй Беларусі, актыўна ўключыўся ў выкладанне беларускай мовы ў пачатковай школе.

Дзмітры, 1915 года нараджэння, таксама быў прызваны служыць у польскую армію.

Па успамінах братоў, яму не хацелася служыць у войску - цягнула на бацькаўшчыну. Ён з дзяцінства любіў гаспадарыць, асабліва па дагляду жывёлы.



***Дзмітры Заека***

Пасля войска Дзмітры паступіў вучыцца ў Сувалкі ў навучальную ўстанову па ветэрынарыі. Вучыўся добра, там жа ў мясцовых гаспадарках праходзіў практыку.



***На здымку Дзмітры са сваімі саслужыўцамі пад час летніх вайсковых вучэнняў***

*Захаваліся яго вучэбныя ккнігі:*

*"Основы ветеринарыи." И.Ф. Розгин. Москва. 1939 г. - 466 старонак.*

*"Введенiе в изученiе зоологии и сравните-льной анатомiи" М.А. Менабира с 258 рисунками на 347 старонак. Москва 1897 год.*

*Кніга з Блонскай бібліятэкі Бонч-Асмалоўскіх.*

Прыехаўшы дахаты ў Бенявічы хутка зарэка-



*Сувалкі. Навучальная установа па ветэрынарыі. Кіраўніцтва і выкладчыкі з навучэнцамі-выпускнікамі*



ВВЕДЕНІЕ

ВЪ ИЗУЧЕНІЕ ЗООЛОГІИ

И

СРАВНИТЕЛЬНОЙ АНАТОМІИ.

М. А. Мензбира.

МОСКВА.

1907.



мендаваў сябе як граматны лекар жывёлы - быў у пашане. У навакольных вёсках ва ўсіх гаспадароў было многа разнастайнай жыўнасці, якая, безумоўна, час ад часу хварэла. Па-гэтаму ветэрынары былі найбольш запатрабаваныя ў сялян. Запомніўся малой Германовіч Вользе, як ён на падворку бацькоў у Ганчарах лячыў жывёлу: умела і растаропна - і карова хутка ўстала на ногі.

Тут жа у Бенявічах у Козела Юзафа і Зосі ў 1918 годзе нарадзілася Анюта. Дзесьці ў васьмігадовым узросце Ганна пачала навучанне ў Ганчарскай школе. У адным класе з ёю вучыліся шэсць хлопчыкаў і дзесяць дзяўчынак, у тым ліку Маруся Папковіч са Жвіркоў і Канстанцін Козел з Бенявіч, і па ўсёй верагоднасці і Ганна Чылека з Баравічаў.

Дакладных аповядаў пра навучанне няма, але па здымках можна здагадвацца пра колькасць хлопчыкаў і дзяўчынак, пра іхняе ўбранне, прычоскі…

Усім класам яны наведалі Навагрудак - былую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, дзе знаёміліся з руінамі замка 13-16 стагоддзя з вежамі Шчытоўка і Касцельная, гарой Міндоўга (згодна з легендай тут пахаваны заснавальнік ВКЛ - Міндоўг), з Фарным касцёлам які заснаваны ў 1395 годзе вялікім князем Вітаўтам ( у лютым 1799 года ў касцёле хрысцілі Адама Міцкевіча), збудаваннямі Барысаглебскага манастыра. У 1924-1931 гадах побач з Замкавай гарой па ініцыятыве гараджан быў насыпаны курган Бессмяроцця ў гонар і памяць Адама Міцкевіча. .

Першы ў свеце Дом-музей Адама Міцкевіча адкрыўся 11 верасня 1938 года. Гэта быў сціплы драўляны дом, пабудаваны бацькам паэта.



***Курган Міцкевіча (паштоўка-фота тых часоў)***

Пасля заканчэння школы бацькі вырашалі як забяспечыць далейшае навучанне дачкі. Безумоўна, бацькам-сялянам, ды яшчэ да таго ж праваслаўным, было фінансава цяжка забяспечваць вучобу Анюты.

У Лідзе працавала Гандлёвая школа піяраў, якая размяшчалася пры рымска-каталіцкім касцёле ў прылеглых да яго жылёва-гаспадарчых будынках па вуліцы Сувальскай.

Дарэчы прыбыткі ад збіраных аплат за вучобу не маглі пакрыць сур'ёзныя цяжкасці бюджэту школы. Былі таксама клопаты іншага характару, звязаныя з праграмай навучання. Моладзь, якая заканчвала ў той час трохкласную Гандлёвую школу, атрымлівала спецыяльнасць, але не атрымлівала поўнай сярэдняй адукацыі, якая дазваляла б пастунаць на вучобу ва ўніверсітэт ці ў школу падхарунжых (вайсковую вучэльню).

Атрыманне канцэсіі на Гандлёвую школу з поўным сярэднім профілем не было лёгкім. Пашырэнне школы да чацвёртага класа пацягнула за сабой неабходнасць змены яе назвы. Несумненна ўплываў эканамічны крызіс, у выніку якога ў Лідзе і яе ваколіцах у грамадзян не хапала грошай. Дырэктар школы, шукаючы паляпшэння фінансавагага становішча, пачаў разглядаць магчымасць прыняцця ў школу дзяўчат. Меркаваў, што такім чынам зробіць Гандлёвую школу больш прывабнай для мясцовай супольнасці. У Лідзе не было сярэдняй школы, якая вучыла б адначасова спецыяльнасці і ў якой вучыліся б дзяўчаты. Задума зрабіць з мужчынскай школы каэдукацыйную пляцоўку была добрая, і ў траўні 1934 года справа была пазітыўна вырашана. Колькксць вучняў вырасла з 60 да 160.



***Педагагічны калектыў Гандлёвай школы піяраў у Лідзе***



**Legitymacja szkolna**

na rok 1936/37 • Nr 45

Anna Kozioł

zamieszkały - a

w Lidzie

st. kol. Lida jest ~~słuchaczem - ką~~ uczniem - enicą

Durektor

***Школьнае пасведчанне № 45 на 1936\37 год Ганны Козел***

Вось тады якраз і паступіла вучыцца беняўская дзяўчына Козел Анюта. Яна добра ўпісалася ў вучнёўскі калектыў, ахвотна вывучала прадметы, захопленая вялікай колькасцю гадзін вучобы. Добра сябравала са сваімі аднакласнікамі, у свабодныя дні дзеці весела і актыўна праводзілі час у культурна-масавых мерапрыемствах, а часта і на прыродзе… Тут у Гандлёвай школе моладзь у форменным адзенні праходзіла вайсковую падрыхтоўку, задумвалася таксама над тэмамі ўсеагульных грамадзянскіх абавязкаў і правоў ды гаспадарчага самакіравання ў Польшчы.

Дэталёвая праграма навучання абавязвала як вучняў, так і настаўнікаў.

Праграма навучання была даволі абшырная. Па-першае, былі прадметы, звязаныя з тэхнікай гандлю, рэкламы. Навучэнцаў рыхтавалі да канторскай справы, бухгалтэрыі, стэнаграфіі. Праводзіўся курс друкавання на машынцы. Акрамя польскай вывучалі і нямецкую мову, матэматыку, гісторыю, правазнаўства, таваразнаўства.

Дбалі таксама пра фізічнае развіццё моладзі на занятках у гімнастычнай зале і спартыўных пляцоўках. Цікава і змястоўна праводзілі адпачынкі на прыродзе, гулялі ў валейбол, пікара.

Дырэктарам гімназіі быў знакаміты Генрык Жалігоўскі, сакратаром Юзаф Мамчыц. У "Кроніцы" запісаны спісак выкладчыкаў.

На захаваўшыхся фотакартках можна пазнаць сваіх родзічаў ці знаёмых…

Тады выкладалі: Люцыян Брыльскі - польскую мову (дарэчы, пазней быў выбраны ў Сойм), Эдуард



***16-ага студзеня1935 года, навучэнцы 1-ага класа***



*Зіма 1935года. Навучэнцы Гандлёвай школы ў форменным убранні з настаўнікамі. Аня з усмешкай сярод прылёгшых, унізе-справа 3-яя. На заднім плане ў той час - касцёл*



*3-ага траўня 1935 года. У дзень Свята сцяга Рэчы Паспалітай дружына жаночая і мужская ў параднай форме з кіраўніцтвам школы каля сцяны школы. Першы рад кленчыць: 7-я Аня Козел (зноў са сваёй іскрыстай усмешкаю)*



*3-ага траўня 1935года. 3-ці рад справа 3-яя - Аня Козел, ёй 18 год*

*Жаночы гуфец (дружына) на вайсковай падрыхтоўцы з подпісамі на абароце ўсіх (прозвішчы і імёны можна прачытаць: сярод іншых - Растоўская і Паплаўская, для "сімпатычнай" Ані К. Гарадавічоўна-кіраўнічка*



*9-ага траўня 1935 года. Усе навучэнцы Гандлёвай школы, больш за пяцьдзесят, і настаўнікі з дзеткамі на адпачынку ў Малэйкаўшчыне на прыродзе… З сабою ўзялі бідоны з вадою, мячыкі для гульняў… Няцяжка ўзнавіць, як праводзіла гэты вясенні дзень такая шматлікая кампанія…*

Зімінскі - нямецкую, Эдвард Ілінскі - таваразнаўства, Ізабэла Рус - гісторыю, Эдмунд Круляс - стэнаграфію, Яніна Камар - бухгалтэрыю, Яўгенія Багуцкая - тэхніку гандлю, Зофія Воўніч - гаспадаранне, Казімір Млынарскі-фізкультуру.

Навучанне ў Гандлёвай школе было на добрым узроўні.

Уладзіслаў Нарушэвіч у сваіх мемуарах пераказаў лідскую гарадскую легенду, якая нарадзілася пасля смерці Юзафа Пілсудскага (12 траўня 1935 г.) - быццам з-за скрухі, выкліканай ягонай смерцю, дзве лідскія вучаніцы кінуліся пад цягнік на станцыі Ліда і загінулі.

Але прэса 1935 г. пісала пра іншае: *"Трагічны выпадак здарыўся ўчора на станцыі Гаўя, дзе загінулі дзве 16-гадовыя вучаніцы. Калі цягнік Маладзечна-Ліда набліжаўся да станцыі Гаўя, пад колы паравоза, трымаючыся за рукі, кінуліся дзве дзяўчыны. Калі машыніст спыніў цягнік, парэшткі дзяўчат дасталі з-пад колаў. На месца прыбыла следча-лекарская камісія. У выніку дазнання стала вядома, што самазабойцамі былі Зоф'я Растоўская і Ірэна Паплаўская, вучаніцы Гандлёвай школы ўЛідзе. Прычына сама-забойства - праблемы ў школе і небяспека застацца на другі год у тым жа класе". Лідскі Летапісец № 3 (71).* Проза жыцця замест патрыятычнага адчаю.



**Ліда. Брукаваная вуліца. Навучэнкі ў святочным форменным убранні на дэманстрацыі**



***Дзяўчаты ў вольную часіну на прывале каля нейкай вёскі***



***Тыя ж дзевяць навучэнак у вайсковай форме на беразе шырокай ракі, па ўсёй верагоднасці - Нёмана***

Дасягнені Купецкай гімназіі не засталіся па-за увагай адукацыйных уладаў. Генрыка Жалігоўскага ўзнагародзілі Залатым крыжам. Несумненна, было гэта вялікім прызнаннем для дырэктара і для усёй школы.



***Аня Козел, 21 студзеня 1937 года***



***Сяброўка па вучобе - Галя ўладкавалася ў Вільні (у гонар яе сваю першую дачушку Аня назвала Галінай)***

Варта згадаць, што ў Гандлёвай школе ў Лідзе адбывалася шмат урачыстасцяў узнёслага характару. З аказіі выдачы гандлёвых атэстатаў аб сярэдняй адукацьй 26 чэрвеня 1936 года адбылося ўручэнне і асвячэнне нанава ўфундаванага штандара школы.. Ва ўрачыстасці прымала ўдзел многа грамадзян горада, а таксама шматлікія госці.



***Дырэктар, настаўнікі і выпускнікі Лідскай гандлёвай школы.***

Козел Аня ў 19 год закончыла чатырохгадовае навучанне ў гандлёвай школе і была накіравана ў гміну мястэчка Дакудава..

Аня хутка ўвайшла ў кола гмінных спраў і сваіх абавязкаў. Сумесна з войтам і жаўнерамі наведвалі сялянскія сем'і, высвятлялі іх жыццёвы дабрабыт. Тым, хто не меў каня ці каровы, стараліся выдзяляць дапамогу.

Бедным шматдзетным ся-лянскім сем'ям здымалі падаткі, а сямутаму выдзялялі грашовую дапамогу, ці насенне, а часцей хлебную муку.

Аня, як супрацоўнік гміны, у вяскоўцаў мела давер, да яе звярталіся з просьбай напісаць прашэнне альбо заяву…



***Каля гміны***

*Лічу, што польскай той уладзе*
*пара належнае аддаць,*
*Бо сем'ям тым, што ў заняпадзе,*
*магла падтрымку аказаць.*
*Увесну даць маглі насенне,*
*альбо карову дзеткам даць.*
*Але часцей ў адно імгненне*
*маглі падаткі скасаваць…*

*Дзяржава пільна наглядала,*
*як зборы подацей ідуць,*
*І часам жорстка тых карала,*
*калі хто хоча падмануць.*
*А каб дазнацца ў чым прычыны -*
*наступствы глупства ці бяды,*
*Два супрацоўнікі ад гміны*
*з праверкай рушылі туды.*
*Таксама солтыс там мясцовы*
*абавязкова мусіў быць,*
*Каб аб'ектыўныя высновы*
*па гэтай справе ім зрабіць…*





***Фатакарткі яскрава адлюстроўваюць колькасны і службовы склад супрацоўнікаў гміны***



***Кіраўніцтва і супрацоўнікі гміны Дакудава. Войт, стараста, жаўнеры, пісар і рахункаводы. Аню Козел безпамылкова можна пазнаць…***

*Калі камісія рашала,*
*што для ільгот падстаў няма,*
*Для вінаватых азначала -*
*надзею цешылі дарма.*
*Калі ж убачаць - скрозь нястача,*
*худыя дзеткі, конік здох,*
*Пануе роспач, жонка плача,*
*няма тут грошай, бачыць Бог,*
*То адпаведны акт складалі,*
*маглі якім прапанаваць*
*Каб запазыку скасавалі,*
*ды дапамогу аказаць.*

З успамінаў Ежы Путраманта - жыхара Банева:

*"На Вялікдзень я прыехаў у Банева, рушылі адразу ў Дакудава.*

*Як вядома, адразу перад уездам у вёску знаходзіліся могілкі, размешчаныя на абрывістым беразе Нёмана. Штогод яны станавілся ахвярай чарговай паводкі, якая адрывала па некалькіх, магіл. Летам на мелкаводдзі валяліся людскія чарапы і галёначныя косткі.*

*У Дакудаве заўсёды святочныя п'янкі. Аздобай кампаніі былі паны-паліцыянты, ладзілі забаву. Прыслалі новага каменданта з вельмі прыгожай жонкаю. Быў гэта малы бландзінчык з рудымі вейкамі і бла-*



**Каля варот Дакудаўскай царквы**

*кітнымі вочкамі. На забаве - як звыкла ў зале гмінскага будынка - усе напіліся.*

*Піццё было ўсеагульным заняткам ваколіцы. Гарэлка пранікала ў звычаі, суправаджала жыхароў даліны Нёмана ад калыскі да труны. Ужо пры радзінных урачыстасцях давалі немаўляці паўкілішка, каб і яно адчула свята. Дабіваючыся дзяўчыны, хлапец прыязджаў з гарэлкай. Калі тая з ім добра выпівала, азначала, што згодная. "Чорныя поліўкі" і гарбузы - сімвалы адмовы з даўніх вякоў - аказаліся выцесненымі ўніверсальным сродкам "духоўнага жыцця".*

*Канешне, спецыяльныя п'яныя оргіі арганізоўваліся з аказіі святаў. Ваколіца была мешаная, пераважна праваслаўная, трохі каталіцкая. Большым святам дадавалі другі і трэці дзень. І гэта не толькі такім, як Божае Нараджэнне, Вялікдзень, ці Сёмуха. Тры дні святкавалі Тры Каралі - па дню на кожнага. Святкавалі таксама і чацвёрты дзень, гаварылі, што ў гонар "фурмана", г.зн. таго, хто тых трох каралёў вёз. Каб палічыць, то выпадала б тых святаў каля сотні на год. Ну а што ў час свят рабіць? Большасць дарослых - непісьменныя. Радыё было рэдкасцю,і то на слухаўкі. Пра кіно, тэатр ці хоць бы спорт ніхто на вёсцы не меў паняцця. Заставалася толькі гарэлка. Часам гулялі ў прэферанс і падкіднога. Былі танцулі і вясковая забава. Але тут і там без гарэлкі нельга было*



**5-ага ліпеня 1938 годва. Па усёй Польшчы ў гэты дзень святкавалі "Свята мора". Аня злева першая з новымі сябрамі на беразе Нёмана**

*абысціся.*

*Вясковая дакудаўсая моладзь збіралася на беразе Нёмана, ладзілі вясёлыя гульні, спаборніцтвы. Заўсёды рыхтавалі з свежа налоўленай рыбы рыбацкую юшку, а з хаты прыносілі размавітыя сялянскія прысмакі. Палілі кастры, вясяліліся ўсю ноч да світанку… Гэта былі цудоўныя, запамінальныя начанькі…*

*У красавіку 1939 года Польшча адзначала дваццатыя ўгодкі вызвалення з-пад улады савецкай Расіі. З той аказіі ў нядзелю, 19 красавіка, польскае радыё зрабіла з Ліды спецыяльную перадачу. Імправізаваную студыю падрыхтавалі ў гімнастычнай зале Купецкай гімназіі, адкуль раніцай уся краіна пачула пра гісторыю лідскіх піяраў. Прамову перад мікрафонам сказаў дырэктар школы Генрык Жалігоўскі. З касцёла піяраў таксама трансвлявалася імша".*



**26.03.1939 год. Вільня. Курсы бібліятэкараў. Штосьці не зразумела, чаму Аня закончыла яшчэ і курсы бібліятэкараў, мабыць, такая адукацыя патрабавалася для вядзення архіва гміны**

У верасні 1939 года для заходніх беларусаў адбыліся лёсавызначальныя падзеі: пачалася Другая сусветная вайна і ўз'яднанне Беларусі

*Напад на Польшчу - вынік змовы,*
*і гэта ўжо вядомы факт,*

*Што перадзел, парадак новы,*
*Еўропе нёс таемны пакт.*
*У адпаведнасці дамове*
*ў крэсы немцы не пайшлі,*
*Адсюль дамоў зышлі панове,*
*а ўслед таварышы прыйшлі.*

На Заходняй Беларусі ўсталявалася Савецкая ўлада.

*Было спачатку паляванне*
*на ўвесь дзяржаўны апарат.*
*Каго ў турму, каго ў выгнанне,*
*але хапалі ўсіх падрад.*
*І кожны служачы ўлады,*
*не важна, дзе ён працаваў,*
*І не залежна ад пасады*
*чэкістам у лапы патрапляў.*
*Усе прайшлі праз пастарункі*
*паліцыянт або ляснік,*
*Рабочы, служачы чыгункі,*
*і землямер, і паштавік.*

Не абышла і Аню чэкістская ператраска : частыя выклікі ў аддзел НКВД, некалькі тыдняў пратрымалі ў камеры, допыты, пагрозы,…

Калі закончылася гэта кантавасія, Аня дабралася ў Бенявічы да роднай хаты.

Тут уключылся ў сялянскую працу. Дапамагала па гаспадарцы: і жаць і звозіць снапы, умела запрэгчы каня… За гады вучобы добра навучылася рыхтаваць розныя прысмакі з небагатага вясковага асартыменту прадуктаў, так што сялянкі-аднавяскоўкі былі ўдзячныя ёй за кулінарную навуку.

**Аня Козел. 4.12.39 г. Ужо пры "першых Саветах"**

**Іра з Дакудава - лепшая сяброўка Ані (у гонар яе другую дачушку назвалі Ірынай)**

*Калі дзяўчаты кужаль пралі,*
*давалі волю галасам.*
*Спявалі песні аж да ночы,*
*у лад звінелі галасы,*
*Як васількі блішчэлі вочы,*
*як лён бялелі валасы.*
*У хлопцаў сэрцы заміралі*
*ад песень тых і ад вачэй*

Гэты сімпатычны, адукаваны хлопец, які меў ужо добрую пасаду, Анацка Леанід сябраваў з Аняй Козел і быў адным з кандыдатаў у жаніхі. Але на краіну нахлынула гітлераўская навала і перавярнула ўсё жыццё… Пра Анацку Леаніда звестак не знайшлося, хаця з такім прозвішчам і цяпер на Лідчыне жывуць нашчадкі…

**01.1941год. "Анечцы ад Анацкі Лёні". Фатограф Шымяновіч - Наваградак**

*У сорак першым годзе летам*
*да нас вярнулася вайна,*
*А пакуль ў вёсцы ціха*
*няма ні ўлады, ні вайны.*
*Не знаюць людзі, што ўжо ліха*
*прыйшло да іх. Жывуць яны,*
*Як і жылі, жыццём працоўным.*
*Так продкі іхнія жылі*
*Жыццём разважлівым і роўным,*
*турботы звычныя былі:*
*Сям'ёй жывёлу гадавалі,*
*а дзеўкі, спрытныя жанкі*
*Кужаль адбельвалі і пралі,*
*касілі сена мужыкі.*
*Жанчыны сена не касілі,*
*у нас такога не было.*
*Граблі, пакосы варушылі,*
*каб сена часам не згніло.*
*І агарод, і праца ў полі,*
*і ў хаце трэба працаваць.*
*Не пазайздросціш іхняй долі,*
*няма калі адпачываць.*
*У вёсцы людзі зразумелі,*
*што пачалася зноў вайна…*

Восенню 1941 года ў Ганчарах аккупацыйныя ўлады дазволілі адкрыць школу на беларускай мове з вывучэннем нямецкай. Падручнікі засталіся тыя ж самыя, што і да вайны, толькі было загадана выдраць лісты з партрэтамі Леніна-Сталіна.

Дырэктарам школы прызначылі дзьячка з Ганчарскай царквы Пяткевіча, жонку Ганну Антонаўну - настаўніцай пачатковых класаў і спеваў.

Жыхар з вёскі Бенявічы Казлоў Валянцін Пятровіч (у пасляваенны час узнагароджаны польскім медальём "За ўдзел у абарончай вайне 1939 года") у часы "першых Саветаў" і пры акупацыі нашай мясцовасці немцамі працаваў настаўнікам Ганчарскай школы. На гэты час Заека Уладзімір таксама тут настаўнічаў, вучыў старэйшых дзяцей у пачатковых класах на беларускай мове.

Настаўнікі непаслухмяных дзяцей маглі, як за "польскім часам"ляснуць лінейкай па выгнутай далоні, ці закруціць за вуха… Але праблем з дысцыплінай у вучняў бадай не было - усе ахвотна слухалі настаўніка, выконвалі хатнія заданні. Падбадзёрвала вучняў і тое што настаўнік зайшоўшы ў клас вітаўся: "Жыве Беларусь", а вучні дружна гаманілі: "Жыве".

На гарышчы хаты ў Заекаў знайшоўся падручнік на нямецкай мове па практычнай геаметрыі і матэматыцы выдання 1943 года ў Лейпцыгу.

На гэты час Заека Уладзімір у вёсцы і акрузе меў добры аўтарытэт і павагу. Гэта бачыла і Аня Козел, і ёй падабалася сурьёзнасць Уладзіка да настаўніцтва, шырокі кругагляд, прыкладныя паводзіны сярод моладзі, стрыманасць да палітычнай дыскусіі.

У хуткім часе маладыя аднавяскоўцы Уладзімір і Аня пажаніліся. Жылі ў бацькоўскай хаце, здатна вялі гаспадарку: мелі хлеб і да хлеба. У 1942 годзе нарадзілася Галіна, а пазней, у 1946 годзе - Ірына.

Разглядаючы кожнага хлопчыка і дзяўчынку паасобку, даволі яскрава характэрызуецца той час, як апраналіся і абуваліся гаротныя дзеці, а на тварах смутак і сполах… Адзенне было бедным, з саматканага палатна ці перашытае з бацькоўскай вопраткі. Пад самую зіму да школы хадзілі босымі. Школа ў Ганчарах пасля таго як партызаны спалілі старую царскую пабудову, размясцілася ў вясковых хатах. Мясцовыя мужчыны змайстравалі сталы і лаўкі, на сцяну павесілі дошку.

*Сярпом, бывала, жыта жала,*
*то аж па лытках кроў цякла.*
*Бо як іголкі, пожня жыта*
*дзярэ і коле ногі так,*
*Што скура струпамі пакрыта,*
*пасля жніва нібы наждак.*
*Таму і сем'і нашых продкаў*
*былі багаты на дзяцей*
*Хапала неяк месца, сродкаў,*
*каб добрых выхаваць людзей.*

Занятыя з ранку да позняга вечара працай людзі нават забы-валіся, што яны жывуць у час, калі ідзе вайна і на іх зямлі пануе акупацыйны нямецка-акаўскі рэжым.

З надыходам позняй восені і ў зімку ў вяскоўцаў з’яўлялася больш вольнага часу. Пажылыя мужчыны збіраліся у чыёй-небудзь хаце каб пагаварыць пра вайну і сваю гаспадарку, пакурыць, ды пагуляць у "дурня" ці "пагоны". Жанчыны на прасніцах і калаўротах пралі з воўны і кудзелі ніткі, а падчас працы задушэўна гаманілі і спявалі.

У вольную часіну і на святы вясковая моладзь збіралася на вечарынкі. На такую забаву запрашалі мясцовых музыкантаў, арандаалі хату з найбольшым пакоем. Танчылі полечку-трасуху, кракавяк, кадрыль, падыспанец, лянаніху, ды і чароўны вальс. У перапынках спявалі песні як беларускія, расійскія, так і польскія. Весяліліся да світанку, не звяртаючы ўвагі на тое, што з раніцы трэба працаваць. Вёскі тады былі шматлюдныя, звінелі дзіцячымі галасамі, шмат было і моладзі, хоць частка хлапцоў была на фронце. Хаця жылі небагата, але не засмучаліся, бо лепшага ніколі не бачылі.

Дзмітры Заека выконваў абавязкі ветэрынара "за польскім часам", пры "першых Саветах" і пры немцах. Ён не ўмешваўся ў палітыку, а штодзённа з ранку да пазна займаўся сваёй ветэрынарнай справай.

У часы нямецкай акупацыі ў гэтай мясцовасці аж да Нёмана "гаспадарамі" са



**Уладзімір Якаўлевіч з вучнямі ваеннай пары рознага ўзросту**

згоды немцаў, былі белапалякі, якія патрабавалі, каб былыя польскія вайскоўцы ішлі ў Армію Краёву ці здавалі былое польскае вайсковае амбудзіраванне . Напэўна, Дзмітры адмовіўся, і ў 1944 годзе акаўцы забілі яго.

У кнізе "Памяць" пра Дз.Я. Заеку напісана на ст. 344.

Трагедыя напаткала і яго сястру Алёну. Нейк пад вечар яна лясной дарогай вярталася з Дакудава, дзе была ў сваякоў і там дапамагала ў палявых работах. Змяркалася… На ўскрайку леса на выспе каля Дзітвы, засеўшыя немцы кантралявалі выхад з партызанскай зоны і па ёй стрэлілі - насмерць…

З вёскі загінула на фронце некалькі вяскоўцаў, ды яшчэ акаўцы зверствавалі.

У 1943 годзе бандыты расстралялі Говар Ганну - 39 год, Казака Пятра Андрэевіча - 53 гады, Козел Платона Аляксандравіча - 30 год, Кульчыцкага Аляксандра - 44 гады, Чырвонага Сцяпана Адамавіча - 58 год, Шулейку Канстанціна - 44гады.

Беняўцы ў хаце і ў полі заліваліся слязамі, вёска ператварылася ў сумную аплаквальню.

*Два дні нябожчыкаў хавалі,*
*цяжкая праца то была.*
*Мужчыны ямы дзень капалі,*
*жанчыны трупы ўкрашалі.*
*Як выжывалі ў тых умовах,*
*пра гэта цяжка гаварыць.*
*Хварэлі, мёрзлі, галадалі*
*не дай так Бог нікому жыць.*

*Калі ж у чэрвені з усходу*
*прыйшлі Саветы зноў да нас,*
*То для тутэйшага народа,*
*настаў другі складаны час.*
*Саветы людзям і прыродзе*
*нямала шкоды прынясуць.*
*Другіх Саветаў у народзе*
*перыяд гэты назавуць.*

*Яны тут час не марнавалі*
*і з ацалелых мужыкоў*
*На фронт здаровых усіх забралі,*
*памножыў лік сірот і ўдоў.*
*Не ўсе вярнуліся дахаты -*
*больш палавіны палягло.*
*Жыццё савецкага салдата*
*заўсёды таннае было.*

У студзені 1945 года сям'ю Чырвонага Івана напаткала вялікае гора - загінулі тры сыны: Аляксей - 1906 г.н., Антон -1910 г.н., Алляксандр -1912 г.н.

Ды яшчэ беняўцы-воіны загінулі на франтах ВАВ:

Буяк Станіслаў Адамавіч загінуў у 1945 г. - меў



***1944 год- пасля вызвалення Беларусі.***
***Камісія па афармленню заёма ў насельніцтва.***
***На сцяне плакат з заклікам:***
*"Чтоб скорей пришли с Победой*
*сыновья домой в родной свой дом -*
*подпишитесь на военный*
*государственный Заём!!!*

23 гады;

Бялецкі Валяр'ян Іванавіч - 1902 г.н., прапаў без вестак у 1944 г.;

Козел Іван Іосіпавіч - 1910 г.н., прапаў без вестак у 1944 г.;

Козел Сяргей Восіпавіч - 1920 г.н., пахаваны ў Германіі;

Шулейка Віктар Андрэевіч - 1910 г.н., прызываўся ў 41 г., загінуў у 45 годзе.

Вяскоўцы па прапанове-загадзе сельсаветчыкаў збіралі на фронт для чырвонаармейцаў патрэбныя для іх рэчы, падпісваліся на дзяржаўны займ.

Пасля вызвалення Лідчыны ў верасні 1944 года ў быўшым нямецкім бункеры адкрылі школу. Збудаванне бункера было халодным і цёмным, дзьмула з вокнаў. Для вучняў вясковыя мужчыны змайстравалі з сырых дошак сталы і лаўкі.



НКО—СССР
Лидский объединенный
Райвоенкомат

Удостоверение

1944 г.


НКО

УДОСТОВЕРЕНИЕ ОБ ОТСРОЧКЕ ОТ ПРИЗЫВА

ПО МОБИЛИЗАЦИИ №

Заеко Юлияну Яковлевичу

ГорОНО

учителя

БВО от 11 октября 1944 г. № 2/693

1 марта 1945 г.

Год рождения 1897, группа учета НКО

ВУС № 133


***У сваім садочку з дочкамі Галінкай і Ірынкай Уладзімір Якаўлевіч, Ганна Іосіфаўна Заекі і яе брат Валянцін Козел***

Нягледзячы што на фронт патрабавалася многа вайскоўцаў, настаўнікам далі атэрміноўку. Так з пасведчання, падпісанага Лідскім райваенкамам падпалкоўнікам Буторынам і старшым лейтэнантам Крохіным ваеннаабязаннаму Заеку Юліяну далі часовую адтэрміноўку ад прызыву па мабілізацыі з 30 ліпеня да 1 верасня 1944 года. А потым прадоўжылі да 1-ага сакавіка 45 года. Вось так у цяжкія гады вайны ўлады ўсё ж клапаціліся, каб дзеці набывалі веды.

Пасля вызвалення Беларусі Ганна Іосіфаўна перакваліфікавалася ў настаўніцу пачатковых класаў і працавала ў Ганчарскай школе.


***Унучкі Галя і Ірына з бабуляй Алесяй***

***Ганна Іосіфаўна з пасляваеннымі другакласнікамі каля драўлянай сцяны школьнай забудовы, якая ў гады вайны была нямецкім бункерам.***



Амаль усіх школьнікаў я (аўтар - В.К.) пазнаў, бо калі прыйшоў пасля Жучкоўскай пачатковай школы ў 5 -ы клас Ганчарскай школы, з імі вучыўся, закончыў сямігодку і далей з большасцю і дзесяцігодку…

Курыловіч Тамара, Заека Галя, Казлова Данута, Марцінкевіч Зося, Гук Зоя, Дычок Лёня, Козел Міша, Козел Тома, Харкевіч Валянцін, Дэк Ганна, Дэк Іван, Коркуць Іра, Данэйка Веця, Шулейка Жэня, Жамойціна Надзя…

І ўсе босыя.



***Ганна Іосіфаўна з класам. Тут дзеці ўжо абутыя***



***Настаўнікі Ганчарскай школы: Кучура Сяргей, (2-гі-неўстаноўлены), Заека Уладзімір, Буйніцкі Канстанцін, (5-тая-неўстаноўленая), Буяк Лілея Мікалаеўна, (7-аянеўстаноўленая), Кучынская Марыя Ермалаеўна, Жывета Анастасія Сямёнаўна***



***Настаўнікі Ганчарскай школы: Пазняк Кацярына Аляксееўна, Клябанаў Аркадзь Міхайлавіч - завуч, Пазняк Іосіф Людвігавіч - дырэктар, Заека Уладзімір Якаўлевіч, Халадкоўская Наталля Іванаўна, Заека Ганна Іосіфаўна, Буяк Лілея Мікалаеўна, Жывета Анастасія Сямёнаўна, Гаўрош Таццяна Мікалаеўна, Лецка Клаўдзія Мікалаеўна***



*1951 год. Піянерскі лагер у Ласосна. Бацькі ўпершыню здолелі накіраваць дзевяцігадовую Галіну на адпачынак…*



*На раённой школьнай спартакіядзе. Велагоншчыца - Заека Галя*





*1959 год. Выпускніцы-дзесяцікласніцы: Бобрык Сабіна, Драгун Крысціна, Курыловіч Тамара, Жамойціна Надзя, Заека Галя, Казлова Дана*

Закончыўшы дзесяцігодку ў Ганчарскай школе Галіна стала медработнікам, Ірына прадоўжыла справу бацькоў - працавала настаўнікам.



*Тры настаўнікі - аксакалы: Заека Уладзімір Якаўлевіч (1912-2000 гг.), Папковіч Васіль Канстанцінавіч (1908-2006 гг.), Буйніцкі Канстанцін Іванавіч (1913-1986 гг.)*



*Класны кіраўнік Заека Уладзімір Якаўлевіч з вучнямі чацвёртага класа каля сцяны трэцяга памяшкання школы*



***Клас Заекі каля сцяны трэцяга памяшкання школы***




***Выпуск 10 класа 1962 - 63 гг.***




***Выпускнікі 1968 года Ганчарскай школы з настаўнікамі: сядзяць злева направа настаўнікі: Буйніцкі Канстанцін Іванавіч, Заека Уладзімір Якаўлевіч, ваенрук (прозвішча не ўспомнілі), Нікалаева Надзея Сяргееўна - дырэктар, Гаўрош Таццяна Мікалаеўна, Германовіч Вольга Кандрацьеўна, Бурак Лілея Мікалаеўна, Папковіч Васіль Канстанцінавіч, Матусевіч Іван Антонавіч***



***Травень 1972 года. Заека Уладзімір Якаўлевіч, Стоцка Іван, Буйніцкі Канстанцін Іванавіч***



У семідзесятых гадах былыя навучэнцы Шчучынскай настаўніцкай семінарыі сустрэліся з нагоды пяцідзесяцігоддзя атрымання дыпломаў настаўніка ў вучэбным класе былой семінарыі.

***Сядзяць за партамі: Папковіч Васіль Канстанцінавіч, Заека Уладзімір Якаўлевіч, Буйніцкі Канстанцін Іванавіч, Стоцка Іван і яшчэ трое, нажаль, прозвішчы не вядомыя.***



***Каля будынка былой Шчучынскай настаўніцкай семінарыі***



***Пенсіянерка Заека Ганна Іосіфаўна ў апошні год настаўніцтва. Ганна - 1918 г.н. памерла ў 1997 годзе. Дачка Ірына - 1946 г.н. памерла ў 2013 годзе.***

У 1950 годзе, нягледзячы на антыкалгасныя настроі аднавяскоўцаў, быў створаны калгас, і назвалі імя Шверніка. З сямейства Заекаў Юльян перабраўся ў Юрацішкі, дзе пачаў працаваць настаўнікам, там і ажаніўся. Уладзіка - настаўніка калгасная тэма не турбавала. А Сямён адным з першых напісаў заяву ў калгас. Здаў усе сельскагаспадарчыя прылады працы: плуг, плужок, барану, забралі і кабыліцу з вупражжу і калёсамі. Але як актыўны працаўнік заўсёды працаваў са сваім канём і начыненнем. Праз пару гадоў калгас



***Заекі - Уладзімір і Сямён***

узбуйнілі…

Праца ў калгасе імя Чкалава Заекі Сямёна праходзіла з самага пачатку ўтварэння калгаса. Захаваліся за ўсе гады "Працоўная кніжка калгасніка", у якой адбываўся штодзённы ўлік па відах выкананых работ.

"Кніжка" - красамоўны дакумент. Чытаючы яго, многае можна даведацца, напрыклад: узімку коньмі ў санях ездзілі на балота, выдзёўбвалі кавалкі торфу і прывозілі на палі як угнаенне. Для коней рэзалі сечку з саломы з дабаўкай канюшыны. Пагрузка гною ў павозку, перавозка і раскідванне па полі. У гумне малацілі, напэўна цапамі, канюшыну і ўжо ў красавіку вялі ўручную падсеў канюшыны. Ці такі вось цікавы момант, якія былі тэрміны пасеву сельгаспадарчых культур. У пачатку красавіка ўручную сеялі авёс, лубін, а пшаніцу і ячмень - у канцы гэтага месяца і ў пачатку траўня, лён - у канцы. Бульбу саджалі ў канцы траўня і ў пачатку чэрвеня. Потым коньмі праводзілі баранаванне і некалькі разоў абгонку. На адзін працадзень трэба было забаранаваць у адзін след 3 гектары. Тэрмінаў для паспявання бульбы, мажліва, не хапала, таму ўборка "другога хлеба" пачыналася ў канцы верасня. Выворвалі барозны плугам, і жанчыны з драпцамі вышуквалі бульбіны і збіралі ў кошыкі. Мужчыны капалі бурты, укрывалі саломай, потым зямлёй.

***Працоўная кніжка калгасніка***

У ліпені і жніўні з самай раніцы мужчыны вазамі ехалі за Нёман на сенакос. На працадзень трэба было скасіць 0, 25 га, згрэбці сена на плошчы 0, 75 га, скласці ў копы з 90 сотак. Працадзень можна было зарабіць і ўкладваючы сена на 12 вазоў. А кладка сена з воза ў сцірты лічылася больш лёгкай справай, на працадзень трэба было ўкласці 14 вазоў. Перавозка сена па бездарожы з грузам каля 10 км, а сам возчык ішоў пешшу. Да таго ж, сена трэба было яшчэ і разгрузіць… Няпроста было атрымаць поўны працадзень.

Вось такі вынік: "Працоўная кніжка калгасніка" за 1958 год - за 280 дзён гадавой працы налічана 78 рублёў 47 капеек.

*Згубіўшы сродкі існавання*
*зямлю, маёмасць сялянін*
*Стаяў на рысе выжывання,*
*яскравы прыклад вось адзін -*
*Жыцця пакутнага старонка:*
*ужо працавалі на калгас.*
*За працу ім давалі збожжа,*
*лічылі працу ў працаднях…*
*Іх гадавы заробак зможа*
*мужык прынесці на плячах.*
*Як бачна, гэта вельмі мала,*
*калі лічыць на добры лад,*
*Свайго ім хлеба даставала*
*ў лепшым разе да Каляд.*

*Калі ж у хаце хлеб канчаўся,*
*то на "папутцы" ці пяшком*
*Мужык у горад падаваўся*
*за хлебам з ёмістым мяшком.*
*Калгасы грошай не давалі,*
*а каб капейку атрымаць*
*Сялян улады прымушалі*
*ў каапсаюз харчы здаваць.*
*А каб купіць буквар ці сшытак,*
*ды шмат патрэбна што купляць,*
*Бацькам даводзілася дзетак*
*без мяса, масла гадаваць.*
*Якая ж сіла прымушала*
*сялян батрачыць за дарма?*
*У дзяржаве рабства існавала,*
*другога чынніка няма.*
*Каб даў калгас каня ці дровы,*
*зямлю картоплі пасадзіць,*
*Ці сенажаці для каровы -*
*патрэбна норму адрабіць.*
*Ад дзесяці адну капіцу*
*калгаснік мог забраць сабе,*



***Заека Ян Якаўлевіч,***
***фота 31.01.49 г., Польшча***



***Асілкі Заекі: Сямён - 1906 г.н., памёр у 1984 годзе,***
***Уладзімір - 1912 г.н., памёр у 2000 г.***
***Юльян - 1897 г.н., пахаваны ў Юрацішках***



***Заека Філіп Якаўлевіч,***
***пасляваеннае фота,***
***г. Харкаў***



***Аграгарадок Ганчары. Мітынг да дня Перамогі***

*Іначай зубы на паліцу*
*пакласці прыдзецца табе.*
*Да працы часта прымушалі,*
*вось брыгадзіры - цівуны*
*Кійком сялян на працу гналі…*

*У вёсках тых, што аграгарадкі -*
*жыццё больш-менш яшчэ кіпіць,*
*Бальшавікі заўсёды ўмелі*
*народу ў вочы пыл пусціць…*
*Стаяць там помнікі ахвярам*
*ранней тут згаданых падзей.*

*Ад гэтай вёскі недалёка,*
*ну кіламетраў можа з два,*
*Зусім другое бачыць вока,*
*другое селішча стаіць.*
*Пустыя хаты на свет Боскі,*
*са смуткам вокнамі глядзяць.*
*Дзяцей няма, адны старыя,*
*тут нібы прывіды жывуць.*
*Кароў няма, хлявы пустыя,*
*адно што куры штось дзяўбуць.*
*Здзічэла ўсё: сады, гароды,*
*ды лапухі растуць, кусты -*
*Ранней квітнеючая вёска*
*імкліва стала выміраць,*
*Няма затрымак у прыродзе,*
*яна ж баіцца пустаты.*



***У Бенявічах у 20-х гадах пражывала 332 жыхары, у 1996 годзе - 226, у 2004 годзе - 175. Праз 100 год - на першае студзеня 2020 года засталіся 93 жыхары…***

*Зямля ўрадлівая, а людзі*
*тут працавітыя былі…*
*Чаму так ёсць, што з намі будзе?*
*Як нам пазбавіцца бяды?*
*Вайны няма, а мы знікаем,*
*гадоў за дзесяць на мільён,*
*Людзей у краіне мы губляем,*
*ці ў год па вёсцы на раён.*

# Успаміны пра Лідчыну на пачатку XIX ст.

## Дзённік дамініканскага візітатара (фрагмент)[1]

*Ад перакладчыка. У дзённіку дамініканскага візітатара маюцца цікавыя звесткі па гісторыі нашага краю. Аўтар дзённіка - правінцыял ордэна Дамініканцаў, але яго імя ў публікацыі не ўказана.*

**1822 г., лістапад.**

6. Выезд з Гародні праз Скідаль міма маёнтка пана Заха, на начлег у карчме Андрушаўцы[2]. Карчма дрэнная, панства Нарбуты запрашалі на начлег да сабе ў маёнтак.

7. Праз Шайбакполе прыехалі ў Васілішкі.

8. Васілішкі - пачатак візітацыі.

9. Выслана пошта да Ліды. Гасцяванне заняло цэлы дзень. Дні стаяць дажджлівыя і цёплыя.

12. Вялікі вецер. На кватэру прыйшлі людзі, яны плачуць, у мясцовасці голад. Exekucya[3] ў яўрэяў неміласэрная, яўрэі давялі да апошняй галечы.

13. Дождж. Людзі Васілішак, ачмураныя некаторымі злымі людзьмі, падалі скаргу на прыёра[4], сабралі шмат подпісаў. Але многія нічога не зналі пра скаргу. Людзі ў Васілішках сапсаваныя блізкасцю горада і яўрэямі. Зладзейства і п'янства для большай часткі сталася звычайнай з'явай.

14. Прыгожы дзень. Мароз.

15. Ранні выезд праз Мыто[5]. Мыто калісьці было прыгожым і добраўпарадкаваным мястэчкам: карчма дзедзіча васпана Паца, зараз карчма заняпала, стаіць паштовы дом, уніяцкая царква, як руіна, грэбля ў дрэнным стане. Паснедалі ў крупаўскай карчме. Нікчэмна, належыць Скіндарам. Ліда засталася па правай руцэ. Начавалі мы ў карчме ксяндзоў піяраў, карчма была б зручная, калі б не прусакі - казуркі занесеныя з глыбіні Расіі ў Літву. Гэтая казурка завецца прусаком таму, што яна тут з'явілася такім чынам: была прынесеная азіяцкімі ордамі падчас паходу рускіх на Прусію[6], у валадаранне царыцы Лізаветы[7].

16. Дзень пахмурны. Каля шостай гадзіны выехалі з начлегу, у лесе каля Салешнікаў нас спаткалі людзі, адзін хаваўся у рове, другі ішоў з лесу. Коні панеслі і толькі выпадкова не нарабілі шкоды. Вандроўнік папрасіўся на службу, але, пэўна, намер меў скарыстацца з паламаных вазоў. Начлег меў у карчме каля млына панны Гараінавай.

## Вольныя абразкі, 1821 г.[8]

Зімовыя кватэры нам вызначылі ў Гарадзенскай губерні: штабу дывізіі - у Лідзе, а штабу палка - у Беліцы. Я кватараваў у фальварку[9] каля Ішчалны, што належаў у той час удаве Лясковіч[10], якая мела дарослую дачку, панну Францішку[11]. Уваходзячы ў вялікі салон, заўважаем на сцяне вялікую залатую раму, але

[1] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1904. Т. 14. С. 136-137.

[2] Андрушаўцы (Andruszowce), васпана Ельца двор, вёска і дзве карчмы, капліца ўніяцкая, у напрамку паміж поўначчу і летнім усходам, чвэрць мілі ад Ляцкага касцёла - Гл: Вопісы парафій Лідскага дэканата ў 1784 г. // Лідскі летапісец. 2013. 2 (62). С. 41.

[3] У дадзеным тэксце слова мае сэнс "эксплуатацыя".

[4] Прыёр - тытул настаяцеля невялікага мужчынскага каталіцкага кляштара або старэйшага пасля абата-настаяцеля члена манаскай супольнасці (першага памочніка абата). Манастыр, у якім мае месца жыхарства прыёр, называецца прыёрства.

[5] Мыто (Myto), мястэчка і ўніяцкая царква васпана Паца - Гл: Вопісы парафій Лідскага дэканата ў 1784 г. // Лідскі летапісец. 2013. № 4 (64). С. 32.

[6] Руска-пруская вайна 1757-1762 гг. Гл. па тэме: Лаўрэш Леанід. "На жаль, у нас не водзяцца гэтыя звяркі..." Якая армія прынесла ў Беларусь тараканаў? // Наша Гісторыя. 2020. № 5. С. 89-91.

[7] Лізавета Пятроўна (1709-1761) - расійская імператрыца з дынастыі Раманавых..

[8] Luzne obrazki. Rok 1821 // Ziemia Lidzka № 12-1937. Фрагмент з кнігі: Розен Андрей. Одиссея недавних дней: В ссылку. Москва, 1899.

Аўтар, чалавек з арыстакратычнай эстляндскай сям'і, 20 красавіка 1818 г. атрымаў чын падпаручніка лейб-гвардыі Фінляндскага палка, а ў красавіку 1821 г. разам з усім корпусам гвардыі маршыраваў з Пецярбурга ў "Літоўскую губерню", адкуль вярнуўся ў 1822 г. За ўдзел у гуртках "декабристов" у 1826 г. яго судзілі, пазбавілі правоў і саслалі ў Сібір. Пасля доўгіх гадоў выгнання вярнуўся дахаты і дажыў да сівой старасці.

[9] Фальварак Баяры, за 3 вярсты ад Ішчалны.

[10] Пра Караля Валя гл. успаміны Мірона Браніслава Нарбута.

[11] Элеанора Лясковіч з Шукевічаў, удава па мужу Каралю. Караль Лясковіч, з 1802 г. маршалак Лідскага павета, памёр у 1818 г. Іх дачка Францішка, дзедзічка Ішчалны, Ваверкі, Баброў і г.д., выйшла замуж за Антона Скарбак-Важынскага, маршалка Цельшаўскага павета. Была знанай і паважанай арфісткай. Др. Юзаф Франк, апавядаючы пра арганізаваны ім дабрачынны канцэрт у Вільні ў 1815 г., заўважыў: "Панна Лясковіч, дачка маршалка, абяцала граць на арфе" (Pamiatniki. Wilno, 1913). Гэта слаўная арфа цудоўнай італьянскай работы ўпрыгожвала салон у ішчалнскім палацы яшчэ ў 1915 г. - Заўвага публікатара артыкула ў "Лідскай зямлі" Міхала Шымялевіча.

ў ёй не абраз, а толькі надпіс на пергаменце: *"У такім і такім годзе, месяцы і дні Аляксандр I Дабраславёны сваёй прысутнасцю ўганараваў замак Ішчална"*. Пасвецку выхаваная дачка гаспадыні паказала мне дыяментавую стралу, падараваную ёй царом, якому яна грала на арфе[12]. Гэты музычны інструмент для добрай акустыкі, меў свой асобны круглы пакой з высокай столлю, гэты пакой знаходзіўся каля салона. Грала панна Францішка з вялікім артыстызмам і пачуццём. У святочныя дні я бываў у іх дамовай капліцы. Кватараваў тады за тры вярсты. Не было куды траціць доўгія вечары, бо можна было толькі граць ў цвіка[13] са старым, які ўгаворваў мяне такімі словамі: "Пан барон, хто не рызыкуе, той не мае". З дачкой (паннай Лясковіч - *Л. Л.*) мы чыталі творы Шатабрыяна і Ламартына. Яна мела ладную служку-яўрэйку, якую навярнула ў каталіцкую веру. Найчасцей і з запалам мы размаўлялі на рэлігійныя тэмы: здавалася мне, што яна разам з пробашчам старалася зрабіць мяне каталіком. Неяк адведаў Маліноўскага, які стаяў са сваёй ротай у Шчучыне. Там звыкла жылі два лекары. Адзін з іх меў прыгожую жонку і, зачараваны яе шармам, я пайшоў на прыступ. Маліноўскі з гэтага поваду жартаваў, што яна была падобна на яго сястру Ганну, якую я ўбачыў першы раз два гады таму, але яшчэ не ведаў, што яна стане маім лёсам.

У Лідзе ў святочныя і нядзельныя дні арганізоўваліся забавы - найлепшая справа для афіцэра у паходзе. Жыхары Ліды і ваколіц прымалі мяне з вялікай сардэчнасцю - тым больш, што мой брат жыў тут ужо два гады як ад'ютант Літоўскага корпуса. Для павелічэння танцавальнай залы разабралі сцяну і злучылі два сумежныя пакоі. У выніку, у сярэдзіне залы утварылася невялікая ўпадзіна, і мы, танцуючы вальс, уздымаліся ўверх і ўніз, але гэта не перашкаджала танцам і весялосці пад музыку яўрэйскага аркестра і пры святле сальных свечак. Як заўжды танцы скончыліся на світанку, і я нават не задумваючыся, дзеля забавы, вярнуўся на места кватаравання якое знаходзілася за 30 вёрст ад горада. Скарачаў сабе шлях толькі мармытаннем розных мелодый. І нічога, нават не адчуў стомы.

У снежні рота Маліноўскага вартавала штаб палка ў Беліцы. Той час і гэтае мястэчка засталіся ў маёй памяці назаўжды. У штаб звыкла з'язджаліся гульцы, і тут гулялі мы ў карты - у банк і штос. 14 снежня 1821 г. за адзін вечар, ці дакладней за адну ноч, я прайграў усю маю гатоўку і ў дадатак значную суму ў доўг. Я быў, як аслеплены, мне бракавала сілы волі, і я ўсё шукаў выпадак, каб адыграць усё назад, але ўсё больш пагружаўся ў даўгі. Нешчаслівую тую схільнасць да гульні ў карты я перасіліў у сабе толькі да 1823 г. Ад таго часу сплыло шмат гадоў, і ніколі болей я не гуляў у азартныя гульні.

У лютым 1822 г. наша рота вартавала штаб корпуса ў Менску. Праз тры тыдні, вярнуліся ў Ішчалну. Камандзір роты, яго высокасць барон Саргер паехаў у адпачынак, а старэйшы за ім афіцэр Румянцаў захварэў, і таму камандаваць ротай даручылі мне. З-за гэтага я пакінуў Ішчалну і пераехаў у мястэчка Жалудок - уласнасць графа Тызенгаўза. Тут два разы на дзень адбывалася муштра.

У траўні 1822 г. корпус гвардыі атрымаў загад вяртацца ў Пецярбург. Маршыравалі праз Вільню, дзе ў прысутнасці цара чатыры дні працягваліся манеўры.

# Лідчына ва ўспамінах Яўхіма Лелявеля[14]

Студзень, 1805 г.

Выехалі з Гародні і некалькі вёрст ехалі чыстым полем … Начавалі ў Мількаўшчыне і, паехаўшы далей, наблізіліся да піва Паца. … ніхто не абміне гэтай карчмы, якую ўтрымлівае Пац, дзе можна атрымаць пацаўскае піва, якое падобнае на варшаўскае, але толькі падобнае.

Шчучын - горад, слаўны піярамі.

Едучы далей, убачылі мураваны двор з дзвюма драўлянымі афіцынамі - было бачна, што гэта раней слаўнае, а зараз занядбанае месца. Гэта Вялікае Мажэйкава. Перад дваром, да брамы, трэба праехаць па ездні паміж двума сажалкамі. Далей на шляху стаіць вялікая мураваная карчма. Мажэйкава належыць Янкоўскаму.

На начлег спыніліся ў Мыто. Гэта вёска, з якой мы ў цемры выехалі рана і пераблыталі дарогу. Але недарма, бо прычынай памылкі была не цемра, а тое, што Казімір Гаваровіч (спадарожнік Лелявеля - *Л. Л.*) недалёка адсюль меў сёстраў, з якімі хацеў сустрэцца. Гэтак фурман дадаў нам вялікі кавалак дарогі. Але магчымасць убачыць Ліду, была добрай платай за памылковы выбар дарогі з Мыто[15].

Ліда - мураваны горад з драўлянымі сценамі[16]. Тут ёсць толькі мураваныя касцёлы, з іх піярскі касцёл

---

[12] У Лідскім павеце, імператар пешшу наведаў Ішчалну - маёнтак Караля Лясковіча, піў з Лясковічам гарбату, слухаў ігру дачкі гаспадара Ішчалны на арфе. Каля Ішчалны рускі імператар інспектаваў 4-ы корпус генерал-ад'ютанта Шувалава (штаб у Васілішках), які складаўся з 11-й і 23-й пяхотных дывізій, аднаго гусарскага палка з 2-й кавалерыйскай дывізіі і дзвюх артылерыйскіх брыгад. - Гл: Бутурлин Д. История нашествия императора Наполеона на Россию. Т. 1. С. Петербург, 1837. С. 88 - 89.

[13] Цвік - картачная гульня.

[14] Listy Joachima Lelewela : oddzial pierwszy: listy do rodzenstwa pisane. Poznan, 1878. T. 1. S. 43-44, 338, 340, 421-422.

[15] З Мыто ў Вільню Лелявель павінен быў паехаць па так званым Мытлянскіму тракце праз Заполле і далей праз Жырмуны. Але збочыў на Ліду.

[16] Гэта метафара Лелявеля кажа пра наяўнасць мураванага замка з касцёламі ў цалкам драўляным горадзе.

ужо 6 гадоў як накрыўся дахам і белым пакрыццём[17]. Апрача гэтых двух з паловай касцёлаў[18] ёсць яшчэ замак з чатырма высокімі сценамі, які сведчаць што Ліда была горадам літоўскіх князёў і мела здольнасць да абароны. Па рагах замка стаяць разваленыя вежы, з трох бакоў замка цячэ рака Лідзейка[19], а за замкам - драўляная пустая царква[20]. Больш няма мураваных пабудоў, толькі адна карчма мае мураваную пярэднюю сцяну. Корчмаў шмат, і яны новыя. У Лідзе Казімір сустрэўся з сёстрамі, пасля чаго мы паехалі далей і спыніліся ў Жырмунах, княстве князя Радзівіла. Недалёка стаіць княскі двор, а каля драўлянага касцёла з мураванымі калонамі маецца дзве карчмы. У адной з іх мы спыніліся і дачакаліся астранома Пачобута. Адсюль мы паехалі разам, але ён раней за нас прыехаў у Вільню.

Слаўнае мястэчка Воранава мінулі кругам і начавалі ў Беняконях. Тут дзве карчмы за некалькі крокаў адна ад другой. Адна карчма з чырвонымі вокнамі. Была нядзеля і таму мы разам з Пачобутам паслухалі імшу і паехалі далей. Мінуўшы Малыя і Вялікія Салешнікі мы патрапілі ў карчму "Альжбета", якая славілася абдзіралаўкай. Гэта тая карчма, у якой адразу пасля яе пабудовы, гаспадар пільнаваў, хто ж першы ў яе ўвойдзе. Першай ўвайшла кабета Альжбэтка, чым і надала карчме сваё імя. Такім чынам яна ўвекавечылася на той час, покуль будзе стаяць карчма. Вечарам прыехалі ў Вільню і, хоць была ноч, распакавалі рэчы.

…

Студзень, 1821 г.

[На шляху з Слоніма] … пасля перавозу цераз Нёман перамагалі пяскі. Пад'язджаючы да Ліды пачалася горшая дарога, грэблі разгразліся, а ў самой Лідзе ўтварылася страшнае балота, бо тут дрэнны брук. Гэта была нядзеля. Стаяла дрэннае надвор'е, і дні былі прыкрыя і шэрыя. Буда нашай карэты бараніла ад ветру, які дуў у тыл. […]

Праўдай з'яўляецца тое, што дарогі зараз не спакойныя. Каля самай Вільні знойдзена разбітая брычка. На той дарозе, якой мы ехалі ў ваколіцах Ліды, бачылі брычку са слядамі разбою, без каня і людзей. Кажуць, што на іншым тракце каля Мерачы знайшлі двух забітых маладых Бярэтаў - сыноў варшаўскага архітэктара і віленскага муляра.

….

Кастрычнік, 1824 г.

… Уначы … перапраўліся цераз Нёман і даехалі да тракту, які вядзе з Гародні ў Вільню. Ужо было зразумела, што да шабата (яўрэйскае рэлігійнае свята, у дадзеным выпадку маецца на ўвазе субота - *Л. Л.*) мы да Вільні не даедзем, і таму павярнулі на Ліду, дзе патомак Арона (яўрэй-фурман -*Л. Л.*) меўся адправіць набажэнства. Тут Анацэвіч[21] меў сястру, якая была замужам за доктарам медыцыны Счубам, таксама тут ён меў знаёмага палкоўніка і таму затрымаўся ў Лідзе. А я тым часам пасярод чатырох муроў замка … даскanала і спакойна, без кантат і клёкату Жэготы (мянушка прафесара Анацэвіча - *Л. Л.*) чытаў граматычныя абсервацыі Мразінскага[22]. Хутка субота закончылася, і ўначы мы рушылі ў Вільню. Аднак з'явіліся іншыя праблемы, горшай з якой было сапсаванае кола. У поўдзень спыніліся ў Яшунах дзе жыве Міхал Балінскі - зяць Снядэцкага … .

***Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша.***

---

[17] Верагодна, маецца на ўвазе белы тынк.

[18] Касцёлы: фарны, кармеліцкі і трэці, недабудаваны, піярскі - адсюль "два з паловай касцёлы".

[19] Насамрэч рэкі Лідзейка і Каменка.

[20] Грэка-каталіцкая царква Уваскрасення Госпадняга.

[21] Анацэвіч пісаў пра Ліду падчас праезду яго праз адну частку Гарадзенскай губерні ў ліпені і жніўні 1822 г.: *"На шляху з Вільні ў Ліду мястэчка Жырмуны абазначае мяжу паміж рускай* (беларускай - *Л. Л.*) *і літоўскай мовамі. Аднак, у ваколіцах ёсць адна вёска, дзе жыхары размаўляюць па-літоўску, хоць навокал пануе руская мова* (беларуская - *Л. Л.*) *На жаль, я не меў часу наведаць у Лідзе архіў, вельмі старажытны …"*. Цыт. па: Габрусевіч С. А., Марозава С. В. Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна, 2005. С. 186.

[22] Юзаф Мразінскі (1784-1839), польскі генерал і мовазнавец. Лелявель, верагодна, у Лідзе чытаў яго нядаўна надрукаваную кнігу: Mrozilski Jozef. Pierwsze zasady gramatyki jazyka polskiego. Warszawa, 1.

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

***Сям'і, сябрам, суайчыннікам
і ўсім сваім вучням і вучаніцам,
а таксама ўнукам і ўнучкам
прысвячае
бабуня А. Табенская.***

*Не заўсёды бяжыць жыцце,
Роўненька прастуе,
Не заўжды яго дзясніца
Шчасце нам рыхтуе.
Для адных - дык светла, ціха,
Слодыч успамінаў,
Для другіх - нядоля, ліха,
Быццам Бог іх кінуў.
А ўсё ж з дзённіка выгнанкі
Шмат для павучання
З чорных начаў, шэрых ранкаў
Возьмеш пры жаданні.
Нават сёння з тых цярпенняў
І шляхоў нядолі
Возьмем новым пакаленям
Моц для новых ролляў.
Мала думаць, мала марыць,
Справы, справы трэба:
Мужных чынаў, цяжкай працы...
Рэшту дасць нам неба.*
J. S.



***Альжбета Табенская***

**Да чытачоў**

Толькі той, хто правёў доўгія гады на выгнанні, далёка ад Бацькаўшчыны - сям'і і суайчынікаў - у болі і тузе, толькі той здалее зразумець, якім шчасцем ёсць вяртанне на радзімую зямлю!

Бо каго зычлівасць родных, прыяцеляў, знаёмых і нават незнаёмых суайчыннікаў прывітае так цёпла і сардэчна, а спагада высакародных людзей сваёй апекай так аточыць, як мяне - выгнанку, якая вярталася на Бацькаўшчыну, атачыла, той забудзе пра боль мінулага. Дабраславенна для Бацкаўшчыны жыць, працаваць і цярпець, дабраславенна вярнуцца на яе лона, каб пры гаснуўшым ужо жыцці пачувацца блізка да сэрца Маці і засынаць з той думкай, што спачынеш сярод сваіх - на лоне радзімай зямліцы.

Вільня - мая радзімая! Кракаў і Варшава ў абдымкі свае мяне прынялі!... Загаіліся тут крывавыя язвы, і раны сэрца супакоіліся ад болю... Варшава на працягу дванаццаці гадоў дала мне ўсё, што патрэбна для душы і цела. Маю тут да канца жыцця прытулак, і пляменнікам маім, сіротам па бацьку-выгнанцу ў прыстасаванні да працы дапамагаю. І Кракаў тых кроўных маіх абдорвае. Вільня, сама ў нядолі, хоць не можа дапамагчы, памяццю сваёй і зычлівасцю суцяшае і абдорвае.

Кроўныя мае, пляменнікі, унукі і ўнучкі, прыяцелі, вучні і вучаніцы, старэйшыя, малодшыя і дзеці з захапленнем і спачуваннем слухалі мае апавяданні, а паколькі я не магла ўсіх сабраць і ўсім, хто хацеў мяне пачуць, распавесці, абяцала, што некалі пра долю маю і нядолю напішу.

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле "З долі і няволі. Успаміны выгнанкі". Кракаў, 1897.

Жыццё кацілася цяжкім колам, і акалічнасці не складваліся спрыяльна, таму абяцанне маё не магло ажыццявіцца раней. Думкі той, аднак, я не пакінула і прагнула з маіх успамінаў аснаваць змест беднай, але праўдзівай гісторыі жыцця. Дзеці любяць чытаць цікавыя, поўныя казачных і выдуманых здарэнняў аповесці - чытаюць столькі, чаму ж бы не мелі прачытаць некалі і тое, што было праўдай і пераплялося не ружамі, а цернем.

Няздарнае гэтае маё пісанне сёння, можа, з ні адной крытыкай не спаткаецца. Можа, таксама, ні адно халоднае сэрца не зразумее і не ўспрыме той думкі, якая мной кіравала. Знойдуцца аднак і такія, якія прачытаўшы ўспаміны выгнанкі, параўнаюць сённяшняе жыццё з днямі мінулага і зразумеюць, што нават такой дробяззю, такой пясчынкай, як мае ўспаміны, пагарджаць не трэба, бо і са спаеных пясчынак паўстаюць горы, а з жыцця адзінак сплятаецца жыццё народа.

Не вымагайце ад гэтай маёй працы дасканаласці, калі сонца заходзіць - цемра распасцірае навокал свае крылы. Калі жыццё дагарае, цямнее ўжо розум, гасне зрок, тупее слых, пяро дрыжыць у руцэ, і думка не мае крылаў для палёту. Сэрца, адно сэрца б’ецца аднолькава, адной любоўю да Бацькаўшчыны гарыць, адным нектарам нязломнай веры напіваецца. Гэта сэрца не ўцішанае, ні супакоенае, гэта сэрца яшчэ і цяпер у змроку гадоў сівой старасці прагне дзейнасці, і яно прагне падаць унукам з шэрых успамінаў тоненькую тканку.

Прыміце ад мяне тое, што вам магу сказаць: “Чым хата багата - тым рада”.

І будзьце перакананыя, што да апошняй хвілі жыцця вас кроўных - далёкіх і блізкіх - і ўвесь мой народ, усю Бацькаўшчыну любіла і люблю горача і шчыра.

Бо да вас, малодшых, да моладзі звяртаюся з сардэчнай просьбай: “Любіце Бога, святую веру, Бацькаўшчыну і цноты! Шануйце час, як рэч найдаражэйшую, бо за кожную хвіляй маем здаць справаздачу перад Богам, і з кожнай хвіляй жыццё наша праходзіць, а чалавек ёсць панам толькі гэтай хвілі. Хвіля, якая прыйдзе, - няпэўная, а якая прайшла - не вернецца. Будзьце паслушнымі бацькам і старшым, бо непаслушэнства, з якога звычайна паходзяць кепскія ўчынкі, засмучаюць іх і аддаляюць ад вашага дома Божае дабраславенства!”

Пасля майго вяртання ў край я са смуткам заўважыла, што цяпер наступілі вялікія змены ў паводзінах дзяцей адносна старэйшых. У мае часы дзеці мусілі слухаць старэйшых і ісці за воляй дасведчаных людзей. Сёння бацькі стараюцца ўгадваць думкі сваіх дзяцей, дагаджаць ім, і старэйшыя паддаюцца, каб імі кіравалі капрызы дзяцей.

Страх Божы, які ёсць пачаткам усялякай мудрасці, быў прышчэплены нам змоладу. Сёння шырыцца ігнараванне рэчаў святых і вялікіх, а моладзь мае сэрцы, перапоўненыя самалюбствам. Гультайства і фанабэрыя ўзялі верх над прастатой і працавітасцю. Ідэалы сёння высмеяны, матэрыялізм пастаўлены на першае месца. Жыццё сёння не сягае ў глыбіню духу - у думку і сэрца, не шукае праўдаў - ахвяраў і вялікіх чынаў, а задавальняецца тым, што лёгкае, зручнае і выгаднае. Вы, хто ёсць будучыняй народа, глядзіце ўважліва, каб з пустатой у сэрцы і душы не ісці да таго заўтра, пра якое ніхто не ведае, якім яно быць можа.


Z doli i niewoli

wspomnienia wygnanki

KRAKÓW.

Некалькі гэтых думак маіх няхай будуць вам перасцярогай і развітаннем. Маё сонца нахілілася да захаду, неўзабаве згасне, ваша няхай узыдзе высока і азалоціць праменямі цноты - любові і веры - вас і любую Бацькаўшчыну.

Развітваюся з вамі ўсімі, даючы невялічкі падарунак і дабраславенства, накрэсленая дрыжачай рукой. Любіўшая вас да апошняй хвілі жыцця цётка і бабка

А. Табенская.

9 чэрвеня 1897 г.

**I**

Бацькі мае, Тэкля з Навіцкіх і Міхал Табенскі мелі малую вёску Рудаў у Віленскай губерні, Лідскім павеце, Васілішскай парафіі. Вёска тая была за 4 вярсты ад касцёла, у які мы ездзілі разам з бацькамі ў нядзелі і святы. Ад вёскі вяла дарога да прыгожага ляску, які называўся барком, барок гэты, малы абшарам, меў выдатныя сосны са ствваламі такімі тоўстымі, што нас чацвёра дзяцей, узяўшыся за рукі, абняць іх не маглі. Праз барок праходзіў шырокі гасцінец з парафіяльнага мястэчка Васілішкі на Забалаць. У барку, які быў для нас наўлюбёнейшым месцам забаваў, сядаліся мы летняй парой з бацькам, і ён нам у той час апавядаў шмат прыгожых і цікавых рэчаў.

Бацькі нашы, сумленныя і працавітыя людзі, якія карысталіся павагай навакольных жыхароў, дзяцей сваіх выхоўвалі сурова; грымасы, капрызы, непаслухмянасць бацькоўскім кодэксам былі нам забароненыя, а няхай бы толькі бацечка на нечым падобным нас злавіў, адразу была ў рабоце розга, бо па-першае: “Розгай Дух Святы дзетачак біць раіць!” Наколькі памятаю, было нас у той час у доме чацвёра дзяцей: найстарэйшая сястра Віцуся, жывая, смяшлівая, вясёлая, але, нажаль, слабая на розум. Бедная сястрычка, маючы ледзве чатыры гады, упала два разы са стала на галоўку і так нешчасліва, што адразу анямела. Толькі праз некаторы час мова пачала вяртацца, але ўжо нейкая невыразная: розум відочна аслаб, бо бедалага паняцця ні пра што не мела, і не можна было яе навучыць ані чытаць, ані пісаць, ані нават лічыць да дзесяці. Другая сястра Амілька была добрым дзіцяткам і свааёй мілай знешнасцю латва да сябе сэрцы прыцягвала. Была яна фаварыткай нашай маці і кузінаў, якія нас адведвалі летам. Потым па чарзе ішла я, а за мной Костусь, вельмі растаропны і добры хлапчына. Найстарэйшага брата Аляксандра ў гэтую эпоху я не памятаю, быў ён у кузіна нашай маці Фрыдэрыка Нарбута, дзе яму было не вельмі добра. Алесь вярнуўся дадому вялікім ужо хлопцам, з якім мы, дзеці, баяліся прывітацца. Праз нейкі час прыбыў нам яшчэ адзін брацік, якому на святым хрышчэнні далі імя Цыпрыян. Дзядзіна наша, прысутная на хрысцінах, сказала маёй маці, што возьме мяне на выхаванне; я не разумела яшчэ значэнне гэтага выразу, але з падказкі маці за абяцанне падзякавала. З гэтага часу я пачала вучыцца чытаць, навука ішла някепска, а калі яшчэ знаёмы пан Бернатовіч падараваў мне малюткую святую гісторыю з малюнкамі, радасць мая не мела межаў. З цікаўнасці да значэння малюнкаў я ўчытвалася, хоць з цяжкасцю, у маю кніжачку, шкадавала Авеля, аплаквала яго смерць, гневалася на Каіна, цешылася, што Ісак пазбег ахвярнай смерці, а потым з нецярпеннем чакала прыходу бацькі на абед, каб яму распавесці, што ў маёй кніжцы вычытала.

Бацька наш быў вельмі заняты сельскай гаспадаркай, аднак у вольныя хвіліны, калі мы з Костусем падбягалі да яго, тлумачыў нам сельскую працу, вучыў, як называецца начынне і для чаго служыць; як зерне сеецца і якія стадыі праходзіць, пакуль не ператворыцца ў смачны хлеб. Гаварыў нам бацька пра дрэвы і кветкі, плады, грыбы і ягады, а я, даведаўшыся, што ўвесь гэты свет, такі прыгожы, створаны рукою Бога, набралася ўяўлення пра дабрыню і ўсемагутнасць божую; пастанавіла любіць таго добрага Творцу, старанна вучыцца і навучаць іншых, як мяне мой бацька навучаў. Маючы пяць гадоў, я ўмела ўжо чытаць, таму дарагая маці мая вырашыла, што я павінна вучыцца працы. Першая праца была работа на двух прутках, патлумачаная маці і бацькам, які яе сам так добра ўмеў, што і мяне вельмі хутка навучыў. З таго часу што дзень давалі мне пэўнае заданне, па сканчэнні якога я магла рабіць, што захачу. Таму я з любімым брацікам Костусем гуляла і размаўляла; сёстры Віцуся і Амілька любілі займацца гаспадаркай, наймілейшая для нас усіх аднак забава была вясной і летам у агародзе. Быў там велізарны дуб, разложысты, з пнём, спарахнелым унізе. З дапамогай пастушка нашага Юзафа Лапешы і габрэя Мендалька, чые бацькі ў нашага бацькі арандавалі карчму, якая знайходзілася пры гасцінцы, ачысцілі дуб унутры і зрабілі канапку з дзёрну. У тым салоне мы гулялі ў госці, наносілі сабе візіты, спраўлялі прыёмы, на якіх фігуравалі моркаўка і рэпка, парэзаныя на танюткія кружочкі, што замянялі цукеркі; кавалак дошкі служыў за паднос, а ліпавыя і іншыя лісты - за сподкі; дадаваць не трэба, што нажы і відэльцы мелі натуральныя. Часам мы мелі больш пышныя прыёмы, калі любімы наш дзядуня, Алойзы Табенскі, прыносіў нам сапраўдных абаранкаў; дзядуня быў госцем нашым наймільшым, у дадатак да прыемнай постаці такі добры, лагодны, ніколі не бачыла, каб ён гневаўся. Не было для нас больш прыемнай гасціны, як ва Укольніках у дзядуні і дачкі яго Матыльды, якая з мужам і двумя дзецьмі: Юзем і Зосяй жыла пры дзядулі.

І зноў неўзабаве адбылася ў нас новая змена. Пан Бог даў нам маленькага браціка Мечыслава, цяпер ужо ў добрым веку ксендза каноніка, які жыве ў Рызе. Да хрышчэння яго трымалі Аўгустын і яго жонка Навіцкія, вельмі сумленыя людзі і шанаваныя нашымі бацькамі, Францішак Якімовіч і яшчэ адна кума, чыё прозвішча не памятаю. З гэтай урачыстасці адна акалічнасць асабліва ўрэзалася мне ў памяць: неяк перад хрышчэннем ніхто не падумаў пра выбар для браціка патрона - калі пры цырымоніі ксёндз запытаў, якое імя будзе мець дзіця, хрышчоныя бацькі, не падрыхтаваныя, адразу не адказалі, я ведаючы ўжо трохі польскую гісторыю і палюбіўшы Мечыслава І за ўвядзенне святой веры ў наш край, з усёй сілы закрычала:

- Мечыслаў!

Тады ксёндз зрабіў заўвагу, што яшчэ павінны абраць другога, больш вядомага святасцю патрона - я зноў адазвалася:

- Францішак, - бо гэта было адно з імён хрышчоных бацькоў, пана Якімовіча.

На хрышчэнні браціка Меці прысутнічаў кс. Дамінік Бурачэўскі, апошні з аа. дамініканцаў васі-

лішскага кляштара, які даўней належаў аа. францішканцам.

(У тым кляштары жыве цяпер нейкі бацюшка са сваёй сям'ёй. Васілішскі касцёл аддадзены пад царкву, так выслужыўся кс. Сільвестр Шмігер, тамтэйшы пробашч. Бо мог абараніць васілішскі касцёл ад забрання, калі прымусілі да вырашэння таго, які касцёл мусіць быць ператвораны ў царкву - ці гэты дамініканскі, абдараны ад святой сталіцы многімі ласкамі і святамі, які меў цудоўныя абразы Маці Божай у вялікім алтары і святых панскіх з двух названых ордэнаў - ці той малы, стары касцёлік, прылеглы да плябані і аддалены ад мястэчка Васілішкі за вярсту? Пробашч, нягледзячы на моцныя просьбы і ўгаворы васілішскіх жыхароў, нягледзячы на тое, што хочучы захаваць касцёл сабралі складкі ў памеры 2000 рас. руб. для спраўніка, які таксама хацеў гэты касцёл ураттаваць, пробашч той, ад якога залежала выказванне просьбы, згадзіўся, нажаль, аддаць васілішскі касцёл! І бедалага за ўчынак свой пры жыцці ўжо пакутуе! Жыццё сваё праводзіць у апошняй нястачы, не маючы нават за што купіць папяросаў, так што толькі недакуркі па падлозе збірае! Такія дзіўныя, але справядлівыя дзеі Боскія.)

Ад часу, калі нам прыбыў наймалодшы брацік, найбольшай уцехай Костуся і маёй было сядзець пры ім, прыглядваць за ім і марыць, кім гэта ён будзе, як вырасце. Аднаго разу, прыйшоўшы на звыклае наша паседжанне, мы засталі маці моцна плакаўшай; на від яе смутку і мы пачалі плакаць, а маці нам сказала з болем:

- Няма ўжо дзядзевай нашай, памерла! Малыя яе сыночкі сіротамі засталіся.

Мы прасілі нашую матухну, каб супакоілася, а калі гэта не дапамагло, пабеглі да бацькі, які, апавешчаны пра няшчасце, ішоў якраз дадому. Расказалі яму пра смутак маці і прасілі распавесці нам, чаму дзядзіна памерла, што з ёй цяпер будзе, што значыць быць сіротамі? Бацька ў кароткіх словах нам тое вытлумачыў, за што мы яму былі ўдзячныя, бо ў нашым узросце (я мела 8 гадоў, а Костусь - 5) нашыя паняцці ў другі свет яшчэ не сягалі. Неўзабаве за гэтым прыехаў да нас дзядзька Навіцкі, смутны, бледны. Маці наша прывітала яго не з радасцю, як звыкла, а са слязамі. Пасля прывітання дзядзька сказаў:

- Жонка мая абяцала табе, сястра, узяць на выхаванне Альжуню тваю. Бог у мяне жонку забраў да сябе, а без яе не магу выхоўваць дзяўчынку. Хачу, аднак, выканаць тое яе пажаданне, таму прашу: дайце мне на выхаванне Костуся. Я буду мець пры маіх хлопцах прыстойнага старога француза, які будзе заўсёды з дзецьмі; Марыся - добрая кабета, кухарка, жонка Міхала будзе іхняй нянькай, я буду старацца і маці ім замяніць.

Дзядзька і наша маці пачалі плакаць абое, сардэчна абдымаючыся, маці падзякавала дзядзьку, гаворачы аднак, што не ведае, ці бацька згодзіцца. Мы не ведалі, ці з таго цешыцца, ці смуткаваць, але тое, што бацька наш можа праект не дазволіць, вельмі нас зацікавіла. Маці наша даручыла нам знайсці бацьку і папрасіць яго, каб прыйшоў дадому пабачыцца з дзядзькам. Мы заўважылі, што бацька зрабіў гэта неахвотна; маўчаў, калі мы расказвалі пра тое, што дзядзька сказаў маці, а прыйшоўшы не прывітаў дзядзьку з прыязню. Дзядзька адразу ж абазваўся:

- Ведаеш, пане Міхале, пра маё няшчасце?

- Няхай вас пан Бог суцешыць, пане Тадэвушу.

- Я прыехаў да вас з тым, каб узяць вашага Костуся на выхаванне; здольнае гэта і да навукі ахвотнае дзіця, дам яму адукацыю, разам з маімі сынамі выхаваю, і, дасць Бог, выйдзе на чалавека.

- Гэта добра, - адказаў бацька, - але мне хацелася б, каб я мог сам вывесці яго на чалавека; гэта маё любімае дзіця, здольнае, разумнае, да навукі ахвотнае! Хацеў бы, каб атрымаў адукацыю, але не ў стане даць яму яе, а ласкі ад нікога прыняць не хачу! Няхай гэтае дзіця застанецца пры мне, няхай я лёсам яго пакірую, я бедны, няхай і ён будзе бедны. Навучыўшыся панскага побыту, можа б старым бацькам пагарджаў бы! Будзь здароў, пане Тадэвушу, не дам пану Костуся!

І выйшаў без развітання вельмі ўзбуджаны. Дзядзька ад таго амаль змярцвеў, маці яшчэ больш. Мы чулі потым, як бацькі размаўлялі паміж сабой павышанымі галасамі, як бацька закрычаў з абурэннем:

- Брацік твой - пан, а я - шляхціц, я не хачу яго ласкі, няхай аддасць твой пасаг, і я дам Костусю адукацыю.

Скончылася, аднак, на тым, што аддаў Костуся да дзядзькі, сказаўшы маці:

- Вязі сама Костуся, я да брацікa твайго не паеду, скажы яму, што нага мая ў дом яго ніколі не ступіць!

Праз пару дзён дарагая матуля, забраўшы Костуся і мяне, паехала ў Валэйшы, маёнтак дзядзькі. Не спадабаўся мне яго дом; быў непараўнальна большы за наш, але неяк цёмна ў ім было і не так весела, як у нас. Сынкі дзядзечкі то былі прыгожыя, далікатныя хлопчыкі; Костусь быў на многа мацнейшы, меў не такія прыгожыя і далікатныя рысы твару, цела цёмнае і рукі цёмныя, што пры Уладзю і Эмануэльку тым больш было відно. Абедалі ў дзядзькі; пасля яго затрымаліся яшчэ на хвіліначку; надышла нарэшце хвіля ад'езду, мы развіталіся з Костусем, які, уражлівы з натуры, з вялікім жалем з намі расставаўся, і адны ўжо вярнуліся дадому

Некалькі тыдняў прамінула, а я брацікa майго любімага не бачыла! Я займалася цяпер больш работай; навучылася абрабляць хустачкі для носа, рабіць на пяці прутках усю панчоху - занятая моцна працай часу не мела на нуду. Праз некалькі тыдняў мы ўбачылі прыехаўшага дзядзьку з трыма хлопчыкамі, адзінакава прыбранымі. Што за радасць была для нас і для Костуся! Нацешыцца не мог, калі бачыў бацькоў і нас усіх; абдымаў нас цалаваў, хацеў расказаць адразу, чаму навучыўся, колькі ад дзядзькі чуў розных рэчаў, розных апавяданняў і аповесцяў. Пастаянна быў пры бацьку, дэкламаваў яму вершыкі, апавядаў, што бачыў

і чуў. Нарэшце задаў пытанне:

- Бацечка, я ведаю, што гэты дом, гэты барок, гэтыя пчолы - гэта наша, але няхай мне татусь скажа, чаму я ў дзядзькі? Ці мяне бацькі дзядзьку прадалі ці падарылі?

- Не, мой любімы, - адказаў бацька з перажываннем, - ані мы цябе падарылі, ані прадалі, толькі далі мы цябе дзядзьку на выхаванне, каб вучыўся і быў разумны - і бачыш, што ў такі кароткі час многім ужо скарыстаўся, а цяпер, як будзеш добра ўмець чытаць, як дзядзька возьме адукаванага настаўніка, які цябе ўсяму навучыць!

Пацалаваў яго бацька, абняў, як найчулей і не гневаўся ўжо на дзядзьку, бачачы, як Костусю ў яго карысна.

Дзядзечка сказаў бацькам, што не можа пасля смерці жонкі жыць у Валэйшах, што яму невыносна смутна, а вырашыў і даў слова ўміраўшай жонцы, што сам будзе клапаціцца над выхаваннем сваіх сыноў. Не могучы тыя дзве рэчы прымірыць, прадае Валэйшы і мае намер узяць маёнтак Любар у арэнду ад князя Юзафа Любэцкага, які жыве ў Шчучыне, парафіяльным мястэчку, якое з’яўляецца яго ўласнасцю. Была там некалі слаўная школа аа. піяраў, дзе вучыліся наш дзядзька і амаль усе жыхары нашага павета, з якіх, падобна, ужо ніхто не жыве. Бацькі мае прызналі слушным, што дзядзька зменіць Валэйшы на Любар, бо першыя прыгняталі яго балючымі ўспамінамі, а другі прыпамінаў яму любы школьны час. Дзядзька пакінуў сваіх хлопчыкаў у нас, а сам паехаў у Шчучын для заключэння дамовы з князем Юзафам Любэцкім. Мы вельмі абрадаваліся, што брацікі засталіся з намі, забаўляліся весела, і ніколі нам для забаваў тэм не забракла. Праз некалькі дзён дзядзька вярнуўся і сказаў, што ўмова ўжо заключана і што ён неўзабаве выедзе ў Любар. Выезд той неўзабаве наступіў; забраў дзядзька і нашага Костуся, з якім мы ад таго часу бачыліся толькі на ўрачыстыя святы, у час якіх дзядзька разам з сынкамі і брацікам нашым звык нас адведваць.

Мы ж пачалі патроху вучыцца. Маці наша старалася даць нам нейкае такое выхаванне, каб мы пры заможных нашых сваяках не выдзяляліся невуцтвам.

У Шчучыне быў кляштар Сясцёр Міласэрнасці, фундацыі графіні Сцыпіён, бабкі князёў Юзафа і Аляксандра Друцкіх-Любэцкіх. Манахіні мелі ў тым кляштары школы: адна называлася “Клас польскі”, другая - “Клас французскі”. З гэтага кляштара маці прывезла маладую, прыгожую і ветлівую паненку, якая мела быць у нас на канікулах, а пазней выехаць на ўмоўленую пасаду. Паненка тая нам падабалася, але не было ад яе ніякай карысці; маладзенькая, сама не ведала, што мела з намі рабіць; пазней была другая, старэйшая за яе, тая вучыла нас патроху, але несумленна, нядбала, больш была занята ўласнай работай, на нас зусім не звяртала ўвагі, мы рабілі, што нам падабалася. Бацькі з даверам уручылі ёй нас, не дапускаючы нават думкі, каб беручы аплату, можна было быць такой несумленнай. Не лепшай была і трэцяя настаўніца, якая выкладала французскую мову і музыку. Настаўніца тая няўдачна сапсавала сабе рэпутацыю падчас побыту ў апошнім сваім месцы; жыла потым у сваіх знаёмых, якія раілі ёй канешне, каб прыняла месца ў нас, пакуль якой лепшай пасады не знойдзе. Настаўніца на гэта згадзілася, маці старалася даць ёй усялякія выгоды, сабе і нам іх адмаўляючы; і так, напрыклад, мы не пілі ніколі гарбаты, для пані Марыі знайшлася яна як раніцай, так і вечарам. Дзіўныя гэта былі ўрокі з той паняй Марыяй - ніколі нам нічога не расказвала, не тлумачыла; задавала нам звычайна па 10 радкоў ці з катэхізму, ці са святой гісторыі, ці з геаграфіі, гісторыі, што выпадала ў штодзённым раскладзе ўрокаў. Потым ішла ў сад трохі пашпацыраваць, а мы павінны былі за той час урокі падрыхтаваць. Вярнуўшыся з прагулкі пыталася: “Вывучылі ўрокі?” “Вывучылі”, - адказвалі мы. “Ну, то добра, назаўтра вывучыце 10 радкоў далей, якія вам пазначу алоўкам”. Вось такім спосабам адбываліся ўрокі на працягу некалькіх тыдняў.

У той час дзядзька прыслаў нам малое фартэпіяна. Таму пані Марыя вучыла нас патроху музыцы, сама грала шмат і прыгожа, што рабіла нам вялікую прыемнасць. Шкада мне сваю дарагую паню Марыю, нудзілася яна ў нас, бо ніхто тут не бываў, таму што ўсе былі заняты гаспадаркай у полі.

Праз некалькі месяцаў прыехаў дзядзька з дзецьмі: радасці было - не апісаць. Настаўніца, папярэджаная пра прыезд дзядзькі, пачала нас вучыць паклонам; трэба было зрабіць тры крокі ад дзвярэй, а потым прыгожы рэveranс. Мне гэта давалася з вялікай цяжкасцю, бо я была вельмі нясмелай; таму таксама, як дзядзька прыехаў, жагналася са страху перад выхадам для прывітання. Выйшла нарэшце, а калі дзядзька паглядзеў на мяне, так жудасна змяшалася, што, забыўшы пра вывучаныя крокі і пра рэveranс, пацалавала толькі руку дзядзькі, абняла братоў і ўцякла ў другі пакой, плачучы, што ў мяне так не атрымалася.

На другі дзень папрасіў дзядзька, каб пані Марыя Каменская дазволіла яго хлопчыкам праэкзаменаваць нас з таго, чаму мы навучыліся. Пані Марыя згадзілася на гэта; мы паказалі брацікам нашы кніжкі, але былі вельмі прысаромлены, бо нічога нават пачаць не ўмелі; бедны Костусь за нас чырванеў, а Уладзя і Эмануэлак смяяліся, што не веды, а чарот ці капуста расце ў нашых галовах. Костусь і кузіны паўгода мелі вельмі добрага і сумленнага настаўніка; быў гэта студэнт былога Віленскага ўніверсітэта, 10 гадоў назад, у 1825 годзе, скасаванага царом Мікалаем І, нейкі пан Ян Мысліцкі, пляменнік шляхціца Міхала Мысліцкага, які жыў блізка ад Рудава. Вельмі разважлівы, ветлівы, настаўнік па прызванні, быў цалкам адданы сваім вучням: вучыў іх у час прагулак і пры гульні ў садзе, апавядаў ім, як які дзядуня, размаітыя, займальныя і карысныя рэчы. Кузіны нашы і Костусь за гэты кароткі час многае ўжо спасцігнулі, мы ж нічога наогул.

Спыніліся ў канцы на тым, што па парадзе дзядзькі неўзабаве маці адвезла мяне і Амільку ў

Шчучын, бо пані Марыя атрымала вельмі добрую пасаду настаўніцы ў пані падкаморыхі Марачэўскай ва Уніхоўшчыне.

Мяне маці пасяліла ў пані Пелагеі Гурыновіч, а Амільку хацела яшчэ забраць дадому, маючы на ўвазе яе вельмі малады ўзрост. Аднак атрымалася іначай. Мы пайшлі з маці ў кляштар для дамовы са старшай паняй Ганнай Задэйкай пра ўмовы майго прыняцця; тая непараўнальна добрая кабета амаль нічога ад маіх ведаў не вымагала, а, гледзячы на Амільку, спытала ў маці, што з ёю думае рабіць. На адказ, што думае забраць дадому, бо яшчэ малая, пагладзіла Амільку па твары, гаворачы: пакінь яе пані ў нас, маем яшчэ меншую за яе. Маці з удзячнасцю прыняла гэтую прапанову, і з’явілася наступная дамова: за мяне маці нічога за вучобу не плаціла, а за Амільку, якая памяшчалася там на ўсім гатовым, маці была абавязана заплаціць збожжам, бочку жыта і гароху. Так мы пачалі вучыцца сістэматычна, дзякуючы той слаўнай манашцы. Мне добра было ў пані Гурыновіч, а Амілька мела не асабліва добраё жыццё і жыллё.

Дзіўнае ўражанне зрабіў на мяне кляштар, манашкі і іхняя прыгожая капліца, у якой мы штодзень слухалі святыя імшы. Капліца тая падалася мне як нешта надзямное, манашкі - як святыя, здзіўлялі іх пабожныя манеры, канцэтрацыя духу ў час святой імшы, прыняцце святой камуніі, усе паводзіны ў касцёле і класе. Палюбіла іх усёй душой і дагэтуль не трачу найвышшай павагі да духоўных асоб.

Амілька была ва ўступным класе, я паступіла ў першы. У адной вялізнай зале быў польскі клас, дзе шмат дзяцей і вялікіх паненак, вучылася самым розным работам. У канцы той залы вісеў абраз вялікага памеру. Пан Езус дабраслаўляў дзяцей з подпісам: “Дазвольце дзеткам прыйсці да мяне”. У другім класе, які называўся французскім, насупраць уваходных дзвярэй быў павешаны абраз Маці Божай, якая пакрывала сваім плашчом грамадку дзяцей. Акрамя манашак, якія займаліся ўрокамі, настаўніцкі калектыў у Шчучыне складаўся з ксендза-бернардынца, які выкладаў катэхізм, пана Шпакоўскага, які вучыў геаграфіі, і пана Крэдыта - арыфметыка і расейская мова. Былі таксама дзве настаўніцы: пані Станкевіч, якая выкладала французскую мову, і пані Араноўская, асоба з вельмі сімпатычнай знешнасцю. Расклад дня ў нашым пансіянаце быў наступны: мы ўставалі а пятай, а палове сёмай ішлі на святую імшу ў капліцу. Перад тым аднак, сабраўшыся ў адным з класаў, мы станавіліся парамі; дзве манашкі праходзілі каля шэрагу, пытаючыся кожную з нас нешта з катэхізму, пасля чаго ў строгім парадку, парамі мы ішлі на святую імшу і ўкленчыўшы маліліся: вучаніцы французскага класа з правага, а польскага класа з левага боку. Нельга было аглядацца, размаўляць, а толькі мець увагу звернутую на алтар. Па святой імшы адна з сясцёр, містрыня 1-га класа, прамаўляла ўголас літанне да святога Вінцэнтага а Паўло, у пятніцу да Пана Езуса, а ў суботу да Маці Божай. Потым выходзілі ў парадку - пансіянаткі ішлі ў рэфектаж (трапезную), а прыходныя дадому на сняданне. Урокі пачыналіся а восьмай і ішлі да паўдня без адпачынку, а пасля абеду - ад другой да пятай. Навука мне давалася добра, я мела да яе ахвоту, пры тым мела добрую памяць і паняцце. Амільцы таксама няцяжка было, але яна хацела працы і часта ў час урокаў маленькая і міленькая хавалася паміж старэйшых і большых каляжанак, каб рабіць шыдэлкам карункі, за якія ад заможнейшых паненак атрымоўвала нешта з яды. На святы мы заўсёды ездзілі дадому, і так час ляцеў у любімым кляштары, дзе мы з Амількай прабылі два гады. Пад канец другога года нашага там побыту, перад вакацыямі, увайшла аднойчы ў наш клас начальніца, Старшая Панна, як яе ўсе называлі. Мы паўставалі, як звыкла, на яе прывітанне, а яна сказала нам са смуткам:

- Мае дзеткі, пасля вакацый вы ўжо не можаце быць у мяне! Цар Мікалай не дазваляе, каб мы займаліся вашай адукацыяй, такая, відаць, воля Божая! Напішыце вашым маці, каб прыехалі вас забраць.

Мы пачалі плакаць, а Старшая Панна сказала:

- Не плачце, любыя дзеткі, пойдзем у капліцу памаліцца і папрасіць пра апеку над намі.

Мы пайшлі ў тую ж хвілю, а з намі Старшая Панна. Наша сястра-містрыня ўголас прамовіла тры “Ойча наш”, тры “Здровась Марыя” і тры “Слава Айцу”, потым псалом “Хто ў апецы” і літанне да Маці Божай; пасля выхаду з капліцы мы ўпалі на калені перад выходзіўшай Старшай Паннай, 80-гадовай бабуляй, цалуючы ёй рукі і ногі, яна ўжо нічога не гаварыла і ў маўчанні пайшла да сябе.

Неўзабаве прыехала наша бедная маці: паклікалі нас да яе, у пакой, суседні з пакоем Старшай Панны. Маці нашая плакала, начальніца была сумная: улады дазволілі застацца вучаніцам яшчэ на два ці тры тыдні пасля св. Пятра, потым усіх мелі разабраць. У кляштары засталіся рэзідэнткі ці асірацелыя бабулькі, якія мелі пэўны фундуш (сродкі на ўтрыманне) і хацелі закончыць жыццё пад апекай сясцёр міласэрнасці; застаўся яшчэ польскі клас і шпіталь.

Надышоў неўзабаве час развітацца назаўсёды з мілым Шчучынам, шаноўнай Старшай Паннай і іншымі манашкамі, высакароднай паняй Гурыновіч. Шмат слёз каштавала мне гэтае развітанне. Я выехала з найпалымянейшым жаданнем закончыць адукацыю, Амілька - з ахвотай, абы ўжо больш не вучыцца. Так сталася; праз пяць ці шэсць гадоў споўніліся мае мары, аддалі мяне ў Вільню ў пансіянат для заканчэння адукацыі; у тым самым годзе Амілька выйшла замуж за геаметра (землямера) Зыгмунта Урублеўскага. Абое ўжо памерлі, і найменшая іхняя дачка Ядвіга Шмерт памерла, пакінуўшы двухгадовую сіротку Марыхну, якую маю ў думках, пішучы гэты аповед; бо 10-гадовая мая ўнучка старанна вучыцца і вельмі любіць чытаць цікавыя і добрыя рэчы.

Вярнуўшыся са Шчучына, мы былі ў доме нашых бацькоў, у тым часе Пан Бог даў нам сястрычку Антосю, на 14 гадоў малодшую за мяне. Займаліся мы пераважна работкамі, на цюлі гафтавалі ўстаўкі для падшывак; калі работа была скончана, паехала

маці з намі да сваёй прыяцелькі пані Рахелі Знанецкай, якая жыла ў Хадзялоні. Пры пані Рахелі знайходзіліся яе дзве плямянніцы - Аміля і Юстына Шукевіч, дарослыя ўжо паненкі. Там вельмі часта бывалі госці, таму была арганізавана латарэя, на якой наша работка была разыграна. Усе хвалілі нашую працавітасць, старэйшыя паненкі былі незадаволеныя, бо ім цётка пры гасцях ставіла нас у прыклад.

За грошы, атрыманыя ад латарэі, справіла нам маці паркалёвыя салопкі на ваце; дасканала памятаю іх дасюль, так мне падабаліся, што думала, што ніхто падобных не мае. Канешне, ніхто не меў такіх салопак, як нашы; быў гэта, як ужо сказала, паркалік - на чорным фоне блакітныя і жоўтыя досыць вялікія кветкі; пры гэтым пашытыя былі не надта добрым краўцом Лейбкам, які меў аднак тую перавагу, што за работу браў танна, а шыў моцна, што доўга нічога не паролася.

У той час, калі мы так працавалі ў Рудаве, дзядзька Навіцкі доўга ў нас не паказваўся. Ён рабіў старанні, каб памясціць Костуся ў Берасцейскі корпус на скарбовы кошт, а сваіх сынкоў - у школу інжынераў у Пецярбург. Непрыязнь бацькі да дзядзькі ў той час яшчэ больш павялічылася - азнаёміў нарэшце дзядзька бацькоў пра свой намер; паехала маці развітацца з Костусем, а пазней бацька. Хацеў бацька забраць Костуся для развітання з дзядулем Алойзым Табенскім, але дзядзька на гэта не згадзіўся.

Пры ад'ездзе бацькі адбылася прыкрая сцэна; бедны Костусь са слязамі кінуўся да ног бацькі і крычаў з плачам:

- Ойча, забяры мяне з сабой, я хачу з дзядунем развітацца.

Бацька яго падняў і выгукнуў:

- Я не маю права гэтага зрабіць; дзядзька ёсць тваім бацькам, дабрадзеем і ўсім, а я - нічым, я нічога не магу зрабіць!

Акалічнасці склаліся так нешчасліва, што дзядзька не мог выканаць пажаданняў нашага бацькі; быў гэта балезненны ўдар, нанесены беднаму Костусю, невылечная рана, зародак маральных боляў яго сэрца. Адчуваў ён з той хвілі крыўду на маці, што аддала яго дзядзьку, крыўду на дзядзьку, непрыязнь да яго сыноў, якія не адчувалі і не ўмелі падзяліць яго пачуццяў; яго апанавала непераадольная агіда да корпуса, да вайсковай службы, адно ў ім толькі засталося любоў да навукі і любоў да Бацькаўшчыны. Пісаў бацькам сваім у лістах, каб сыноў сваіх малодшых не песцілі, бо ім цяжка будзе прывыкаць да жыцця паміж чужымі. Меў у той час гадоў 9, калі першы ліст з корпуса напісаў. Потым з войска ўжо пісаў да маці: "Я, як расліна, перанесеная на чужую зямлю, невядома мне чуласць мацярынскага сэрца, невядома пяшчота маці!" Костусь заўсёды добра вучыўся і ў 14 гадоў быў першым па вучобе кадэтам. Аднаго разу, калі сталі на муштру ў шэрагі, дяжурны афіцэр зрабіў яму суровую вымову, што мае гузікі на мундзіры кепска пачышчаныя, і, паказваючы на апошняга ў вучобе кадэта, сказаў: "Вось, бяры прыклад з яго!" Костусь на гэта засмяяўся - афіцэр паскардзіўся на яго перад генералам, і брат быў пакараны пазбаўленнем заслуг (меў званне сяржанта) і, наколькі сабе прыпамінаю, на дэградацыю з першага вучня на апошняга. Костусь гэта моцна перажываў, асабліва, калі заўважыў, што калегі пачалі трымацца ад яго наводдаль і як бы пагарджаць ім пачалі.

Пісаў тады да дзядзькі, просячы яго забраць з корпуса, што не хоча ўжо служыць у войску, а будзе ксендзам. Выцерпеў шмат, аж нарэшце супакоіўся. З корпуса кадэтаў у Берасці выслалі вучняў на два гады ў Пецярбург, у так званы Дваранскі полк, для заканчэння вучобы. Костусь пісаў бацькам, просячы іх з усіх сіл, каб прыехалі ў Ліду пабачыцца з ім у час пераезду. Ліст прыйшоў запозна! Іншыя бацькі прыехалі, ён сваіх дарэмна выглядаў, і яго чуллівае сэрца атрымала новую рану.

Калі ўжо закончыў вучобу ў Пецярбургу, перад экзаменамі было паслана са школы запытанне, ці бацькі ў стане забяспечыць сына пры выхадзе ў афіцэры гвардыі, што было першай за вучобу ўзнагародай. Папера тая праляжала на стале маршалка, не адасланая бацькам; ад іншых прыйшлі адказы. Канстанціну адказалі маўчаннем. Таму сказалі яму здаваць экзамен у артылерыю, ужо быў на палове тых з адзнакай здаваных экзаменаў, калі раптам невядома чаму перастаў на іх хадзіць. Не прыпомню, дзе ён у той час быў, дастаткова, што прыехаў да яго пасланы афіцэр даведацца, што такое сталася. Канстанцін, запытаны пра прычыну сваёй адсутнасці, адказаў, што мае парваныя боты і, не маючы за што новых купіць, на экзамен ісці не можа. Афіцэр ветліва з ім пагаварыў, ахвяраваў яму 50 рублёў, просячы па прыяцельску іх прыняць і закончыць экзамены. Паслухаў брат добрай рады, здаў экзамены, стаў афіцэрам і адразу пайшоў на Севастопальскую вайну, там настроены на смерць у любую хвіліну, атрыманае жалаванне адразу адсылаў бацькам, да якіх яго сэрца заўсёды рвалася. Мы ж у той час працавалі з Амількай, каб нешта сабраць на нашую вопратку. Я сумавала па вучобе і паўтарала штодзень патроху тое, чаму навучылася ў Шчучыне; для чытання нічога не мела, толькі кніжкі, па якіх вучылася, да гэтага яшчэ нейкія дзве кніжкі: "Пілігрымка ў Дабрамілю" і "Гісторыю Польшчы", апавяданні дзядзькі плямяннікам, знайшлася таксама аповесць Камілы Нарбут "Мечыслаў і Стэфанія", пакінутая напэўна некаторай з былых настаўніц. Я пастаянна марыла пра тое, каб быць у Вільні ў пансіянаце - бацькі, аднак, не былі ў стане гэтага зрабіць, бо ім бракавала патрэбнага фундушу.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Альфакніга” выйшала кніга Уладзіміра Ліхадзедава “Ліда. Падарожжа ў часе”, 224 ст., наклад 1100 ас.**







**У Чарнігаве ў выдавецтве “Промінь” выйшлі нумары часопіса “Беларускі рэзыстанс”, № 1, 110 ст., № 1 (2), 142 ст., № 1 (3) 186 ст. Наклад кожнага 299 ас.**

**У Варшаве ў выдавецтве “Edipresse Polska S.A.” выйшла кніга “19 дывізія пяхоты. 77, 85, 86 полк пяхоты” з серыі “Вялікая кніга польскай пяхоты. 1918 - 1939”, 96 ст.,**






**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі 15 і 16 тамы “Збору твораў” Уладзіміра Караткевіча, т. 15 - 734 ст., наклад 1000 ас., т. 16 - 480 ст., наклад 1000 ас.**



**У выдавецтве “Радыё Свабода” выйшла кніга “Імёны Свабоды. Выданне трэцяе, дапрацованае і дапоўненае”, 658 ст.**




**У сеціве з’явіўся 3-4 нумар электроннага краязнаўчага гістарычна-літаратурнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, 74 ст.**




**Ліда, вул. Савецкая. Абнаўленне гарадской забудовы ў стылі пачатку XX стагоддзя.** ***Здымак С. Судніка. 2020 г.***